# крыніца

ISSN 0234—1387

КАСТРЫЧНІК 1989

жыццё ў дзьмухаўцы



700073
Мінск ОПЕРУ
Белрэспжылсацбанка СССР
МФО 40019

*Рахунак у дапамогу перасяленцам, пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі*



Валерый БАБРОЎ. «Ля ракі»

Адам ГЛОБУС

# змястоўная форма

## нататкі пра мастакоўскае аб'яднанне «Форма»

1987 год быў у мастакоўскім Мінску часам утварэння творчых суполак. «Няміга-17», «Галіна», «Плюраліс» і шмат іншых груп зрабілі творцы ў процівагу фундаментальнаму, як стыль ампір, Саюзу мастакоў. Каб сцвердзіцца, кожнае з аб'яднанняў пісала маніфест, ладзіла выставу, запрашала журналістаў з мастацтвазнаўцамі і называла сябе самым існым. На старонках друку былі спробы разгарнуць палеміку, але яе не атрымалася — з аднаго боку выкрыкваліся заявы, з другога сыпаліся абвінавачанні. «Мы робім новае, цікавае, патрэбнае!» — гаварылі адны. «Мы гэта сто разоў бачылі. Такое мастацтва нікому не патрэбна!» — казалі другія. Палемікі не атрымалася. Па-першае, яе нельга весці, тым больш пачынаць у варожай і агрэсіўнай танальнасці; а па-другое, пытанні эканамічныя і нацыянальныя паўсталі востра і патрабавалі самай пільнай увагі. На сустрэчу з эканамістамі ці сябрамі суполак, якія ставілі за мэту адраджэнне нацыянальнай культуры, збіралася больш людзей, чым на адкрыццё найцікавейшай экспазіцыі.

У 1988 годзе Саюз мастакоў вырашыў замацаваць свае хісткія пазіцыі. У Саюз пачалі прымаць ледзь не ўсіх, хто падаваў заяву. На выставах вывешваліся ўсе творы, што прыносілі мастакі. У мастацкім жыцці рэспублікі адбыўся якасны скачок. Выстаўляюцца ўсе, хто толькі пажадае, экспануюць усё, што заўгодна, нават палотны Артура Клінава з жахлівымі назвамі, накшталт «Смерць піянера». Вядома, крымінальны кодэкс дзейнічае, а ўсё астатняе — калі ласка. Асобныя мастакі, што ўбачылі няўвагу грамадства да выяўленчага мастацтва, памкнуліся на палітычныя трыбуны і пачалі нахапкам фармуляваць лозунгі. На кароткі час яны звярнулі ўвагу на сябе і нават на свае творы, але толькі на кароткі час. Карацей, беларускае выяўленчае мастацтва ў 1988 годзе катастрафічна страчвала гледача, нягледзячы на тое, што мастацкае жыццё было яркім, супярэчлівым і, як мінімум, цікавым.

На маю думку, адной з самых неардынарных суполак была і застаецца «Форма». Утварэнне «Формы» прыпадае на восень 1987 года, калі групу нашых мастакоў запрасілі ладзіць выставу ў эстонскім горадзе Кохтла-Ярве. Наступная выстава «Формы» адбылася ў Дзяржаўным музеі ССР. Потым адбылася выстава ў Мінску і зноў у Эстоніі — у рамках усесаюзнага семінара па неафіцыйным мастацтве, што праходзіў вясною ў горадзе Нарва. На пачатку 1989 года «Форма» выстаўляла свае працы ў Маскве. Такі пералік датаў і гарадоў нагадвае турнэ рок-гурта, а не падарожжы мастакоўскага аб'яднання, але ў 88-м годзе ўзор паводзін задавалі рок-музыкі, а не жывапісцы і графікі, так што нічога дзіўнага.

У аб'яднанне «Форма» ўвайшлі мастакі розныя як па ўзросту, так і па пераканаННях. Але рознасць не перашкаджае ім працаваць талакою. Іх лучыць (цытую з нататкі рэкламнага буклета) «...перакананне, што развіццё мастацтва ёсць у значнай ступені развіццё формы». Адсюль і назоў аб'яднання, які вынікае з рэакцыі на шматгадовую барацьбу, што вялася супраць так званага фармалізму.

Не магу не сказаць: я цалкам перакананы ў тым, што форма і змест не існуюць паасобку. Прынамсі ніколі не сустракаў зместу без формы, як і формы, у якой няма зместу. Іншая справа, калі я няправільна ці павярхоўна прачытваў той змест. Сапраўды, можна не разумець, але нашто адмаўляць?! Адсюль вынікае, што існуе толькі змястоўная форма. А што да выяўленчага мастацтва, дык творца і павінен займацца кампазіцыяй змястоўнай формы ў акрэсленых матэрыялах — фарба, папера, палатно і ў акрэсленых паняццях — колер, пляма, рыса, кропка, фактура.

Таму назву «Форма» назаву блазенскай і эпатажнай.

Самай адметнай постаццю ў аб'яднанні з'яўляецца **Валерый МАРТЫНЧЫК**, чые палотны ўражваюць сваёю механістычнай «зробленасцю». У свой час я нават напісаў верш, прысвечаны ягоным палотнам:

**ІНСТРУМЕНТЫ**

**Прываблівае дробная карціна,**
**Калі шрубоўка, за ёй пінцэт**
**Трапляюць у гадзіннікавы свет —**
**У механізм, дзе луснула спружына.**

**У арганізм, дзе мёртвая гадзіна,**
**У лабірынт, у нетры, у сакрэт**
**Кругазвароту зорак і планет**
**Заходзяць інструменты агрэсіўна.**

**Віктар ПЯТРОЎ** у сваіх пошуках абапіраецца на вопыт нямецкіх і італьянскіх экспрэсіяністаў, але міфалагічныя сюжэты надаюць палот-

Заканчэнне на стар. 24

Валерый БАБРОЎ. «Удваіх»





Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 10 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Рэдакцыйная калегія:
Генадзь БУРАЎКІН
Аляксей ДУДАРАЎ
Леанід ЕКЕЛЬ (намеснік галоўнага рэдактара)
Міхась КАЦЮШЭНКА (першы намеснік галоўнага рэдактара)
Уладзімір ЛАБУНОЎ
Міхась ПАДГАЙНЫ
Аляксей СКАКУН
Мікалай ЧАРГІНЕЦ
Павел ЯКУБОВІЧ

Мастацкі рэдактар
Сяргей ФІЛІПАЎ
Тэхнічны рэдактар
Марына МАЛЕЦ

Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.08.89.
Падпісана да друку 22.09.89.
АТ 05342.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,1.
Тыраж 55 760 экз.
Зак. 347. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

1-я стар. вокладкі:
Валерый БАБРОЎ. «Піраміда»



# тры з'езды

Гісторыкі, якія будуць пісаць пра наш час, мабыць, звернуцца да трох падзей, што адбыліся ў чэрвені 1989 года.

З'езд Беларускага экалагічнага саюза.

З'езд Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне».

З'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Гісторыкі вымушаны будуць упікнуць нашых журналістаў: яны былі недакладныя, калі пісалі пра з'езд Народнага фронту. Скажам, у «Звяздзе» за 14 ліпеня літовец Р. Озалас атрымаў латышскае прозвішча Озалс. Рэдактар бюлетэня «Агімімас» («Возрождение»), ён названы рэдактарам газеты «Единство». Такі лісток выдае аднайменная арганізацыя, якая заняла непрымальныя пазіцыі ў дачыненні да Літоўскага руху за перабудову і вельмі шануе Ніну Андрэеву.

Здзівяцца гісторыкі паведамленню «Звязды» пра тое, што прадстаўнікі Народнага фронту Латвіі не захацелі падняцца на трыбуну, што супрацоўнік нашае рэдакцыі Анатоль Сідарэвіч у сваім выступленні на з'ездзе БНФ паставіў пад сумненне «нават сам факт утварэння СССР і неабходнасць яго існавання».

Сумленныя гісторыкі правільна напішуць і прозвішча Р. Озаласа, і назву бюлетэня, які ён рэдагуе, прачытаюць прамову прадстаўніка Народнага фронту Латвіі, а таксама А. Сідарэвіча, які гаварыў пра тое, як удасканаліць наш Саюз, зрабіць яго супольнасцю сапраўды роўных і суверэнных дзяржаў.

Гісторыкі даведаюцца, што сотні літоўскіх сем'яў прапанавалі дэлегатам свае жыллё для начлегу. Даведаюцца яны і пра тое, што ў рабоце з'езда БНФ бралі ўдзел два віцэ-прэзідэнты Беларускага экалагічнага саюза (акадэмік АН БССР Р. Гарэцкі і кандыдат біялагічных навук Л. Тарасенка), што пяць членаў Сойма БНФ «Адраджэньне» абраныя ў Раду Таварыства беларускай мовы. Факт застаецца фактам: шмат хто з членаў БНФ удзельнічае ў рабоце і Беларускага экалагічнага саюза, і Таварыства беларускай мовы. Зрэшты, адказ і карэспандэнту БЕЛТА, і пісьменніку Эдуарду Скобелеву далі ў газеце «Літаратура і мастацтва» віцэ-прэзідэнт БЭС Л. Тарасенка (21 ліпеня) і намеснік старшыні Рады ТБМ Я. Цумараў (28 ліпеня).

Трэба аддаць належнае карэспандэнту «Звязды». Ён прызнаў, што «афіцыйныя структуры» Беларусі не зусім рашуча ўзначалілі працэс перабудовы, не зусім уважліва ставіліся да запатрабаванняў людзей. Але гэта вымушанае прызнанне: яно прагучала пасля таго, як вынікі работы XIII пленума ЦК КПБ (ён таксама адбыўся ў чэрвені) строга прааналізавала «Правда» (1 ліпеня).

Замест таго, каб зразумець карані і прычыны грамадскіх рухаў, нашы газеты і «Политический собеседник» павялі кампанію супраць іх. Рухі гэтыя вылучылі, у прыватнасці, два патрабаванні: дзяржаўнасць беларускай мове і эканамічную самастойнасць рэспублікі. Давайце згадаем, як яны былі ўспрыняты, давайце пабачым, як да гэтых праблем ставяцца цяпер. Ужо не адмаўляюць, што беларускай мове патрэбны статус мовы дзяржаўнай, усе цяпер быццам за рэспубліканскі гаспадарчы разлік. Дарэчы будзе згадаць, што менавіта голас грамадскасці, «нефармалаў» адыграў немалую ролю ў тым, што «афіцыйныя структуры» вымушаныя былі павярнуцца тварам да чарнобыльскай праблемы, прыняць меры для ўшанавання памяці ахвяр сталінскага тэрору ў Курапатах.

Як бачым, іншы раз і «нефармалы» выказваюць слушныя думкі і прапановы. Шкада, што да іх не прыслухаліся своечасова, а пайшлі на абвастрэнне адносін. 30 кастрычніка 1988 г. паспрабавалі правучыць «экстрэмістаў». Такія дзеянні вялі толькі да канфрантацыі, да падрыву аўтарытэту «афіцыйных структур», што наглядна пацвердзілі выбары народных дэпутатаў СССР. Памылку можна было паправіць у студзені, даўшы магчымасць беларускім маладзёжным суполкам правесці II Вальны сойм у Мінску. Такое магчымасці не далі. Сойм прайшоў у Вільні.

У Вільні 24—25 чэрвеня прайшоў і Устаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэньне», нягледзячы на тое, што просьбу, каб яго дазволілі правесці ў Мінску, падпісалі народныя дэпутаты СССР Васіль Быкаў, Аляксандр Дабравольскі, Аляксандр Жураўлёў і Мікалай Ігнатовіч.

Дэпутаты Сяргей Габрусеў, Аляксандр Жураўлёў і Станіслаў Шушкевіч выступілі на з'ездзе з прамовамі. Свае прывітанні з'езду накіравалі народныя дэпутаты Алесь Адамовіч, Юрый Афанасьеў, Мікалай Ігнатовіч, Юрый Каракін. Васіль Быкаў, які быў у замежнай паездцы, прыслаў сваю прамову, якая была прачытана пад бурныя воплескі дэлегатаў. З'езд віталі член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР народны паэт Пімен Панчанка і народны пісьменнік Янка Брыль. На з'ездзе выступілі прадстаўнікі Літоўскага руху за перабудову «Саюдзіс», народных франтоў Латвіі, Эстоніі, Узбекістана, а таксама беларускіх суполак у Літве, Латвіі, Эстоніі і Польшчы. Была такая магчымасць і ў прадстаўнікоў «афіцыйных структур».

Дзіўна чытаць на старонках газет, што з'езд БНФ праходзіў у «гонцы і спешцы». Гэта праўда, але не ўся. У той самы час у Тбілісі працаваў з'езд Грузінскага народнага фронту. Форум гэты прывітаў першы сакратар ЦК КП Грузіі. Абмеркаванне дакументаў працягвалася пяць (!) дзён. А з'езд БНФ вымушаны быў абмежавацца толькі выхаднымі. Людзі мусілі ў панядзелак выйсці на работу, бо многім пагражала б звальненне.

Як і пасля II Вальнага сойма беларускіх суполак, праўду пра гэтую падзею мы даведваемся з маскоўскіх газет. (Вымушаныя тут агаварыцца. «Комсомольская правда», хочучы паказаць, што БНФ — справа інтэлігентаў, распавяла гісторыю пра тое, як арганізатары не пусцілі на з'езд простую сялянку. Гэта не так. Марыя Крупене прысутнічала на форуме.) З рэспубліканскіх газет аб'ектыўную інфармацыю дала «Літаратура і мастацтва».

Напружаная абстаноўка ў Ленінградзе, забастоўкі ў Кузбасе і Данбасе, іншых раёнах Саюза былі б немагчымыя, калі б мясцовыя кіраўнікі своечасова прыслухоўваліся да голасу народа, працоўных. Канфрантацыя ў рэспубліцы яшчэ не прыняла такіх формаў, але яна ёсць. І прычыны яе трэба шукаць не ў зламыснасці «нефармалаў». Апрача сацыяльных момантаў, на Беларусі прычынаю супярэчнасцяў з'яўляецца таксама і нацыянальнае пытанне.

Увесну гэтага года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдаў указ, дзе ёсць пункт аб неўстаноўленай сімволіцы. Гэты указ выклікаў незадавальненне не толькі ў нас. Супраць яго запратэставалі беларускія суполкі ў Латвіі і Літве. Там адвеку жывуць беларусы. І ў міжваенны час, і цяпер яны карысталіся і карыстаюцца нацыянальнай сімволікай. Гэты указ выклікаў негатыўную рэакцыю і ў Польшчы. Каля 200 тысяч беларусаў, якія жывуць на сваёй зямлі ў межах гэтае дзяржавы, ладзяць святы беларускай культуры на Беласточчыне пад бела-чырвона-белым сцягам і знакам Пагоні. Гэтымі сімваламі карыстаюцца беларусы ў Канадзе, Аўстраліі, ЗША, іншых краінах. Яны пачуваюцца абражанымі. Складальнікі Указа пра гэта не падумалі. Нацыянальная сімволіка не ёсць дзяржаўная, а нацыя — гэта не толькі беларусы ў БССР.

Беларусы на эміграцыі, беларусы ў Польшчы вітаюць перабудову. Менавіта да іх звярнуўся БНФ з просьбай дапамагчы ў справе ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Пасля гэтага да замежных беларусаў звярнуліся і прадстаўнікі «афіцыйных структур». Эмігранты і беларусы ў Польшчы гатовыя супрацоўнічаць з намі.

Дзяржаўнага статусу для беларускае мовы патрабуе цяпер не толькі БНФ, не толькі Канфедэрацыя беларускіх суполак, але і Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якое ўзначаліў паэт Ніл Гілевіч. Нацыянальныя мовы сталі дзяржаўнымі ў Грузіі, Арменіі, Азербайджане, Літве, Латвіі, Эстоніі, Узбекістане, Таджыкістане... Рана ці позна дзяржаўнаю моваю стане і беларуская.

Мова і зямля. Мова — для духоўнага, зямля — для фізічнага існавання чалавека. Мы не можам сказаць, што нам утульна жывецца на нашай зямлі. Прадпрыемствы «вялікай хіміі», гербіцыды, пестыцыды, неразумная меліярацыя, Чарнобыль... Здавалася б, ад сваволі ведамстваў, ад неразумнага прыродакарыстання нас павінна бараніць Беларускае таварыства аховы прыроды. Але яно занадта зраслося з «афіцыйнымі структурамі». Нарадзілася патрэба стварыць новую арганізацыю. Цяпер побач з Таварыствам аховы прыроды працуе Беларускі экалагічны саюз. Будзем спадзявацца, што новая арганізацыя не паўторыць памылкі старой.

Праграмныя дакументы Беларускага экалагічнага саюза і Таварыства беларускай мовы шмат у чым супадаюць з праграмнымі ўстаноўкамі БНФ у галіне экалогіі і моўнай палітыкі.

З'езд адбыўся. Утвораны Сойм БНФ «Адраджэньне». З 82-х кандыдатур 399-ці дэлегатаў, якія ўдзельнічалі ў галасаванні, выбралі 55 чалавек. У склад Сойму ўвайшлі народныя дэпутаты Васіль Быкаў, Сяргей Габрусеў і Аляксандр Жураўлёў. Узначалілі Сойм таксама вядомыя людзі: гісторык і публіцыст Зянон Пазняк, доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў (Гродна) і доктар фізіка-матэматычных навук Юрый Хадыка. Старшыня Сойму і яго намеснікі абраныя тайным галасаваннем з пяці кандыдатур. Значыць, дэлегаты паверылі ім. А сярод дэлегатаў былі людзі з розных куткоў Беларусі і з-за яе межаў, людзі розных прафесій, камуністы, камсамольцы і беспартыйныя. Выяўляецца, у рамках БНФ паміж імі магчымы дыялог. Можа, магчымы ён і ў маштабах рэспублікі?

Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА



арыенціры

# стэрэатыпы і рэальнасць

**Алег ЦІХАНАЎ**
**кандыдат гістарычных навук**

**да гісторыі знешняй палітыкі СССР**

Заканчэнне. Пачатак у № 9.

Карыбскі крызіс быў чымсьці накшталт халоднага душа як для савецкіх, гэтак і для амерыканскіх кіраўнікоў: яны ўсвядомілі неабходнасць прыняцця неадкладных мер дзеля змяншэння небяспекі ядзернай вайны і абмежавання гонкі ўзбраенняў. У 1963 г. была наладжана лінія прамой сувязі паміж Крамлём і Белым домам («гарачая лінія»). У тым самым годзе быў падпісаны дагавор паміж СССР, ЗША і Англіяй аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, у касмічнай прасторы і пад вадою. (Дзеля гістарычнае праўды варта адзначыць, што ЗША прапанавалі такі дагавор яшчэ ў 1959 г., але СССР настойваў на забароне ўсіх ядзерных выпрабаванняў, у тым ліку падземных.) Пасля быў заключаны дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі (1968), дагавор, які прадугледжваў забарону ў космасе ядзернай і іншых відаў зброі масавага знішчэння (1967), аналагічны дагавор у дачыненні да дна мораў і акіянаў (1970). Гэтыя меры ў нейкай ступені абмяжоўвалі гонку ядзерных узбраенняў.

З карыбскага крызісу, які выявіў перавагу ЗША над СССР у ракетна-ядзерных і ваенна-марскіх узбраеннях (у СССР было 360 ракет, у ЗША — 1500), савецкае кіраўніцтва зрабіла яшчэ адну важную выснову — аб неабходнасці дасягнення ваенна-стратэгічнай перавагі над амерыканцамі. Былі істотна павялічаны асігнаванні на ўзмацненне абараназдольнасці СССР, асабліва ў галіне стратэгічных ядзерных і ваенна-марскіх узбраенняў. На XXIII з'ездзе КПСС (1966) указвалася на тое, што ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР «вымушаны былі пайсці на павелічэнне расходаў на абарону». Натуральна, цяжар гэтых расходаў быў досыць адчувальны для нашай эканомікі, але яны былі неабходныя. І да пачатку 70-х гг. адставанне ад ЗША ў стратэгічных узбраеннях было ліквідавана.

Разрадка напружанасці стрымлівалася агрэсіўнай вайною ЗША ў В'етнаме. Можна з упэўненасцю сказаць, што амерыканцы не пайшлі б на прамую вайну супраць Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, калі б не абвастрыліся савецка-кітайскія рознагалоссі, якія перараслі ў адкрыты канфлікт. Яго першапрычына — гегеманісцкія амбіцыі тагачаснага кітайскага кіраўніка Мао Цзэдуна. Але сваю лепту ў гэтую справу ўносіў і Хрушчоў нястрыманымі заявамі і непрадуманымі дзеяннямі. Так, былі раптоўна адкліканы ўсе савецкія спецыялісты, у выніку многія прадпрыемствы, якія будаваліся ў Кітаі з савецкаю дапамогаю, засталіся недабудаваныя.

Мы справядліва асуджаем перыяд застою. Але трэба сказаць, што ў першай палове 70-х гг. поспехі ў разрадцы паміж Усходам і Захадам ўражвалі, чаму ў вялікай ступені спрыяла дасягненне ваенна-стратэгічнага парытэту паміж СССР і ЗША. У гэтай сітуацыі многія дзеячы капіталістычнага свету сталі ўсведамляць, што трэба нешта рабіць, каб разрадзіць напружанасць і зменшыць пагрозу ядзернай вайны. Адметнымі падзеямі былі дагавор 1970 г. паміж СССР і ФРГ і наступныя дамовы Заходняй Германіі з Польшчаю, ГДР і Чэхаславакіяй, чатырохбаковае пагадненне 1971 г. па Заходнім Берліне, савецка-амерыканскі дагавор 1972 г. аб абмежаванні сістэм процiракетнай абароны (ПРА) і часовае пагадненне аб некаторых мерах у галіне абмежавання стратэгічных наступальных узбраенняў, чатырохбаковае пагадненне аб заканчэнні вайны і аднаўленні міру ў В'етнаме (1973) і, нарэшце, Нарада па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе і прыняцце Заключнага акта ў Хельсінкі ў 1975 г.

Але паказальна, што, пачынаючы з другой паловы 70-х гг., такіх буйных дасягненняў больш не было. Савецка-амерыканскі дагавор 1979 г. аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў (АСУ-2), які так і не ўступіў у сілу, у значнай ступені быў заключаны па інерцыі: перамовы аб ім пачаліся яшчэ ў 1973 г. І справа тут не толькі ў тым, што ў палітыцы імперыялістычных дзяржаў, перш за ўсё ЗША, узялі верх найбольш агрэсіўныя колы, якія паставілі перад сабою мэту дабіцца сацыяльнага рэваншу за страчаныя пазіцыі. Тут далі пра сябе знаць застойныя з'явы ў нашай краіне, перш за ўсё ў эканоміцы. Бо гэта ж факт, што, як паведаміў М. С. Гарбачоў на лютаўскім (1988) Пленуме ЦК КПСС, калі не лічыць экспарту нафты і продажу спіртных напіткаў, «на працягу практычна чатырох пяцігодак мы не мелі абсалютнага прыросту нацыянальнага даходу, у пачатку 80-х гг. ён стаў нават змяншацца». На Захадзе, вядома, гэта бачылі і не прамінулі скарыстацца магчымасцю націснуць на Савецкі Саюз, выматаць яго гонкаю ўзбраенняў.

Застойныя з'явы ахапілі і сферу знешняй палітыкі. У ёй панаваў традыцыйны канфрантацыйны падыход, калі многае вырашалі трывала засвоеныя стэрэатыпы ідэалагічнага мыслення. Небяспека ядзернай вайны нібыта ўсведамлялася. Л. Брэжнеў у пасланні 2-й спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па разбраенні 15 чэрвеня 1982 г. пісаў: «Ядзерная вайна, калі яна пачнецца, магла б азначаць знішчэнне чалавечай цывілізацыі, а можа, і гібель самога жыцця на зямлі». Патрэбныя былі смелыя падыходы і ініцыятывы, але застылая кансерватыўная каманднa-адміністратыўная сістэма на гэта здольная не была. Вось, напрыклад, пытанне аб кантролі мер абмежавання гонкі ўзброенняў. Ужо з сярэдзіны 60-х гг. абодва бакі — ЗША і СССР — пачалі выкарыстоўваць разведвальныя спадарожнікі. Яны рабіліся ўсё больш дасканалыя — настолькі, што на іхніх здымках можна прачытаць нумары аўтамабіляў ці загалоўкі газетных артыкулаў. Уласна кажучы, дагавор аб ПРА, пагадненні АСУ-1 і АСУ-2 прадугледжвалі меры кантролю на аснове нацыянальных сродкаў, а па сутнасці — выкарыстання разведвальных спадарожнікаў, якія давалі і даюць у асноўным дакладную карціну стану спраў у абодвух бакоў. Настолькі дакладную, што на пачатку савецка-амерыканскіх перамоў аб АСУ прадстаўнік СССР маршал М. Агаркаў звярнуўся з просьбаю да амерыканскіх вайскоўцаў не паведамляць публічна звесткі пра савецкія ўзбраенні, каб іх не пачулі савецкія цывільныя. Аднак савецкі бок адмоўна ўспрымаў любыя прапановы аб міжнародных мерах кантролю і інспекцыях на месцах, лічачы іх ледзь не шпіянажам.

Уносіліся прапановы, якія мелі зазвычай прапагандысцкі характар. Трэба сказаць, што некаторыя з іх набывалі шырокі міжнародны рэзананс, напрыклад абвешчанае ў 1982 г. рашэнне СССР не прымяняць першым ядзерную зброю. (Кітай узяў на сябе такі абавязак яшчэ ў 1964 г.) Асноўнай мэтай гэткіх прапаноў было «загнаць амерыканцаў у кут». Але ж без гэтых самых амерыканцаў дамовіцца аб рэальных мерах па абмежаванні гонкі ўзбраенняў немагчыма. Распаўсюджвалася думка пра тое, што на любы выклік ЗША мы зможам даць адпаведны адказ. Гэта так, але якой цаною? Паводле разлікаў Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносін Акадэміі навук СССР, на вытворчасць адзінкі нацыянальнага даходу Савецкі Саюз расходуе асноўных фондаў у 1,8, матэрыялаў — у 1,6, энергіі — у 2,1, ажыццяўляе перавозак у 2 разы больш, чым ЗША. Значыць, цяжар гонкі ўзбраенняў для нашага народа нашмат больш важкі, чым для амерыканцаў. Мы не выкарысталі палітычных магчымасцей, каб зменшыць напружанасць, далі ўцягнуць сябе ў гонку ўзбраенняў, якая знясільвала нас. Як сказаў адзін пісьменнік, справа ішла да таго, што наша краіна ператваралася ў велізарную вёску, агароджаную ракетным частаколам...

Прымаліся памылковыя рашэнні, якія дорага абышліся нашаму народу. Прыклады — размяшчэнне ракет сярэдняй дальнасці ў еўрапейскай частцы СССР і ўвядзенне савецкіх войскаў у Афганістан.

У 1977 г. у строгай сакрэтнасці — звычайнай у такіх справах — на тэрыторыі СССР пачалі размяшчацца ракеты сярэдняй дальнасці тыпу РСД-10 (кодавая назва НАТО — СС-20) замест раней прынятых на ўзбраенне Р-12 (назва НАТО — СС-4; дальнасць дзеяння — 1600 км) і Р-12 (назва НАТО — СС-5; дальнасць дзеяння — 3500 км). Новая ракета мела большую дальнасць дзеяння — 5000 км — і несла ўжо не адну, а тры боегалоўкі па 150 кілатон кожная. Між іншым, усе гэтыя звесткі сталі вядомыя савецкаму народу толькі 9 снежня 1987 г., калі быў апублікаваны тэкст савецка-амерыканскага дагавора аб РСМД. Але на Захадзе новыя ракеты былі хутка выяўлены і апазнаны, і вакол іх увесну 1978 г. пачаліся вялікія дэбаты. Прадстаўнікі СССР тлумачылі гэты крок неабходнасцю мадэрнізацыі раней размешчаных ракет. У адказ запярэчылі, што гэта прынцыпова новы від ракетнай зброі, і ў снежні 1979 г. савет НАТО прыняў рашэнне аб размяшчэнні ў шэрагу краін Заходняй Еўропы — членаў гэтага блока 572-х амерыканскіх РСД: 108 «Першынг-2» і 464 крылатыя ракеты. Нягледзячы на савецкія пратэсты, у лістападзе 1983 г. пачалося іх размяшчэнне. У адказ Савецкім Саюзам былі прынятыя новыя меры: на тэрыторыі ГДР і Чэхаславакіі былі размешчаны ракеты меншай дальнасці АТР-22 (назва НАТО — СС-23). Савецкі бок у знак пратэсту спыніў перамовы з ЗША аб ракетна-ядзернай зброі. Несумненна, новыя амерыканскія ракеты прадстаўлялі значную небяспеку для СССР, асабліва «Першынг-2», палётны час якіх з ФРГ да тэрыторыі СССР — 5—6 мінут. Баз, з якіх савецкія ракеты маглі б так хутка дасягнуць амерыканскай тэрыторыі, СССР не меў. Зноў узнікла тупіковая сітуацыя з контрдзеяннямі абодвух бакоў — і так без канца.

Выйсце было знойдзена толькі на шляху новага палітычнага мыслення. 8 снежня 1987 г. у Вашынгтоне быў падпісаны савецка-амерыканскі дагавор аб ліквідацыі РСД і РМД. Станоўчае значэнне дагавору бясспрэчнае — здымаецца хаця б небяспека для СССР з боку «Першынг-2». Але факт застаецца фактам: мільярды народных сродкаў, патрачаныя на РСД і РМД, маглі б быць расходаваны на паляпшэнне жыцця народа.

Што ж да Афганістана, дык у выніку красавіцкай рэвалюцыі 1978 г. да ўлады ў краіне прыйшла Народна-дэмакратычная партыя, якая ўзяла курс на правядзенне карэнных сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў. Але, як паказалі наступныя падзеі, у адсталым, па сутнасці феадальным Афганістане са значнымі родаплямённымі перажыткамі, з фанатычна настроеным мусульманскім насельніцтвам умоў для многіх з гэтых пераўтварэнняў проста не было. Новы ўрад наладзіў блізкія зносіны з кіраўніцтвам СССР, 5 студзеня 1978 г. быў падпісаны савецка-афганскі дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве. Варта адзначыць, што ў СССР былі нармальныя і нават добрыя адносіны і з ранейшымі рэжымамі ў Афганістане.

Афганская рэвалюцыя выявіла сябе як няздольная да самаабароны. У краіне ўспыхнула грамадзянская вайна, сілы контррэвалюцыі атрымлівалі дапамогу з боку ЗША і іншых заходніх дзяржаў, а таксама з боку Пакістана і іншых краін з рэакцыйнымі мусульманскімі рэжымамі. Але трэба сказаць, што прамой ваеннай інтэрвенцыі — у адрозненне, напрыклад, ад Анголы — у Афганістане не было. Не могучы справіцца з контррэвалюцыяй сваімі сіламі, афганскі ўрад шматразова звяртаўся да СССР з просьбаю аб ваеннай дапамозе. І ў канцы снежня 1979 г. такая дапамога стала фактам. Тады ў Афганістан быў уведзены савецкі «абмежаваны воінскі кантынгент». Савецкія воіны годна выконвалі свой інтэрнацыянальны салдацкі абавязак. Але ваенныя дзеянні на тэрыторыі краіны прынялі працяглы і жорскі характар.

Уяўляецца, што, прымаючы рашэнне аб увядзенні войскаў у Афганістан, тагачаснае савецкае кіраўніцтва недастаткова сур'ёзна паставілася да таго, што пісаў пра Афганістан У. І. Ленін. У пасланні, накіраваным афганскаму кіраўніку Аманулe-хану ў красавіку 1921 г., ён падкрэсліваў: «Перакананы ў далейшым узмацненні дружбы паміж Расіяй і Афганістанам, дазвольце выказаць Вам сваю сімпатыю і ўпэўненасць, што незалежнасць Высокай Афганскай дзяржавы ні сілаю, ні хітрасцю не будзе пахіснута». У. І. Ленін ведаў, што пісаў. У ягоных «Сшытках па імперыялізме» змешчаны канспект кнігі нямецкага гісторыка Т. Егера «Персія і персідскае пытанне» (Веймар, 1916). Ён вылучыў тое месца ў кнізе, дзе гаворыцца, што афганцы ў ваенных адносінах «зусім не з'яўляюцца праціўнікам, якога можна было б недаацэньваць». Такіх самых поглядаў на Афганістан прытрымліваўся і Ф. Энгельс.

Увядзенне савецкіх войскаў у Афганістан прыкметна падарвала прэстыж Савецкага Саюза ў краінах «трэцяга свету», асабліва ў мусульманскіх дзяржавах. На працягу 1979—1987 гг. на Генеральнай Асамблеі ААН штогод прымаліся рэзалюцыі з асуджэннем гэтай савецкай акцыі, прычым пераважнай большасцю галасоў: у сярэднім 120 галасамі супраць 20 пры 11—12, якія ўстрымаліся.

Зрабіць рэальныя крокі для ўрэгулявання афганскай праблемы стала магчыма на шляху новага палітычнага мыслення ў СССР і палітыкі нацыянальнага прымірэння ў Афганістане. 14 красавіка 1988 г. у Жэневе былі падпісаны пагадненні аб Афганістане, і пачаўся вывад савецкіх войскаў з гэтай краіны.

Суб'ектывізм і валюнтарызм, кансерватызм і дагматызм, няўменне лічыцца з сітуацыяй ва ўсёй яе складанасці, келейнасць у прыняцці рашэнняў, стаўка не на якасць, а на «вал» узбраенняў і кантынгентаў, недаацэнка фінансава-эканамічных вынікаў палітычных і ваенных рашэнняў — усё гэта нанесла сур'ёзную шкоду не толькі эканоміцы, але і нашай знешняй палітыцы. Адміністрацыйна-камандная сістэма зжыла сябе і ў гэтай сферы.

Красавіцкі Пленум ЦК КПСС паклаў пачатак новаму палітычнаму мысленню, у цэнтры якога — прыярытэт агульначалавечых інтарэсаў, імкненне вырашаць любыя міжнародныя праблемы палітычнымі сродкамі і на аснве ўліку інтарэсаў дзяржаў, ставіць у наш ракетна-ядзерны век вышэй за ўсё задачу захавання і развіцця чалавечай цывілізацыі. У гэтым плане мы сталі праяўляць больш гнуткасці, гатоўнасці да ўзаемапрымальных кампрамісаў, да дыялогу і ўзаемаразумення. Мы перагледзелі сваю пазіцыю ў пытанні аб кантролі і інспекцыях на месцах па выкананні пагадненняў аб



абмежаванні гонкі ўзбраенняў. Мы надаем больш увагі ўмацаванню ролі міжнародных арганізацый, перш за ўсё Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у сусветных справах. Мы выходзім са смелымі ініцыятывамі ў вырашэнні надзённых праблем — такімі, як аднабаковы мараторый на ядзерныя выбухі (жнівень 1985 — люты 1987 гг.), праграма стварэння бяз'ядзернага свету і ліквідацыі ўсіх відаў зброі масавага знішчэння — ядзернай, хімічнай — да канца нашага стагоддзя (заява М. С. Гарбачова ад 15 студзеня 1986 г.), прапанова аб забароне хімічнай зброі пры строгім кантролі з міжнароднымі інспекцыямі на месцах, прапановы аб 50-працэнтным змяншэнні ядзерных арсеналаў СССР і ЗША пры выкананні дагавора аб ПРА ў тым выглядзе, у якім ён быў падпісаны, аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці, аб змяншэнні ўзброеных сіл і ўзбраенняў у Еўропе ад Атлантыкі да Урала, па экалагічнай небяспецы, па рашэнні рэгіянальных канфліктаў і інш. Мы палепшылі адносіны з многімі дзяржавамі, у тым ліку і ЗША. Важны крок быў зроблены ў выступленні М. С. Гарбачова на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (снежань 1988 г.). Лідэр нашай дзяржавы заявіў аб дэідэалагізацыі савецкай знешняй палітыцы. Гэта значыць, што цяпер у аснову знешнепалітычнай дзейнасці СССР будзе пакладзены ўлік рэалій сучаснага свету, а не ідэалагічныя догмы і стэрэатыпы.

У выніку адсунута пагроза вайны. Заключэнне савецка-амерыканскага дагавору аб ліквідацыі РСМД азначала ўпершыню ў пасляваеннай гісторыі пачатак працэсу змяншэння ядзерных узбраенняў. Пасля падпісання Жэнеўскіх пагадненняў аб Афганістане зрушылася з мёртвай кропкі ўрэгуляванне ўзброеных канфліктаў у розных раёнах свету.

Урокі з мінулага трэба рабіць. І галоўны ўрок у тым, што знешняя палітыка, як і іншыя сферы нашага грамадскага жыцця, павінна тварыцца імем народа на практыцы, а не ў тэорыі. З гэтага вынікае, што найбольш важныя рашэнні па знешнепалітычных пытаннях павінны прымацца не вузкім колам асоб, як было да апошняга часу, а ў рамках канстытуцыйна-паўнамоцнага механізма, як гэта прадугледжана ў рашэннях XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС. Гэты механізм павінен прымаць, а не проста штампаваць рашэнні, якія прымаюцца знешнепалітычнымі і ваеннымі ведамствамі, ці то будуць рашэнні аб агульных накірунках палітыкі, ці то рашэнні па пытаннях аб стварэнні і размяшчэнні новых сістэм узбраенняў альбо выкарыстання ваеннай сілы за межамі СССР. Варта ўвесці ў практыку, што гэтыя ведамствы — Міністэрства замежных спраў, Міністэрства абароны, Камітэт дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства знешнеэканамічных сувязей і іншыя — будуць цалкам падсправаздачныя і падкантрольныя ўсенародным выбарным органам. У практыку З'езда народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета СССР трэба ўвесці адкрытыя слуханні па тых ці іншых міжнародных праблемах, адказы міністэрстваў на запытанні дэпутатаў; зразумела, па пытаннях, якія з'яўляюцца дзяржаўнай тайнаю, гэтыя слуханні будуць закрытыя. Асноватворныя знешнепалітычныя рашэнні павінны выносіцца на ўсенароднае абмеркаванне ці, прынамсі, быць прадметам апытанняў грамадскай думкі; пры гэтым выніку апытанняў будуць галосныя.



Фота Ігара САЎЧАНКІ



Галоснасць у нашай краіне цяпер набыла шырокі размах, але ў сферы знешняй палітыкі і абароны яна робіць толькі першыя, вельмі нясмелыя крокі. Узяць, напрыклад, абаронны бюджэт СССР. На міжнароднай канферэнцыі ААН аб ўзаемасувязі паміж раззбраеннем і развіццём у Нью-Йорку 25 жніўня 1987 г. савецкая дэлегацыя паведаміла, што апублікаваны намі абаронны бюджэт (20,2 млрд. руб у год) адлюстроўвае расходы Міністэрства абароны на ўтрыманне асабовага складу Узброеных Сіл, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, ваеннае будаўніцтва, пенсійнае забеспячэнне і шэраг іншых затрат, што фінансаванне навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ, а таксама закупка ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі праходзіць па іншых артыкулах дзяржаўнага бюджэту, што пасля заканчэння прадугледжанай у нас рэформы цэнаўтварэння з'явіцца магчымасць для рэалістычнага супастаўлення агульных ваенных расходаў. Але хочацца спытаць: чаму нельга апублікаваць усе гэтыя звесткі ў цяперашніх цэнах, як гэта робіцца, напрыклад, у галіне расходаў на меліярацыю?

Ці такое пытанне. На той самай канферэнцыі было паведамлена, што ў 1986 годзе аб'ём чыстай эканамічнай дапамогі СССР краінам «трэцяга свету», падлічанай паводле метадыкі ААН, склаў 15,1 млрд. руб., што на той час адпавядала 23 млрд. долараў. Што стаіць за гэтай лічбаю? Што ў яе ўваходзіць? З другога боку, вядома, што афіцыйная (інакш кажучы, дзяржаўная) дапамога заходніх краін «трэцяму свету» складае апошнім часам усярэднім 35—40 млрд. долараў штогод і што адначасна гэтыя дзяржавы маюць з іх кожны год прыкладна 250 млрд. долараў у выглядзе плацяжоў за пазыкі, вывазу прыбыткаў сваіх кампаній, змянення на сваю карысць умоў гандлю і г. д.

Увогуле, перабудова, дэмакрадызацыя і галоснасць цалкам стасуюцца і да сферы нашай знешняй палітыкі.

Окончание следует.





Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

Міхась ГАЙЦЮКЕВІЧ

## ПЕСНЯ МЕДНАГА БРУКУ

Да месца прызначэння шчэ далёка,
а значыцца — навошта сумаваць!
Бяжы, мой конь, па бруку звонка цокай
і не давай нікому абганяць:
да месца прызначэння шчэ далёка.

«Вам па дарозе! Спынімся на хвілю.
Спяшайцеся! Там месяц малады
заблытаўся у косах маёй мілай
і зоркі звонка сыплюцца ў сады...»
— Вам па дарозе! Спынімся на хвілю.

«Расказвайце, як жонка там і дзеці.
Адкуль! З Палесся! Паляшук і я...»
І весела імчыць за намі вецер,
і светлая ляжыць вакол зямля.
— Расказвайце, як жонка там і дзеці.

І мірна гэтак ехаць нам дваім:
пакурым, памаўчым і пагамонім,
паслухаем: па бруку медзяным
вызвоньвае капытамі наш конік —
і мірна гэтак ехаць нам дваім.

Мелодыя далёкага дзяцінства:
рагаткі, рэхвы, рыжае дзяўчо
і танцы з аднаногім гарманістам,
нясмелы пацалунак у плячо —
мелодыя далёкага дзяцінства.

...Да месца прызначэння шчэ далёка,
а значыцца — навошта сумаваць!
Бяжы, мой конь, па бруку звонка цокай
і не давай нікому абагнаць:
да месца прызначэння шчэ далёка...

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## * * *

Я — вучань. Птушкі пішуць мне
У тонкі сшытак даўнія імёны.
Я ведаю замовы і праклёны,
Я чую, што гавораць дождж і снег.

Я — вучань. Мне настаўнік загадаў
Вучыць на памяць рэкі, хмары, дрэвы,
Імжу і слоту, сонца і залевы,
І кроплі свет, адкуль пайшла вада.

Я — вучань. Я імкнуся разгадаць
Пергаменты нябёсаў, кнігі жыццяў,
Валошкі сіняву у спелым жыце
І вусны, на якіх вякоў пячаць.

Мне так нялёгка, я паспець хачу,
Звініць званок, чуваць далёкі рокат...
І бачыцца, што ў бездань я лячу,
І страшна, што не вывучыў урока.

## ДОМ

Без святла я навобмацак выйду ў пакой.
Па кутах — пыл тугі, цішыня, адзінота.
І, здаецца, каханне былога самота
Недзе побач — дастаць аслабелай рукой.

Пахне даўняй пакутай, трывогай, бядой,
Лёгкі водар надзеі лунае пад столлю...
І пацягне ў завею, ў цямрэчу, на волю.
Толькі боязна ўсё ж пакідаць гэты дом.

Павел БУРДЫКА

## ХУТАР

Яшчэ малым, калі збіраў на сотках камяні,
пытаўся ў старэйшых: адкуль яны бяруцца!
Хацеў сам збудаваць сабе дом — не збудаваў.
Хацеў сам пасадзіць сабе сад — не пасадзіў.
Хацеў сам выкапаць сабе студню — не выкапаў.
Хацеў як мага далей адысці —
вярнуўся назад.
Няма хаты...
Няма саду...
Няма студні...
Замест яе вялізная Крушня ў Іржышчы.
Аддаюць камяні сваё апошняе цяпло маім
пазбіваным нагам. Вечарэе, але не магу саступіць —
балюча раніць Іржышча.
Стаю скамянелы
З камянем у руцэ...

## ГАСПАДАР

Нехта шпурляе калючым жвірам па даху, па шыбах.
Нехта на ганку трушчыць кавалачкі шкла.
Нехта заглядвае ў вокны.
І тое, што было цёплым тут, ля хатняга агменю,
робіцца халодным, а халоднае — цёплым.
— Хто гэта! — няўцямна пытаюцца дзеці,
а самыя няўрымслівыя хочуць выбегчы і паглядзець.
Але ім злосна крычаць, каб сядзелі ціха,
бо гэта проста халодны вецер, і працягваюць баіць
прыгожыя казкі ля напаленай грубкі.
Дзеці супакойваюцца і засынаюць.
А раніцай, калі ты выйдзеш на ганак, калючая бель
ударыць у вочы, і ты ўбачыш адбіткі дзіцячых слядоў,
напалову занесеных снегам.
У задуменні прастаіш да самага вечара
і раптам са здзіўленнем заўважыш,
што няма твайго ценю.

Дзмітрый
**АФЯРОЎСКІ**



# ПЯТЫ КУТ

**гісторыя ўзлёту і падзення чэмпіёна**

Усярэдзіне 70-х гадоў самай папулярнай у Мінску падзеяй быў турнір па боксе. Каля Палаца спорту збіраліся натоўпы аматараў, і здавалася, што ў наш ціхі горад перанесены норавы, апісаныя некалі Джэкам Лонданам. Аматары прамаўлялі зразумелыя толькі людзям дасведчаным словы «крос», «свінг», «сайдстэп». Усе выдатна разумелі адзін аднаго і ведалі, што хаваецца за гэтымі мудрагелістымі англійскімі слоўцамі. Удары, перамогі, паражэнні. Над натоўпам лунаў дух сапраўды мужчынскіх забаў, лунаў дух боксу. Тады, усярэдзіне 70-х, амаль што кожны мінскі хлапчук мог расказаць змест маленькае драмы, якая здарылася ў невялікай прасторы, абцягнутай белымі канатамі,— на рынгу Палаца спорту. Цяпер пра гэта памятаюць, напэўна, нямногія, але тады спартыўны свет Мінска жыў боем паміж Тэафіла Стывенсанам і Ігарам Высоцкім, магаданскім цяжкавагавіком, які зваліў легендарнага кубінца няспыннымі атакамі па корпусе.

Што і казаць, цікавыя былі падзеі...

Цяпер нават чэмпіянаты свету збіраюць ад сілы адну трыбуну ў Палацы спорту; а тады кантралёры працавалі як чорнарабочыя, адпіхваючы хлапчукоў, якія жадалі трапіць без білета ў запаветную залу. Сёння перанасычаныя хлебам і відовішчамі хлапчукі, здаецца, не рвуцца і на канцэрты рок-зорак.

Баксёрскі турнір меў сваіх герояў. І сярод іх самага, бадай, сімпатычнага, сярэдневагавіка з Гродна Славу Прэлоўскага. Дарэчы, і Гродна тады быў горадам іншым, чым цяпер. Ва ўсякім разе, кожны гродзенец, які паважаў сябе, стараўся падкрэсліць сваё «паходжанне» і «шляхетнасць». Гродзенскія баксёры і апраналіся неяк па-свойму, і іх лёгка было пазнаць сярод усеагульных тады «канадак» па фірменных гродзенскіх прычосках з праборам, зробленым па абсалютна прамой нітачцы. Слава Прэлоўскі выглядаў на рынгу джэнтльменам. Падымаўся ў свой кут, элегантна скідваў на рукі секунданта халат і, дэманструючы мускулы, цырымонна здароўкаўся з публікай. У зале пачыналася хваляванне. Прэлоўскі тонка ўсміхаўся ў сваім куце і нечакана правёўшы некалькі маланкавых удараў па паветры, перадаваў зале свой азарт — тая ўжо з нецярпеннем чакала драматычнае барацьбы.

Публіка «заводзілася». Праціўнік Прэлоўскага выглядаў асуджаным на паражэнне. І Слава выходзіў са свайго кута расслабленай паходкаю пераможцы, і працяжны гук гонга паволі расцякаўся над разгарачанай залаю.

Я памятаю, як ён баксіраваў з высокім ірландцам. Абараняўся той проста класічна: падбароддзе, як у скрыпача, уцягнута ў левае плячо, правая рука адведзена для ўдару, вага цела на левай назе — хрэстаматыя! Брытанец прыехаў у Мінск у рангу другой пальчаткі Еўропы, і калі па жэрабю яму выпала біцца з Прэлоўскім, ягоныя трэнеры ўзрадаваліся. Прэлоўскага не ведалі ў вышэйшым баксёрскім свеце. І толькі тады, калі стойкага ірландца амаль непрытомнага вывелі з рынга, трэнеры віцэ-чэмпіёна кантынента зразумелі, якое нядобрае было жэрабя...

Дзіўна. На многіх усесаюзных турнірах Прэлоўскі выглядаў увогуле сярэднім баксёрам. Выйграваў у слабейшых, прайграваў мацнейшым. Лічыўся перспектыўным і добра падрыхтаваным, але не больш. А вось у Мінску ён мяняўся на вачах: роўных яму не было. Калі нехта вядзе летапіс беларускага бокса, які, дарэчы, увайшоў, на маю думку, у паласу зацяжнога крызісу, дык ён адзначыць асобую ролю шматразовага пераможцы турніра на прызы мінскага Палаца спорту Вячаслава Прэлоўскага. Ах, як ён выступаў! Думаю, што не адна сотня хлапчукоў у тыя красавіцкія дні папаўняла мінскія секцыі боксу, дзе іх чакалі Уладзімір Коган, Уладзімір Бацвіннік, Яўген Абакумоўскі і іншыя тагачасныя «кавалі» чэмпіёнаў рынгу.

...Аднойчы, гады чатыры таму, я сустрэў гродзенскага прыяцеля. Разгаварыліся, згадалі агульных знаёмых.

— Як там пажывае наша знакамітасць? — спытаўся я.— Прэлоўскі?

— Слаўка? — абыякава перапытаў знаёмы.— Бухае.

І, па-філасофску памаўчаўшы, дадаў:

— Па-чорнаму п'е.

Было гэта так нечакана, што я нават не стаў удакладняць...

Потым сталі даходзіць весткі, што бліскучы спартсмен Прэлоўскі проста «сышоў з круга». Быў асуджаны, потым яшчэ раз. Стаў сваім чалавекам сярод крымінальнікаў. Увогуле, калі і заходзіла гаворка пра ўлюбёнца публікі, дык толькі ў змрочным тоне. А многія з трэнераў і спартсменаў, якія калісь выступалі побач з ім, увогуле адмоўчваліся, у лепшым разе адказвалі на маё пытанне безнадзейным узмахам рукі.

...Перагортваючы свае старыя нататнікі, шукаю запісы пра тыя слаўныя баксёрскія падзеі ў жыцці Прэлоўскага. Баі, перамогі, медалі, кубкі...

Дзе ж пачатак тае сцяжынкі, якая прывяла чэмпіёна ў тупік? Дзе пачатак канца?

Можа, усё пачалося з альтанкі, якую аблюбавалі заўзятары, што збіраюцца ў гродзенскім скверы? Туды любілі падысці пасля трэніроўкі футбалісты, баксёры. У альтанцы быў «клуб», трапіць у які марылі многія. У «клубе» не толькі гаварылі аб спорце. У альтанцы распівалі шампанскае, адзначалі поспехі, суцяшалі няўдачнікаў. Першы раз Слаўку прывялі хлопцы з каманды, і ён страшэнна ганарыўся, што вядомыя ў горадзе заўзятары паважліва паціскалі яму руку, пасоўваліся, усаджвалі. Хлопцы, якія прыйшлі з ім, былі досыць вядомыя баксёры, але ўсё лепшае ў іх мінула, настаў час вешаць пальчаткі на цвік, яны і сказалі тады Слаўку:

— Хадзем расслабімся.

Слаўка павольнымі глыткамі піў шампанскае, і яму здавалася, што гэта не ён, а нехта іншы вось так шыкоўна цэдзіць віно, а вакол усе чакаюць і спяшаюцца задаць пытанне. Было неверагодна прыемна назіраць усё гэта збоку.

— А ведаеш, хлопец, у цябе правая як поршань у маторы, сказаў нехта,— я думаю, што хутка пра цябе будуць пісаць у газетах. Давай чокнемся.

Назаўтра трэнеры адышлі ўбок і пачалі шаптацца. Слаўка, як у барабан, гулка біў па «грушы», але сёе-тое ён улавіў.

— Не можа быць,— шаптаў адзін трэнер другому. А той сумна ківаў галавою: можа. Потым трэнер падышоў і сказаў:

— Хопіць. Схадзі ў душ і вяртайся. Трэба пагаварыць.

Калі Слава вярнуўся, трэнер сказаў яму:

— Хлопец, сёння ты выглядаеш як восеньская муха. У такім стане цябе на рынгу наб'е любая бабуля. Мне сказалі, што цябе бачылі ў альтанцы. Гэта праўда?

Тады ён зманіў упершыню, хоць сам сабе пакляўся абыходзіць гэтую альтанку за дзесяць вуліц. Але ўжо праз тыдзень яму стала нудна без паважлівых роспытаў пра здароўе, пра стан правай рукі, без захопленых позіркаў. Клянучы самога сябе, ён прышоў туды, і яго сустрэлі ледзь не авацыяй.

Хто былі гэтыя дарослыя людзі, якія разумелі, што сваімі рукамі штурхаюць маладога спартсмена да краю прорвы? Можа, ім потым, праз гады, калі на вуліцах Гродна бадзяўся непаголены і п'яны суб'ект, гатовы на ўсё дзеля выпіўкі, стала сорамна? Наўрад ці! У кожным зламаным лёсе вялікага спартсмена заўсёды ёсць месца каляспартыўным людзям, якія грэюцца ў промнях чужое славы і ўмомант забываюцца на былога куміра, ледзь толькі заканчваецца ягоны спартыўны шлях.

Хто ўскоквае начамі ад пакутаў сумлення, успамінаючы пра няшчаснага Пракапенку, вялікага футбаліста і слабага чалавека, якога проста спаілі і кінулі на волю лёсу гэтыя самыя каляспартыўныя людзі? Калісь многія выхваляліся тым, што прабавілі «вечарок з Пракопам». Калі ён памёр, тыя ж самыя людзі абыякава аднесліся да гэтае весткі.

Хто каяўся, гледзячы, як апускаецца знакаміты барэц Алег Караваеў, пакінуты пасля алімпійскіх перамог усімі, хто на кожным кроку крычаў пра вечнае сяброўства?

Гэты пералік імёнаў і сумных падзей можна было б і прадоўжыць. Але справа, вядома, не ў статыстыцы, а ў норавах, якія, на жаль, спадарожнічаюць нашаму вялікаму спорту. Вядома, з гэтай з'явою можна сутыкнуцца не толькі ў спорце. Але тут гэта выглядае найбольш рэльефна: асоба і акружэнне, слава і адказнасць, высокае і нізкае. Таму такі вялікі запас зламаных спартыўных лёсаў, гэты сумны мартыралог учарашніх куміраў і заўтрашніх няўдачнікаў.

Гартаю старыя нататнікі...

А можа, пачатак канца — тая хвіліна, калі на загараднай спартыўнай базе да Прэлоўскага падышоў трэнер зборнай і цвёрда, як аб чымсьці вырашаным, сказаў:

— Слава, заўтра ты павінен зняцца. На ўзважванні скажаш, што захварэў. Доктар у курсе.

— Але чаму? Я ж гатовы, вы ж ведаеце. Я паб'ю яго, упэўнены.

— Так трэба, Слава. У інтарэсах каманды. Нам гэта трэба. Потым, калі будзе трэба, здымецца ён.

У той самы дзень Прэлоўскі паехаў са збораў, а назаўтра яго бачылі ў такім выглядзе, што знаёмыя жахнуліся. Прэлоўскі быў жудасна п'яны, і калі на званок да яго на кватэру прымчаўся ягоны асабісты трэнер, дык пачуў горкі расказ пра несправядлівасць.

Калі мне давялося пагаварыць з трэнерам зборнай, цяпер ужо былым, дык гэты ўсмешлівы і зычлівы масквіч смачна, па-сталічнаму налягаючы на літару «а», сказаў:

— А ты думаеш, вялікі спорт — гэта так? Цацкі? Не, браце, гэта такая дыпламатыя, што ў ёй не кожны пасол разбярэцца. Мяркуй сам: патрэбныя майстры спорту. Па іх мяркуюць пра трэнера, ад лічбаў залежаць ягонае рэнаме, дабрабыт. Паспрабуй даваць вынікі. А мы вырашаем палюбоўна. Сёння мой вучань «прыгнецца», дасць каму трэба дарогу, а заўтра яго прапусцяць. Усім добра, і майстры ёсць, і ніхто адзін на аднаго не крыўдзіцца.

— А хлопцы? Яны ж бачаць двайную бухгалтэрыю.

— Што хлопцы? Хто не дурань, зразумее сам, а хто не зразумее... незаменных няма.

Такое спартыўнае жыццё. Для заўзятараў яно аднамернае, складаецца з ачкоў, галоў і секунд, а для дзейных асоб поўнае самых разнастайных калізій. У спорце перамагае не толькі мацнейшы. Перад Сеульскай Алімпіядай гродзенскаму цяжкавагавіку Федарэнку не было ў сваёй вазе роўных. Ён перамагаў усіх. Толькі на адным, далёка не галоўным турніры Федарэнка прайграў, але ўсе разумелі, што гэта выпадковасць. Федарэнку называлі будучым чэмпіёнам. Аднадушна. Але ў Сеул паехаў не ён, а тбілісец Гедэхауры. Пра тое, што здарылася ў сталіцы Паўднёвай Карэі, мы ведаем: Гедэхауры бораўся слаба і прайграў. Федарэнка ў роспачы стукаў кулаком па стале перад тэлевізарам. Ён бы абавязкова выйграў, але трэнеры спынілі свой выбар не на ім.

— Чаму здарылася несправядлівасць? — абзваніў я мінулым летам многіх аўтарытэтаў барцоўскага дывана.

Адказы былі розныя, пераважна намёкі. Я, безумоўна, не магу апускацца да ўзроўню плётак, але ўсе намёкі зводзіліся да таго, што гаворка ішла пра конкурс трэнераў. Хто лепш «зацікавіць» селекцыянераў зборнай каманды. Трэнеры Федарэнкі былі ідэалісты, і патэнцыяльны чэмпіён Алімпіяды застаўся дома. Намёкі намёкамі, але я высветліў багата цікавага. Выяўляецца, у такім відзе спорту, як барацьба, дзе ў кожнай вазе існуе вялікая колькасць прыкладна роўных атлетаў, за права быць пасланым у прэстыжную паездку пачынаецца барацьба, дзе галоўнымі козырамі з'яўляюцца грошы. За руку, здаецца, ніхто нікога яшчэ не злавіў, ды гэта і немагчыма. Але справа гэтая — выгадная. Спартсмены і трэнеры вяртаюцца з ЗША і Японіі нагружаныя, як вярблюды, кардоннымі скрынкамі з надпісамі «Соні» і «Хітачы».

Адразу ж у аэрапортах дэфіцытная электроніка «здаецца» аптавікам.

Спартсменам плацяць мала, век іхні кароткі, перспектывы цьмяныя. Яны спяшаюцца ўхапіць сваё.

Але хто растлумачыць, чаму наш спорт, які павінен выхоўваць гарманічных людзей, у маральных язвах? Допінг-кантроль пастаянна выяўляе атлетаў, якія прадалі душу хімічнаму д'яблу, футбольныя каманды «дамаўляюцца» аб выніку, а футбольныя суддзі даюць пенальці ў знак удзячнасці за гасціннасць гаспадароў поля. Гледачы адно здагадваюцца аб падводных плынях, а спартсмены ў іх удзельнічаюць.

Вядома, рана ці позна грамадства спахопіцца. Адстаўка М. Грамава, якая адбылася на сесіі Вярхоўнага Савета, была справаю дэпутатаў, занепакоеных тым, што бляск залатых медалёў не перакрывае ценю мафіі ад спорту. Грамаў пайшоў, а праблемы засталіся. І сёння трэнер кажа хлопчыку:

— Ты мацнейшы, але паедзе іншы. Будзь паслухмяны, і твой час настане.

Можаце не сумнявацца, «паслухмяны» хлопчык зробіць высновы з урока, перакапаецца, што спорт — гэта не толькі «вышэй — далей — хутчэй»...

Вячаслаў Прэлоўскі ў гэтым пераканаўся таксама. Можа, тады яму ўпершыню прыйшла думка, што самыя высокія словы — усяго толькі абалонка для пустаты. Галоўнае — кулакі. Людзі паважаюць тых, каго баяцца. Ён стаў жорсткі і на рынзе, і ў жыцці.

А ці ведаеце вы, што жорсткасць і сіла таксама могуць стаць таварам? Прычым дужа дарагім. Калі Прэлоўскі за шклянку гарэлкі, якую паабяцалі яму за «работу», упершыню зваліў чалавека на зямлю, ён раптам убачыў, што ёсць магчымасць прадоўжыць бесклапотныя дні. Якая гэта, на самай справе, работа — ударыць каго трэба ці на каго пакажуць. Звычайная, увогуле, справа, тым больш што плацяць прыстойна. Ён стаў прафесійным «вышыбалам», цёрся ля шулераў, ахоўваў «грашовых мяшкоў», выбіваў пазыкі. Добра пастаўлены ўдар справа спатрэбіўся і ў калоніі, куды Прэлоўскі трапіў праз пару гадоў пасля таго, як заняўся «прафесійным боксам». Адміністрацыя ВПУ заахвочвала асуджанага за ягоныя добрыя кулакі: ён дапамагаў «выбіваць» план, падганяў гультаёў.

Гэта асобная праблема. Кулачнае права стала спадарожным фактарам нашай пенітэнцыярнай сістэмы. У калоніях існуе культ кулака. І часцей за ўсё ў ролі падганялаў для «рабацяг», падтрымання «аўтарытэтаў» выстаўляюць былых спартсменаў.

А колькі іх сёння ў рэкеце, у ахове кааператываў, колькі з'явілася наёмных забойцаў, якія атрымалі першыя ўрокі жорсткасці ў спартыўных залах? Сёння хваля арганізаванае злачыннасці, якая выплеснулася на вуліцы, агаліла вострую праблему, якая раней хавалася ў газетных публікацыях пад рубрыкаю «Куды ідзе чэмпіён». Сёння чэмпіёны досыць часта ідуць у крымінальшчыну. І гэты фактар важны не толькі для крыміналагаў, але і для ўсіх нас. Сёння каратыст, здольны адным ударам забіць чалавека, нашмат больш небяспечны за класічнага блатара з фінкаю за халяваю. Безумоўна, я не стаўлю пад сумненне маральныя якасці ўсіх каратыстаў, я вяду гаворку аб праблеме. Відавочна, што сёння моцныя мускулы часта служаць мэтам, далёкім ад высакародных задач спорту. Нядаўна ў Мінску на лаву падсудных апусцілася некалькі вядомых у недалёкім мінулым спартсменаў, сярод якіх былі нават майстры спорту міжнароднага класа. Судзілі іх за рэкет. Што прывяло за краты былых чэмпіёнаў? Не апошнюю ролю ў іхнім падзенні адыгралі ўрокі жорсткасці, атрыманыя ў вялікім спорце, урокі амаральнасці ў спартыўна-трэніровачных працэсах. Іх навучылі перамагаць, але не прышчапілі павагі да асобы іншага чалавека. Апынуўшыся па-за спортам і тымі цяплічнымі ўмовамі, у якіх жывуць «гладыятары XX стагоддзя», маладыя людзі працягваюць зарабляць на жыццё так, як умеюць. Кулаком. Тым больш што сёння за гэта плацяць і нават заказваюць музыку...

Пра ўсё гэта я думаў, калі ў Гродна судзілі былога чэмпіёна па боксе Прэлоўскага. Ён забіў чалавека, сваю жонку. Наўрад ці хто мог пазнаць у гэтым худым мужчыне, што згорбіўся за невысокім бар'ерам, імпазантнага, з праборам, піжона, які «заводзіў» велізарную залу мінскага Палаца спорту. Судзілі забойцу. А я думаў пра людзей, якія былі побач з Прэлоўскім усе гэтыя гады, думаў пра тое, што сёння ён мог бы быць знакамітым трэнерам, і хлапчукі паважліва называлі б яго між сабою настаўнікам...

Гучалі страшныя словы прысуду, а я згадваў 70-я гады і спартсмена, для якога лёс быў адкрытым сшыткам з чыстымі аркушамі. І яшчэ мне хацелася спытацца ў сябе і ва ўсіх:

— Чаму так трагічна склаўся лёс чэмпіёна? Хто вінаваты? Што мацней: мы ці абставіны? Што можна сказаць хлапчуку, які марыць пра чэмпіёнскую кар'еру?

І мне хацелася б, каб у зале суда было як мага болей людзей. Гісторыя падзення Прэлоўскага, дальбог, таго заслугоўвала.















**Гэтыя сёстры міласэрнасці — з веруючых, яны бясплатна даглядаюць хворых у Інстытуце траўматалогіі і артапедыі. Зусім нядаўна такое было проста немагчыма. Не таму, што веруючыя былі неміласэрныя, а зараз раптам адчулі неабходнасць рабіць дабро, не. Справа ў тым, што савецкае заканадаўства аб культах дазваляе рэлігійным аб'яднанням толькі тую дзейнасць, якая накіравана на задавальненне рэлігійных запатрабаванняў. Ім забаронена, напрыклад, аказваць матэрыяльную дапамогу веруючым і іншым грамадзянам, арганізоўваць санаторыі і лячэбную дапамогу. Мабыць, аўтары гэтага заканадаўства вельмі моцна непакоіліся пра стан савецкай антырэлігійнай прапаганды...**

**Перабудова многае змяніла. Хто б мог падумаць яшчэ гадоў пяць таму, што тысячагоддзе хрышчэння Русі будзе святкавацца ў нашай атэістычнай дзяржаве гэтак шырока і свабодна, што веруючыя змогуць змагацца, і не без поспеху, за перадачу ім паўразбураных храмаў; што прадстаўнікі царквы стануць народнымі дэпутатамі... Лёд рушыўся.**

**Добрае слова, ласкавыя рукі, бескарыслівае жаданне дапамагчы — галоўная «зброя» гэтых жанчын. Угледзьцеся ў твары: колькі ў іх святла і чалавекалюбства, мудрасці і дабрыні. Сёстры міласэрнасці...**

**ФОТА Цімура ГРЫБА**

Аляксей
АНДРЭЕЎ

# жыццё паводле статута

## нататкі былога салдата



Фота Сяргея БРУШКО

Сёння шмат пішуць пра армейскія праблемы ўвогуле і пра сумна вядомую «дзедаўшчыну» ў прыватнасці. Пачатак бясконцаму патоку лістоў і матэрыялаў як у цэнтральным, так і ў мясцовым друку быў пакладзены аповесцю Юрыя Палякова «100 дзён да загаду». Публікацыя яе, паводле думкі многіх прафесійных вайскоўцаў, нанесла дужа вялікую шкоду аўтарытэту Арміі ў народзе, а значыцца, была непатрэбная і благая. Сярод асабліва зацятых абаронцаў гонару мундзіра знайшліся і тыя, што са старонак ваеннай перыёдыкі спрабавалі запэўніць грамадскасць у адсутнасці праблем, закранутых Ю. Паляковым у згаданай аповесці.

Не хочацца ўступаць у спрэчку з людзьмі, якія дагэтуль упарта лічаць маўчанне золатам. Тым больш іх заявы, разлічаныя на тых, хто знаёмы з сённяшнім днём Узброеных Сіл толькі па рэпартажах «Служу Савецкаму Саюзу», трохі змяніліся і зводзяцца да знакамітай фармулёўкі «асобныя недахопы маюць месца». Гэта ўжо нядрэнна. Упэўнены, што ў недалёкай будучыні людзі, адказныя за ўсё тое, што адбываецца ў Арміі, зразумеюць, што толькі шчырая і прынцыповая размова без усялякага замоўчвання і алегорый дапаможа нам разабрацца ў яе праблемах. Узор такое размовы паказалі члены Вярхоўнага Савета СССР.

Не чакаючы гэтага мройнага часу, хачу падзяліцца некаторымі сваімі думкамі і меркаваннямі, што не давалі мне спакою на працягу двух гадоў тэрміновай службы. Адразу ж падкрэслю: усё ніжэйсказанае — не больш чым мая суб'ектыўная думка і, натуральна, не можа быць ісцінаю ў апошняй інстанцыі.

Пачаўшы з канстатацыі фактаў пазастатутных адносін (іх ужо, на шчасце, ніхто не аспрэчвае), мы сёння ўсвядомім неабходнасць высвятлення прычын, якія іх спарадзілі. Армія, безумоўна,— плоць ад плоці народа, нашага грамадства. Усе тыя з'явы, якія мы называем «застойнымі», не маглі не закрануць яе, і грамадства не мае права здымаць з сябе адказнасць за гэта. Тым больш што «дзедаўшчына», як выявілася, існуе і ў цывільным жыцці: у многіх школах, ПТВ і нават інстытутах. Гэта так. Але я катэгарычна нязгодны з тым, хто аб'яўляе ўсё гэта першапрычынаю пазастатутных адносін.

Так, служыць сёння прыходзяць не тыя ідэальныя хлопчыкі, пра якіх расказвалі сродкі масавай інфармацыі пяць-шэсць гадоў назад. Для многіх з іх гвалт — натуральны сродак дасягнення сваіх мэт, часцей за ўсё нізкіх і амаральных. Для многіх. Ды не для ўсіх. І тым не менш (я гатовы гэта сцвярджаць) у пазастатутных адносінах (у якіх бы формах яны ні выяўляліся — «дзедаўшчыны», «зямляцтва» ці што-небудзь яшчэ) не ўдзельнічаюць толькі адзінкі. Каб суцешыць нашых мам, скажу, што зусім не абавязкова ўсе пагалоўна займаліся ў Арміі мардабоем ці прымалі ўдзел у дзікіх начных забавах, ахвярамі якіх станавіліся салдаты малодшых прызываў. Але прывілеямі стараслужачых, што ўстаноўлены няпісанымі армейскімі законамі, у большай ці меншай ступені карысталіся ўсе. Не верце тым, хто сцвярджае адваротнае. Бо Узброеныя Сілы сёння — гэта тая глеба, на якой насенне амаральнасці, занесенае з цывільнага жыцця, дае моцныя парасткі. Нашмат мацнейшыя, чым у любым іншым месцы. Чаму? Гэтае пытанне мучыла мяне два гады. Я не бяруся сцвярджаць, што знайшоў на яго адзіна дакладны адказ. Прычын можа быць некалькі. Але адна з іх, самая галоўная, у тым, што нідзе, за выключэннем выпраўленчых устаноў (параўнанне бянтэжыць, але, на жаль, напрошваецца само сабою) савецкі чалавек не бывае менш вольны, чым у Арміі. **Нявольны чалавек не можа быць маральным.** Некаторыя вельмі моцныя асобы могуць быць сумленнымі і прыстойнымі незалежна ад таго, што адбываецца наўкол. Але толькі некаторыя. Сведчанне таму — увесь наш нялёгкі шлях у «светлую будучыню», які закончыўся для мільёнаў у лагерах ГУЛАГа, а для астатніх — шматгадовым таптаннем на месцы. Што адбывалася з нашай маральнасцю ў гэтыя гады, я думаю, ведаюць усе. Размова цяпер не пра тое. Статут Узброеных Сіл СССР замацоўвае адсутнасць свабоды для ваеннаслужачых тэрміновай службы амаль юрыдычна. Яна выдаецца маленькімі порцыямі ў выглядзе звальненняў з часці. Напэўна, многія чулі дзіўныя, падобныя на легенду расказы пра тое, што салдат арміі ГДР, як і шэрагу іншых сацыялістычных краін, пасля выканання сваіх службовых абавязкаў мае заканадаўча замацаванае права пакінуць сваё падраздзяленне, што ва ўмовах мірнага часу не пагражае бяспецы ягонай радзімы. Не знаходзячыся на баявым дзяжурстве, ён мае права начаваць не ў часці, паведаміўшы пра сваё месцазнаходжанне.

Мне не хочацца каменціраваць палажэнне нашага Статута ўнутранай службы, які дазваляе салдатам і сяржантам звальненне толькі ў выхадныя і святочныя дні, вызначае колькасць звальняемых (не больш за 30 працэнтаў асабовага складу) і дае камандзіру права ўвогуле забараніць звальненні на любы тэрмін. Гэтыя палажэнні гавораць самі за сябе.

Савецкі салдат, нават знаходзячыся не ў часці, не мае права пераапрануцца ў цывільную форму адзення. Відаць, людзі, якія працавалі над складаннем цяперашняга Статута, былі ўпэўнены ў тым, што, зняўшы з сябе форму, ён адразу ж пачне здзяйсняць учынкі, нявартыя высокага звання ваеннаслужачага Узброеных Сіл СССР. Але, відавочна, нават форма не з'яўляецца, з іх пункту погляду, гарантыяй бездакорных паводзін абаронцаў Радзімы. Інакш чым растлумачыць колькасць ваенных патрулёў у буйных гарадах? Іншы раз мне здаецца, што іх значна больш, чым нарадаў міліцыі.

Паколькі пераважная большасць ваеннаслужачых не збіраецца рабаваць ювелірныя магазіны і забіваць прахожых, гарнізонныя гаўптвахты запаўняюцца ў нядзельныя дні салдатамі, якія парушылі форму адзення ці аддалі чэсць не за пяць-шэсць крокаў, як гэтага патрабуе Статут, а за тры-чатыры. Удумайцеся: у камеру за няправільна прыколаты значок трапляе абаронца Радзімы! І гэта не сон, гэта рэальнае становішча, замацаванае законам, які, дарэчы, зацвярджаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР. Я не хачу стамляць чытача цытаваннем і ўсім, хто сумняваецца, прапаную азнаёміцца з абавязкамі начальніка патруля, выкладзенымі ў Статуце гарнізоннай і каравульнай службы. Да болю знаёмыя, абцякаемыя фармулёўкі, якія дазваляюць пазбаўляць волі чалавека фактычна ні за што, калі гэта толькі здасца неабходным начальніку патруля.

Пра тую лёгкасць, з якой трапляюць за краты ваеннаслужачыя тэрміновай службы, можна гаварыць доўга. Арышт з утрыманнем на гаўптвахце ўзяты на ўзбраенне ў Арміі як адна з мер дысцыплінарнага пакарання. Я не збіраюся аспрэчваць неабходнасць яе існавання, але я катэгарычна супраць права, дадзенага ўсім без выключэння камандзірам, пачынаючы з камандзіра роты, пазбаўляць волі сваіх падначаленых. У мірны час салдаты тэрміновай службы не павінны трапляць пад арышт воляю аднаго чалавека, бо няма ніякае гарантыі, што гэты чалавек здольны аб'ектыўна ацаніць ступень віны падначаленага і саўладаць са сваімі эмоцыямі. Пытанні, звязаныя з пазбаўленнем волі ў літаральным сэнсе слова, павінны вырашацца ва Узброеных Сілах ваеннымі трыбуналамі ці іншымі органамі, аналагічнымі цывільным народным судам.

У Арміі павінны існаваць грамадскія інстытуты, якія гарантуюць ваеннаслужачым абарону іх элементарных правоў. Сёння салдат не мае магчымасці абараніць сябе ад прыхамаці камандзіра, бо ў артыкуле 117 Дысцыплінарнага статута чорным па белым запісана: «Забараняецца скардзіцца на строгасць дысцыплінарнага пакарання, калі камандзір (начальнік) не перавысіў дадзенай яму дысцыплінарнай улады», а ў артыкуле 95 законам аб'яўляецца наступнае палажэнне: «Старшы начальнік не мае права адмяніць або зменшыць дысцыплінарнае пакаранне, накладзенае малодшым начальнікам, з прычыны строгасці пакарання, калі апошні не перавысіў дадзенай яму ўлады». Каментарыі, мне здаецца, залішнія. Не ведаю, як у каго, а ў мяне пасля прачытання гэтых артыкулаў міжволі складваецца ўражанне, што ў Армію прыходзяць служыць калі не прафесійныя, дык, прынамсі, патэнцыяльныя злачынцы. Але ж практычна любы крымінальнік, асуджаны народным судом да пазбаўлення волі, можа паскардзіцца на рашэнне гэтага суда адразу пасля вынясення прысуду. Чаму ж гэтага права пазбаўлены людзі, якія выконваюць свой абавязак перад Радзімаю?

Я думаю, няма неабходнасці тлумачыць, што чалавечую годнасць прыніжае сам факт пазбаўлення волі, незалежна ад тэрміну.

Адстаяць сваю асабістую годнасць салдату ці сяржанту няпроста нават у тым выпадку, калі ён не парушае груба воінскай дысцыпліны. Бо адносіны паміж начальнікам і падначаленым ва Узброеных Сілах будуюцца на безумоўным, часта нічым не апраўданым падпарадкаванні апошняга. Гэтае падпарадкаванне носіць настолькі ўсеагульны характар, што не пакідае салдату ніякае магчымасці захаваць сваю індывідуальнасць, робіць яго залежным ад камандзіра цалкам. Нават у пытаннях, якія зусім не звязаны з боегатоўнасцю Арміі і бяспекаю дзяржавы. Абавязковымі становяцца ўсе мерапрыемствы, якія праводзяцца ў рэдкія выхадныя дні, прымусовымі — штодзённы прагляд праграмы «Час». Ці стане больш адукаваным палітычна чалавек, якога ўтрымліваюць ля тэлевізара пад страхам пакарання? Пытанне рытарычнае.

Тыя нямногія вольныя гадзіны, якія застаюцца ад выканання асабовым складам службовых абавязкаў, аб'яўляюцца па чарзе то спартыўным, то палітмасавым часам з абавязковым канспектаваннем трох-чатырох ленінскіх прац, у якіх сустракаюцца палажэнні аб неабходнасці жалезнай воінскай дысцыпліны. Такі ўбогі падыход да творчае спадчыны Уладзіміра Ільіча скажае самую сутнасць ягонага вучэння аб абароне Айчыны. Ні ў адной з ягоных прац няма выказванняў пра тое, якая Армія нам патрэбная на восьмым дзесяцігоддзі існавання Савецкай улады. Асмелюся меркаваць: не зусім такая, як у час барацьбы з Калчаком. Дарэчы, у той час яна была больш дэмакратычная, чым сёння. Тая бяздань улады, якая даецца ўсім без выключэння камандзірам, не можа быць апраўданая ва ўмовах мірнага часу. Тым больш у вырашэнні пытанняў, не звязаных з выкананнем баявой задачы.

Немагчымасць па ўласным жаданні (у межах разумнага) распараджацца сваім уласным часам, практычна поўная адсутнасць сувязей са знешнім светам, татальная залежнасць ад волі камандзіра наносяць сур'ёзную шкоду не толькі інтэлекту ваеннаслужачага, але і ягонаму маральнаму здароўю. Я перакананы, што **паміж статутнымі і пазастатутнымі адносінамі існуе прычынна-выніковая сувязь.** Чалавек, якога з лёгкасцю прыніжаюць, з такой самай лёгкасцю прыніжае іншага. Мы не зможам істотна аздаравіць сітуацыю ва Узброеных Сілах, калі не пераглядзім прынцыпы адносін паміж ваеннаслужачымі. Калі не зразумеем, што практычна ўсе цяжкасці воінскай службы, якія салдаты абавязаны стойка пераносіць, ствараюцца штучна і неапраўдана. Калі дакладна не вызначым, у якіх сферах адзінаначалле безумоўна неабходнае, а ў якіх усе пытанні павінны вырашацца дэмакратычным шляхам.

Кожны з нас, прыходзячы ў Армію, ахвяруе багата чым. Я не збіраюся аспрэчваць неабходнасць гэтых ахвяр. Але навошта абцяжарваць і без таго нялёгкае становішча, у якім знаходзяцца людзі, што абараняюць Радзіму? Існуе загад, які забараняе праходзіць тэрміновую службу ў воінскіх часцях, што знаходзяцца бліжэй чым за 100 кіламетраў ад месца жыхарства прызыўніка. Чаму масквіч павінен служыць у Варкуце, а варкуцянін — у Падмаскоўі? Відаць, адказныя таварышы з Міністэрства абароны баяцца, што блізкасць ад дому можа падштурхнуць салдата да неабдуманага ўчынку. Пры сённяшняй сітуацыі ў Арміі іх страх абгрунтаваны.

Адпачынак з выездам на радзіму — найвялікшая мара салдата і сяржанта. Для іх ён павінен быць такі ж абавязковы, як для рабочых і служачых, прычым для тых, хто праходзіць службу ў аддаленых воінскіх часцях, яго тэрмін павінен быць значна павялічаны. Права на адпачынак гарантавана савецкаму чалавеку Канстытуцыяй. На якой падставе яно парушаецца ва Узброеных Сілах?

Армія сёння — гэта дзяржава ў дзяржаве, дзяржава за глухой агароджаю. Мураваную агароджу, аздобленую пяцікутнымі зоркамі, можна апраўдаць меркаваннямі дзяржаўнае бяспекі. Але ніякія аргументы не могуць апраўдаць глухую сцяну замоўчвання ўсіх праблем, якія патрабуюць свайго вырашэння ў Савецкай Арміі.

Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

# Жыццё ў дзьмухаўцы

Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА



«Экалогія»

* * *

Аднаго разу падбег да мяне худы сабака. Сядзіць і дзівіцца. Я накарміў яго, паклікаў. Уткнуўся мордай у маю далоню. Нос — халодны і мокры. У здаровага сабакі заўсёды — халодны і мокры нос...

Увечары ішоў да ракі і заграз у балоце. І раптам сказаў самому сабе:

— Балота — мокры нос зямлі. Павінна ж бо недзе зямля быць мокрая. Здаровая зямля хоць недзе павінна быць вільготная...

Вецер круціць пыл на Палессі. Балота, у якім я заграз, ужо вандруе па небе. І ў зямлі ўжо — сухі і гарачы нос. А я іду і паўтараю нібы заклён, як тайну тайных:

— Балота — мокры нос зямлі... Павінна ж бо недзе зямля быць мокрая. Здаровая зямля хоць недзе...

* * *

Я глядзеў на сонца — у сне. У чорных жалобных стужках над лугам кружыцца самалёт... І пасыпаліся з неба ўлёткі: «Смерць стракозам!», «Бабры — здавайцеся!»

* * *

Капаў у яры чарвякоў і рыдлёўка выгарнула поліэтыленавы мяшок. Пачаў капаць у іншым месцы і выкапаў поліэтыленавы мяшок... Страшна падумаць, колькі зямля не дыхае.

Усё перажуе зямля — і косткі нашыя і жалеза, а пластмасу вырыгае...

А мы ўсё перавыконваем планы, вырабляючы маторныя лодкі, пластмасавы посуд, пластмасавыя цацкі дзецям.

У сучаснай гаспадыні посуду больш, чым было ў мінулым стагоддзі ў графіні!

Пластмасавыя цацкі — гарматы і танкі — неўзабаве будуць страшнейшыя за сапраўдныя. Іх цяжэй знішчыць...

* * *

Глядзіш у неба, але што гэтыя зоркі? Астылыя камяні, шыпучае вуголле, чарпакі з распаленай серай, патэльні, забытыя богам.

А мы — на нябеснай кветачцы, у азонавым дзьмухаўцы, на гарлачыку ў затоцы сусвету... Калупаем, скоблім, прагрызаем яе пялёсткі.

Носімся на маторных лодках — дзеля пацехі, абы-чаго. І нават не думаем, што гэта — блюзнерства не меншае, чым ездзіць на матацыклах па хлебным палетку.

* * *

Лепш кавалак хлеба і чыстае паветра, чым поўны халадзільнік і працівагаз.

* * *

Да самага небасхілу цягнецца залітая вадою каляіна. Зусім свежы след. І каб хоць адна душа людская. Пытаюся ў біёлага:

— Хто тут праехаў?

— Трактар.

— Даўно?

— Гадоў дзесяць назад...

Маўчанне.

— Дзесяць ці мо восем, як нафту шукалі. Мы тут ужо сем гадоў, пры нас ніхто сюды не заглядваў. Такая ў яе датклівая памяць.

Сонца асвятляе пустую тундру і блішчыць каляіна...

* * *

Прысніўся лозунг:

— Зямля — кватэра без смеццеправода.

* * *

Жыў на Белым моры ў біёлагаў. Яны адкрылі таямніцу рачнога жэмчугу. Быў жэмчуг і прапаў...

А ўсё ў тым, што жамчужына зараджаецца ў шчэлепах у сёмгі! Але нерасцільні завалены сплаўным лясным тапляком, у малыя рэкі сёмга амаль не заходзіць — іх ператварылі ў драўляныя калідоры. І не стала ў плытких паўночных рэках рускага жэмчугу.

Усё павязана тайнымі вузламі і нядоўга нам хаміць на сваім самотным гарлачыку...





«Млечных шлях» I



«Млечны шлях» II

* * *

Раней былі чарнігаўцы, віцьбічы, ніжагародцы, а цяпер — лімітчыкі.

Новае насельніцтва, абыякавае да вуліцы, з якою іх не звязвае дзяцінства, абыякавае да старых твараў і рачных затокаў. Яны нават не ўзгадаюць, як разыходзіліся залатыя кругі ад усплёскаў...

* * *

Замест слоў «мёртвая рака», «атручанае паветра», «згвалчаная прырода» мы пачалі гаварыць: «экалогія, экалагічныя праблемы»...

Гэта ўсё адно, што малапісьменнай старой жанчыне замест слова «рак» сказаць «канцэр», яна будзе ўсміхацца і прасіць таблетак.

* * *

Іду чыстай бязлюднай вуліцай фінскага гарадка Ювяскюле. Упусціўшы з пальцаў запалку, прайшоў метраў дваццаць, азірнуўся — бялеецца мая адненькая запалка.

Краса зямлі — не стала ў нас дзяржаўнай ідэяй, сэнсам існавання, нашай галоўнай прафесіяй і нацыянальным гонарам.

Кожны са свайго акна — глядзіць на брудны панылы двор. Прывыклі глядзець на бруд. Глядзелі моўчкі. Цяпер глядзім і крытыкуем.

Нейкае закляцце над намі. Нейкае вусцішнае здранцвенне — то немае, то балбатлівае. А бруд ляжыць.

* * *

Колькі рыбы было ў манастырскіх садах і якія сады! Сажалкі падбіралі, вада зарасла цінай, сады запусцелі.

Цяпер у царквы ёсць сіла і грошы — адваяваць у гарадской пустыні некалькі гектараў у імя вечнага жыцця і хларафілу.

* * *

Адзінокая старая пасе каровы і збірае ў лугавых лужынах карасікаў на юшку. Увечары яна ганіць статак міма нашай стаянкі і кажа:

— Вось я і нарыбачыла.

Замест рытарычных урокаў пра любоў да радзімы — хоць бы адзін настаўнік здагадаўся вывесці школьнікаў на вясновыя лугі. Там, у падвысахлых лужынах і канавах задыхаюцца мільёны малькоў, што засталіся пасля паводкі. Плоткі, шчуряткі, ліні, карасі... А летняе сонца прыпякае ўжо.

Дарэчы, амерыканцы — патрыёты. І не на словах — на справе, яны ўпрыгожваюць сваю зямлю ў асабістай прасторы.

* * *

За гадзіну ў акне цягніка бліснула адна лужына. І гэта вясною — у красавіку...

Ужо сёння трэба будаваць ветракі і вадзяныя млыны, яны і краявіды родныя ўпрыгожаць, і вада не будзе сплываць з лугоў. Запруды падапруць яе.

Трэба ствараць сучасныя дырыжаблі і іншыя лётныя апараты, якія не пэцкаюць неба, не рвуць яго на шматкі. Хірург мае права лётаць на самалёце, а студэнты маглі б вяртацца дамоў, не выпальваючы паветра.

* * *

Ідзе рачная «ракета». Пасажыраў — адзінаццаць чалавек. Я спытаўся ў кожнага — навошта і куды яны едуць?

У госці да сябра, да сяброўкі, на танцы, проста так, на дзень нараджэння...



«Летні сон»

Ляціць рачная ракета, выплёскваючы раку, разбівае ўдарнай хваляй берагі, абвальваюцца велізарныя камлыгі гліны, агаляецца карэнне берагавых дубоў і вербаў, трапечуцца на пяску выкінутыя хваляй малькі і дзяўбуць іх сарокі. Едзем на танцы!

* * *

За пяць гадоў я не бачыў на Прыпяці судна, якое збірала б з паверхні ракі мазутныя плямы. А катэры гудуць і гудуць, і цягнуць, высільваючыся, па дзяве, па тры баржы з пяском і друзам, пакідаючы за сабою шырокія мазутныя палосы. Яны завалокваюць плёсы і затокі, павісаюць на вербах, цягнуцца за крылом птушкі, што ўзлятае з вады...

* * *

Мінуламу можна адпомсціць толькі шчасцем. Варожасцю і нянавісцю мінуламу не адпомсціш. Толькі шчасцем можна адпомсціць за нягоды і цярпенні. Адпомсціць — чыстай ракой, прыгожай вуліцай, дагледжаным дваром...

* * *

Улетку 1963 года я плыў па Ціхім акіяне. Насустрач нам ішоў японскі крабалоў. Рыбакі папрасілі ў нас вады.

Наша судна спынілася. Японскі сейнер наблізіўся, і мы перакінулі цераз борт брызентавы шланг. Ён стаў пругкі і халодны — пацякла вада.

Усміхаючыся і кланяючыся, японскія рыбакі адплывалі ў пусты акіян.

І тады я ўпершыню з жахам падумаў пра Зямлю. Яна не можа прычаліць да другой планеты і заправіцца свежай вадой...

* * *

І матылькі, і конікі, і ўсходы сонца на рацэ былі патаемнымі ворагамі догмы... Разам з героямі любімых кніг (Д'Артаньянам і Томам Соерам) яны пасаблялі нашаму дзяцінству заставацца дзяцінствам.

* * *

У Рымскім сенаце, калі будавалі плаціну альбо канал, рада вучоных дакладвала пра магчымыя наступствы праз 200 гадоў...

* * *

Восенню 1986 года два інспектары праседзелі ўсю ноч на беразе Прыпяці — без вогнішча. У іх былі запалкі і ламачча было побач, у карчах, але гэтыя людзі ведалі, што на вецці, на траве, на саломе ляжыць чарнобыльскі пыл. І калі запаліць запыленае голле, вогнішча робіцца маленькім рэактарам.

Да раніцы сядзелі на пясчанай водмелі, а ноч была халодная, волкая.

— Можа, дровы памыем?

Жудасна было слухаць свае словы!

Упершыню ў гісторыі Зямлі празяблыя людзі не запалілі вогнішча...

**По жаданню аўтара ганарар за гэту публікацыю рэдакцыя пералічвае на рахунак у дапамогу перасяленцам, пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі.**

**(№ рахунка гл. на вокладцы).**



*Жана*
**ЛАШКЕВІЧ**

# ад нечага з нічога на нішто?..

## суб'ектыўныя нататкі пра Маладзёжны тэатр БССР

Кажуць, некалі Беларусь апаноўвала росквітна-плюралісцкая часіна, калі нават мінскія прастытуткі гаманілі па-беларуску — мабыць, попыт адчувалі не абы-які... страшэнны, няйначай. Бывай, тая часіна, за якою і тутэйшыя дзеўкі абвяшчаліся найлепшымі ў свеце! Адно згадкі засталіся: перапынілася традыцыя, сапсеў плён, збэсцілася сваё, адметна-нацыянальнае. Ні слоўцам, ні выглядам, ні рухам не выдае на аднаўленне! Няма ходу тутэйшым паненкам. Так затаўклі іх прышлыя, што нават з мінскае сцэны — добра калі б адно ў Рускім тэатры БССР, дык жа ў Маладзёжным таксама — усё пра нейкіх не тутэйшых, а з Масквы, з Масквы. А яны, як быццам іх у класічнай п'есе ўвасабляюць, то мармычуць, то лямантуюць: у Маскву, у Маскву!..

Мо каму, вольнаму ад тэатра, сапраўды, з'ехаць туды і лацвей, і прасцей, але як быць паненкам і панам тэатральным? Не едуць. Дык прыгадайма, чым клопатам яны ў нашым Мінску атайбаваліся. Калі стваралі Дзяржаўны маладзёжны тэатр БССР, іх, між іншым, не гасцямі — гаспадарамі сюды запрашалі, абвясціўшы ўсесаюзны (!) конкурс. Акцёрам ладзілі «саюзныя» выпрабаванні, рэжысёраў лацвілі шляхамі больш пакручастымі і... свойскімі: былі прызначылі аднаго часова, не ўпадабалі і міністэрскім шэптам загадалі небараку «апсік»; знайшлі былі другога, які дакляраваў эксперыментальна сашчапіць у тэатры істэрыку са скокамі, млявасць з пластыкаю, выканаўцаў са сцэнічнымі прыладамі, але і яму сказалі: «Я пана не выпэндзам...»; трэці адразу ўзяўся на пакутнай сцэне паліць... зоркі, але ў тэатры ўсё ніяк не развіднее...

Чым першы, Мікалай Трухан, не дагадзіў дзядзькам з Міністэрства культуры БССР? Ніхто з міністэрскіх не апекаваўся Труханам як мае быць, а той натуральна і па праву адметнага мастака на цырлах вакол сваіх «дабрадзеяў» не хадзіў. Таму тэатральныя дзверы адчыніў для гледачоў спектаклем «Эти непонятные старые люди» (паводле кнігі С. Алексіевіч «У войны — не женское лицо...») рэжысёр Рыгор Баравік. Сваім першым стварэннем на гэтай сцэне ён добра-такі ўразіў шаноўны публікум: адных проста напалохаў, другіх прытаміў, трэціх абразіў. Даводзілася мне пісаць і пра другі ягоны спектакль, «Ремонт» (п'еса М. Рошчына), амаль у тых самых выразах і рыхтык з такою самаю высноваю (што глупства, пане дабрадзею). Пасля сяброўскіх ухваленняў мінская крытыка змяніла сваё стаўленне да рэжысёра Баравіка і ўзялася ўпікаць яму безгустоўнасць і бязладнасць. Магчыма, нехта з крытыкаў шчыра палічыў, што вінаваты ў бязладнасці сам-першы Баравік, але Баравік, да таго часу ўжо спрактыкаванае «колца і шрубок», стараўся разам з тэатрам выканаць тое, чаго вымагала **сістэма**, якая паставіла яго кіраваць тэатрам: з нічога (бо пабудовы і думкі драматургаў адкідаліся адразу) важыўся ствараць нешта... Даўно засведчыў Шэкспір, што з нічога і выйдзе нічога; У Маладзёжным, хоць і абышлося без Шэкспіра, але, як той казаў, нічога і не выйшла. На сцэне. Ды Баравік, напрактыкаваны **сістэмаю**, змікіціў, дзе трэба падкруціць, каб застацца ў крэсле: тэатр захліснулі дробныя падманы і вялікая хлусня, пільнаванне і цкаванне, якія галоўны лагодна заахвочваў. Умовы жыццядзейнасці лагічна запатрабавалі данасаў як пісьмовых («нас прымушалі весці дзённікі і праўдзіва пісаць там усё і пра ўсіх, асабліва хто што сказаў і падумаў пра галоўнага рэжысёра»), так і на ўвесь голас (была, да прыкладу, прапанова на сходах па чарзе і ўсебакова абмяркоўваць акцёрскія паводзіны; праўда, чарга да кожнага не дайшла). «Сярод нас правакатар!» — распачаў другі тэатральны сезон галоўны. Правакатара было загадана высачыць і выкрыць. Балазе да «прыбірання» справа не дайшла...

Рэжысёр Баравік працуе зараз чарговым рэжысёрам тамсама, у Маладзёжным тэатры БССР. Месца мастацкага кіраўніка калектыву прыняў ад яго Барыс Луцэнка — паліць зоркі... «Звезды на утреннем небе» — першы ягоны спектакль на маладзёжнай сцэне. І, па справядлівасці, лепшы на сённяшні дзень спектакль калектыву!

Калектыў па калені ў смецці, брудзе і пыле то соваецца, то шныпарыць, то швэндаецца па сцэне, над якой палаюць сафітавыя зоркі; пад імі ж месяцца-балююць зоркі-паненкі як быццам найстаражытнейшага занятку, з цягам часу іх атульваюць... хацелася б напісаць, зорачкі на міліцэйскіх пагонах, але зорачак няма, хлусіць не буду, ёсць лычкі розных варыяцый і даходлівыя рэплікі накшталт: «Я те дам свечу, я тебе в другое место ее вставлю!» Натуральна, рэцэнзаваць такое відовішча тут не да месца, але згаданай пярліны ў драматурга А. Галіна, сведчу, няма. Дарэчы, няўжо прастытуткі ўжо так намулялі беларусам, што за іх узяліся аж у двух тэатрах сталіцы? Тады трэба больш уважліва перачытаць п'есу Галіна ці распачаць пра аднаразовыя шпрыцы, сурвэткі, іголкі, стэрылізаванне і неадкладны выраб прэзерватываў, бо яны — тое «нешта»... не адзінае, але жыццядайнае; для тэатра нароўні стануць, бадай, асабістыя дазіметры для ўсіх тутэйшых і «тоже местных», а таксама мыццё рук і гатаванне вады — як прафілактыка супраць глістоў і вірусная гепатыту. Чаму названыя прадметы і працэдуры — не для мастацтва?! Не трэба дрэнчыцца над




рок-архіў

Уладзіслаў **АХРОМЕНКА**

# начны палёт «свінцовага дырыжабля»

Іх называюць заснавальнікамі «цяжкага року», часам нават «пачынальнікамі хэві-мэтала» — і гэта ў прынцыпе слушна, хоць любую унікальную з'яву ў музыцы, у тым ліку ў року, цяжка ўціснуць у рамкі якойсьці схемы. Аналіз — гэта задача мастацтвазнаўцаў, і таму я не хачу сістэматызаваць і класіфікаваць жывое мастацтва. Самі музыканты лічылі, што выконваюць «чыстую музыку», таму давайце сыдземся на гэтым вызначэнні.

Іх называюць прадстаўнікамі «псіхадэлічнага року» — разам з «Кінг Крымсан», «Ес», «Пінк Флойд» і «Генератарам ван дэн Графа». Пад гэтым тэрмінам звычайна маюць на ўвазе музыку, якая ўздзейнічае на псіхіку, усё роўна як галюцынанты. І гэтае вызначэнне можна прыняць — музычнае ўспрыняцце заўсёды балансіруе на мяжы свядомага і падсвядомага. Аднак усё гэта — справы кампетэнцыі псіхолагаў, таму давайце не гаварыць і пра гэта.

Іх называюць «музычным рупарам» пакалення 60-х — пачатку 70-х. Што ж, і ў гэтым ёсць доля ісціны. Іх музыка ўспрымаецца сёння як адна з эмблем маладзёжнага бунту тае эпохі, гэтаксама ж, як Вудстокскія фестывалі, рваныя джынсы і дзэн-будызм ига ўзору. Тое вясёлае апантанае пакаленне мала чытала, больш слухала «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», «Дорз», «Прокл Харум», «Джэферсан Ээрaплэйн»... Яны чакалі ад року шмат чаго. Рок-музыка, якая была раней проста захапленнем, песенькамі, пад якія танцавалі, аддаваліся каханню і прымалі наркотыкі,— рок-музыка стала сімвалам іхняга пакалення. Джон Ленан і Джымі Морысан былі для іх тым жа, чым у сярэднявечны былі для многіх Саванарола і Марцін Лютэр.

А яшчэ іх называюць «праваднікамі ідэй сатанізму». Што ж, няхай будзе і так. Я, зрэшты, не збіраюся прыводзіць доказы, якія сведчаць аб залежнасці рок-музыкантаў ад Князя Цемры, які расстаўляе пасткі, ловячы слабыя душы. Пра гэта лепш за мяне напіша «Наш современник». Мая мэта — проста даць кароткую інфармацыю аб гісторыі «Лэд Зэпэлін».

1964 год. Сіламі рытм-гітарыста Крыса Пэйджа, басіста Пола Самвэла, вакаліста Кейта Рэльфа і гітарыста Тоні Топхэма створана група «Ярдбёрдз», папярэднік «Лэд Зэпэлін» у плане стылістыкі і музычнае мовы. Трохі пазней да «Ярдбёрдз» далучаецца гітарыст Джымі Пэйдж. («Ярдбёрдз» — так называюць амерыканскіх сезонных рабочых у паўднёвых, пераважна сельскагаспадарчых штатах.) Група выконвае элетрыфікаваныя рытм-энд-блюзы і песні ў стылі «кантры».

1966 год. У «Ярдбёрдз» з'яўляецца Пітэр Грант, які стане пазней менеджэрам і адным з ідэйных натхняльнікаў «Лэд Зэпэлін».

Брытанскі часопіс «Нью м'юзікл экспрэс» называе «Ярдбёрдз» найбольш значнай і эфектнай групаю пасля «Бітлз» і «Ролінг Стоўнз».

Група наладжвае кантакты з арганістам Джонам Пол Джонсам і адначае гэтую падзею сумеснай аранжыроўкаю «Балеро» Марыса Равеля.

1967 год. У рэпертуары «Ярдбёрдз» з'яўляецца рытм-энд-блюзавая кампазіцыя «Збянтэжанасць і захапленне», якая становіцца потым «ударнай» у рэпертуары «Лэд Зэпэлін».

1968 год. Стары склад «Ярдбёрдз» распадаецца. З яго выходзяць Джымі Пэйдж і Пітэр Грант.

Кастрычнік таго ж года. Новая рок-група «Лэд Зэпэлін» («Свінцовы дырыжабль») у складзе вакаліста Роберта Планта, піяніста, гітарыста Джымі Пэйджа і бас-гітарыста Джона Пол Джонса, ударніка Джона Бонхэма па мянушцы «Бонза» ўпершыню збіраецца для супольнае працы. 15 кастрычніка ва універсітэце графства Сарэй адбудзецца першы канцэрт. 10 студзеня гэтага ж года выходзіць першы альбом «цэпэлінаў» — «Лэд Зэпэлін-1», запісаны ўсяго за 30 гадзін. Першы альбом не выклікае ў меламанаў асаблівага захаплення. Аднак ужо праз некалькі гадоў кампазіцыі «Абрыў сувязі» і «Добрыя часы, благія часы» будуць аб'яўлены класікаю новага стылю — так званага хард-року, а «Лэд Зэпэлін» будуць каранаваныя музычнай крытыкаю як «піянеры новага жанру».

1969 год. Лістапад. Група выпускае наступны альбом — «Лэд Зэпэлін-ІІ», які атрымлівае ў музычных колах вялікі поспех. У стылёвых адносінах музыка дыска трохі адрозніваецца ад папярэдняга — яна ўяўляе сабою сінтэз падпольнага («андэграўнд») року, рытм-энд-блюза, старажытных кельцкіх балад («скіфл») і традыцыйнага джаза.

1970 год. З'яўляецца трэці па ліку дыск групы. «Лэд Зэпэлін-ІІІ» — у музычным плане далейшае развіццё ідэй 1969 года. Ідэя дызайнерскага аздаблення дыска — «Чалавек у палёце» — належыць Джымі Пэйджу.

У тым самым годзе Пэйдж працягвае эксперыменты з сітарам (індыйскі шчыпковы інструмент), пачатыя яшчэ ў «Ярдбёрдз» задоўга да Джорджа Харысана з «Бітлз» і Браяна Джонса са «Стоўнз». Джымі выязджае ў Бамбей з мэтаю заказаць інструмент для «Лэд Зэпэлін».

Там жа ён выступае ў імправізаваным канцэрце, іграючы некалькі гадзін на сваім дванаццацідзюймавым «Фэндэры», за што атрымлівае ва ўзнагароду бутэльку віскі.

1971 год. Выходзіць найбольш вядомы альбом групы «Лэд Зэпэлін-ІV». Балада «Лесвіца ў неба» становіцца безумоўным лідэрам лонданскіх хіт-парадаў.

1972 год. Група ўпершыню не запісвае чарговы дыск. Большую частку часу забіраюць гастрольныя паездкі — у ЗША, ФРГ, краіны Скандынавіі.

**Заканчэнне на стар. 24**

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 21

1973 год. Новы альбом групы «Дом святога», які выйшаў усярэдзіне сакавіка, абсалютна не падобны на папярэднія. Думкі рок-крытыкаў разыходзяцца: адны лічаць альбом лепшым у гісторыі «Лэд Зэпэлін», другія прадракаюць «пачатак канца». Аднак кампазіцыя «Няма літасці» надоўга становіцца лідэрам у хіт-парадах па абодва бакі Атлантыкі.

1974 год. Як і два гады назад, «цэпеліны» не выпускаюць чарговага альбома.

1975 год, май. «Лэд Зэпэлін» даюць пяць канцэртаў у лонданскім «Эрлс-корце». 51 000 білетаў на першыя тры дні распрадаюцца праз дзве гадзіны пасля паступлення ў касы, астатнія 34 000 — назаўтра.

15 жніўня таго ж года. Лідэр-вакаліст Роберт Плант, ягоная жонка Мэры і двое дзяцей, Карас і Кармэн, трапляюць у Лонданскі каралеўскі шпіталь пасля аўтамабільнае катастрофы. У Роберта шматлікія пераломы. Праз некалькі месяцаў Плант выпісваецца з бальніцы, каб прадоўжыць запіс двайнога альбома «Песня застаецца ранейшая» (1976), кампазіцыі якой уяўляюць сабою перапрацоўкі лепшых песень пяці першых пласцінак, у канцэртным варыянце.

1976 год. Альбом з'яўляецца ў продажы. Некаторыя старыя кампазіцыі («Мобі Дзік», «Няма літасці», «Захоплены і збянтэжаны») разгорнуты ў музычныя сюіты з імправізацыямі Джымі Пэйджа. Пэйджаўскія гітарныя «палівы» ўвасկрашаюць у памяці лепшыя ўзоры ігры легендарнага Джымі Хендрыкса. Вельмі важную ролю ў выкананні мае арган Джона Пол Джонса.

1978 год. Пасля выхаду «Прысутнасці» група не запісвае досыць доўгі час, хоць раз-пораз выступае з канцэртамі. «Цэпеліны» возяць з сабою персанал з 44-х чалавек. Тэхнічная каманда на чале з дызайнерам Нанам Найтам працуе як адзіны з рок-групаю калектыў. Яна мае 40 мікрафонаў, 150 свяцільнікаў, 3 крыптонавыя лазерныя пражэктары, 5 асвятляльных калонак, устаноўкі для дымавых і шумавых эфектаў і самалёт «Боінг-720» сіняга колеру з белым надпісам «Лэд Зэпэлін» на фюзеляжы. Пласцінкі групы раскупляюцца лепей, чым у свой час дыскі «Бітлз», «Ролінг Стоўнз» і Хендрыкса.

1979 год. Выходзіць апошні «прыжыццёвы» альбом групы — «Скрозь расчыненыя дзверы». Дыск вылучаецца разнастайнасцю меладычнага матэрыялу — тут і кантры, і блюз, і элементы фры-джаза, і чысты рок,— смеласцю аранжыровак (у тым ліку з выкарыстаннем сімфанічнага аркестра), і ў той самы час — амаль поўнай адсутнасцю сольных імправізацый Пэйджа і Джонса. Альбом прызнаны адным з лепшых у Англіі ў 1979 годзе.

1980 год. Джон Бонхэм, 32-гадовы ўдарнік «Лэд Зэпэлін», знойдзены мёртвым уранку 25 верасня ў доме Джымі Пэйджа. Выкліканая паліцыя канстатуе «натуральную смерць ад злоўжывання алкагольнымі напіткамі».

Кастрычнік таго ж года. Айчынныя газеты змяшчаюць тасаўскае паведамленне «Новая ахвяра рок-музыкі» (пад рубрыкаю «Іхнія норавы»), у якой з веданнем справы апісваюцца папойкі Бонхэма. З паведамлення вынікае, што ўсе заходнія рок-музыканты — гнюсныя тыпы, занятыя выключна выкачваннем грошай з насельніцтва на ніве «буржуазнай псеўдакультуры», што ўсе яны пагалоўна кожны дзень п'юць віскі, ганяюць па сваіх уласных кватэрах на матацыклах і рэгулярна ўжываюць какаін, герaін і марыхуану.

1982 год. З'яўляецца альбом «Кода», куды ўваходзяць кампазіцыі, якія з тых ці іншых прычын не трапілі на папярэднія пласцінкі.

Шляхі музыкантаў пасля смерці Бонхэма разыходзяцца. Пэйдж і Плант пачынаюць выдаваць «сольнікі». Джон Пол Джонс выступае больш у якасці аранжыроўшчыка і прадзюсера.

1988 год. Фірма грамзапісу «Мелодыя» ў серыі «Архіў папулярнай музыкі» выпускае зборны дыск групы. Альбом чамусьці названы «Лесвіца на нябёсы».

На гэтым, бадай, можна скончыць. Можна, вядома, напісаць пра ўплыў «цэпелінаў» на айчынны «андэграўнд» — добрая палова таго ж ленінградскага рок-клуба, ад яго ветэрана, стваральніка супер-хіта «Халоднае піва» Майкла Навуменкі, да груп узору 1989 года, называе «Лэд Зэпэлін» сярод сваіх музычных і духоўных настаўнікаў. Можна напісаць пра велізарны, без перабольшвання, уплыў групы на музычную мову ўсёй рок-музыкі ў самым шырокім дыяпазоне. Можна напісаць пра ўзаемасувязь творчасці групы са светапоглядам пакалення 70-х, пра творчасць групы ў кантэксце сусветнае музычнае культуры XX стагоддзя (памятаеце выказванне Джымі Пэйджа: «Мы вярнулі музыку вуліц туды, адкуль яна выйшла. Наша музыка — гэта фальклор тэхнакратычнага веку...»). Аднак усё гэта выходзіць за рамкі пастаўленае задачы — даць кароткую інфармацыю пра групу, чыя творчасць стала этапнаю для сусветнае рок-культуры.

**Аўтар удзячны Андрэю ДАРОХІНУ за прадастаўленыя матэрыялы.**

## змястоўная форма

Заканчэнне.
Пачатак на 2-й стар. вокладкі

нам больш рамантычнасці, чым у папярэднікаў гэтага накірунку. Нават назва — «Пярэваратні мёртвага возера» — пераконвае ў гэтым.

**Аляксандр ЗАБАЎЧЫК** ад экспрэсіянізму перайшоў да занятқаў абстрактным мінімалізмам. Але драматычныя сюжэты («Забіранне жыцця»), якія арганізуюць твор, не даюць аўтару дасягнуць празрыстасці, яснасці, «крышталізацыі». А без лагічнай і душэўнай раўнавагі ў абстрактным палатне немагчыма дасягнуць згарманізаванасці і архітэктанічнасці, якія так вабяць у творах Ліянэля Файненгера і Казіміра Малевіча.

**Зміцер ЯРМІЛАЎ** і **Андрэй БЯЛОЎ** перайшлі ў «Форму» з «Галіны», але творчае крэда не змянілі. Фактурны, калярова і танальна паслаблены жывапіс можа, на думку гэтых мастакоў, ахапіць ледзь не ўсе настроі і тэмы: ад «Шыбеніцы» (З. Ярмілаў) да «Часу хрушчоў» (А. Бялоў). А на маю думку, іх палотны, падобныя да эскізаў дэкарацыі, маглі б паслужыць цудоўнай рэкамендацыяй сцэнографам, як трэба афармляць сцэну, бо .. Але пра дэкарацыі спектакляў мінскіх тэатраў іншым разам.

**Уладзімір ЛАПО** цікава працуе ў пап-арце. Скураныя рэльефы, замацаваныя цвікамі на дубовых дошках — «Утунф», «Жонка Утунфа» — пераконваюць сваёй непаўторнасцю.

**Валерый БАБРОЎ** распрацоўвае гэтак званы неапрымітывізм. Палотны Баброва нібыта сфастрыгаваныя з рознакаляровых тканін у яркія аднафактурныя кілімы. Мне вельмі імпануюць карціны-словы, на якіх праз колер і фактуру праступае графіка літар,— жывапіс пачынае страчваць самакаштоўнасць і набываць графічную яснасць.

Нельга не сказаць, што апошнім часам аб'яднанне «Форма» вельмі плённа супрацоўнічае з НВА «Цэнтр». Навукова-вытворчае аб'яднанне дапамагае мастакам у арганізацыі выстаў, у выпуску рэкламных плакатаў і буклетаў, а мастакі дапамагаюць «Цэнтру» ў афармленні інтэр'ераў. Такое супрацоўніцтва, зноў цытую з рэкламнай нататкі, «дае мастакам шырокія магчымасці для творчай дзейнасці».





Алена АНКУДЗІНАВА

# І камсамол адказаў: «ЁСЦЬ!»

рэпартажы здалёк

Знаёмыя журналісты-далёкаўсходнікі казалі мне, што пісаць пра камсамольскія будоўлі цікава было гадоў пяць назад. Менавіта на 1984—1986 гг. прыходзіцца пік будатрадаўскага руху ў Камсамольску-на-Амуры. Тады пачыналася тут будаўніцтва Перадзельнага камбіната, ТЭЦ-3, Новага горада.

Мае калегі лічаць, што пра атрады трэба было пісаць тады, калі яшчэ можна было эпаціраваць чытача «жареным». Так, па камсамольскіх пуцёўках прыязджалі людзі і асуджаныя ў мінулым, і крымінальнікі. Яны і цяпер прыязджаюць. Апошні атрад з Казахстана, які прыбыў на ЦЭЦ-3, добра ўкамплектаваны саракагадовымі мужчынамі з цёмным мінулым.

Але, па-мойму, настаў час, калі трэба не столькі гнацца за гэтым самым «смажаным», колькі шукаць прычыны, вытокі. Прыйшоў час збіраць каменне. Пасля XX з'езда камсамола, калі мы ўсё назвалі сваімі імёнамі, калі мы даведаліся пра трагедыю БАМа (думаю, для тых, хто падарваў там сваё здароўе, тое, што там цяпер адбываецца,— сапраўдная трагедыя), калі камсамольская пуцёўка ператварылася ў лёгкадаступную паперку, а самое паняцце камсамольскай будоўлі дэвальвіравалася, варта задумацца, чаму ж так адбылося.

У маім жыцці былі дзве камсамольскія будоўлі — Перадзельны і Ніжняя Тамбоўка. У мінулай сваёй публікацыі я абяцала паказаць вам «краіну дурняў» і расказаць пра тое, як туды трапляюць. Ну што ж...

У Прывакзальным раёне Камсамольска бы на дражджах вырас мікрараён, які скрозь забудаваны маласямейкамі, інтэрнатамі, жылымі дамамі, у якіх жывуць пераважна прыезджыя. На вуліцах мікрараёна, у любым інтэрнаце вы сустрэнеце чалавека любой нацыянальнасці і народнасці. Ні ў адным горадзе краіны, дзе мне даводзілася бываць, геаграфія не прадстаўлена так шырока. Тут стаяць досыць сучасныя пяці-дзевяці-дванаццаціпавярховыя дамы. Але ўсё тое, што мы называем добраўпарадкаваннем, занядбана. Яго проста няма. Усё перарыта, перакапана, у брудзе, раскідана будаўнічае смецце, няма пясочніц для дзяцей, элементарных арэляў. Такая вакол занядбанасць... Так, паводле майго ўяўлення, выглядаюць рэзервацыі. Галоўная задача мясцовых улад — рассяліць нанятых работнікаў. Вядома, існуе і другі бок медаля. Чаму, скажам, тыя ж маладыя будаўнікі не разаб'юць кветнікі ля інтэрнатаў, а, наадварот, выкідваюць бутэлькі і шклянкі (пустыя, натуральна) з вокнаў? Ды таму, што, з аднаго боку, яны бачаць да сябе адносіны толькі як да рабочай сілы, а з другога — адчуваюць сябе дачаснікамі. Зарабіць, паехаць, а пасля мяне хоць патоп. І складваліся такія адносіны з абодвух бакоў гадамі.



Не ведаю, як цяпер, але ў 1986 годзе, калі я выпраўлялася па камсамольскай пуцёўцы, дый раней (у гэтым сумнявацца не прыходзіцца), у краіне дзейнічала дакладная ўстаноўка ў дачыненні да камсамольскіх будоўляў. Перабудова толькі пачыналася, затое ўся краіна была ператворана ў гіганцкую будоўлю. Згадайце гісторыю 70—80-х. Мы ж будавалі ўсё што хочаце, здзяйснялі неверагодныя праекты. На 1987 год у краіне налічвалася 52 усесаюзныя і 300 краявых і абласных камсамольскіх ударных будоўляў, куды штогод выязджала да ста тысяч маладых людзей. Колькі вярталася? Думаю, хто-небудзь некалі збярэ ўсё гэтыя лічбы і атрымае наглядную карціну страчаных ілюзій і растаптанага гуманізму.

Мы столькі набудавалі!.. Пачала гінуць прырода. Цяпер мы пабудаванае зачыняем.

Для ажыццяўлення гэтых грандыёзных праектаў патрабаваліся рукі. Шмат рук. Галоў хапала. Галовы распрацоўвалі, добра за гэта зараблялі: ад грашовых знакаў да ордэнаў і прэмій. А вось здзяйсняць... Каму? Вядома, малодшаму брату — камсамолу. «Партия сказала — комсомол ответил: есть!» ЦК ВЛКСМ атрымліваў канкрэтныя лічбы ад міністэрстваў і ведамстваў, дзяліў па-брацку паміж ЦК рэспублік. Тыя, у сваю чаргу, спускалі абласцям і раёнам.

Так што ў Мінскім абкоме, высветліўшы, што ў мяне вышэйшая не будаўнічая адукацыя, запрапанавалі чыста фармальна (план жа выконваць трэба). На выбар прапаноўвалася Нечарназем'е — Пскоўская вобласць, Краснаярск, Зея і будаўніцтва Новага горада на Амуры. Я не хацела б зараз у чымсьці вінаваціць Мінскі абком, бо атрад яны падабралі, увогуле, неблагі. Тое, што ў ім амаль не было будаўнікоў,— не іх віна.

Што ж прыводзіць маладых людзей да пуцёвак? Хачу адразу агаварыцца: рамантыкі ёсць і будуць заўсёды, але...

Маладзенькія дзяўчынкі хочуць як мага хутчэй вырвацца з-пад бацькоўскай апекі, каб мама не чытала натацый, з кім ёй сустракацца, а з кім не. Таму я была шакіравана, калі хочаце, тым, што досыць сімпатычныя дзяўчаты з майго атрада проста вешаліся на шыю першым жа сустрэтым «хімікам», балазе на Перадзельным яны былі на кожным кроку. Заігрываючы то з адным, то з другім, яны не ўлічылі вынікаў. У дні зарплаты ці авансу «хімікі» напіваліся і прыходзілі ў інтэрнат разлічыцца са «здрадніцамі». Паколькі я была камандзірам нашага маленькага жаночага атрада, дык мне часта даводзілася ўступаць у такія канфлікты і выстаўляць малойчыкаў, як таго прасілі заплаканыя «спакусніцы». Не ведаю, чаму, але тады мне зусім не было страшна ўлазіць у гэтыя звады, хоць за той час (нейкія тры месяцы), што мы там жылі, у суседнім інтэрнаце ўжо некага зарэзалі, у нашым — скінулі з даху. Крывавыя бойкі былі натуральнай з'явай. Так што пасля выхадных прыбіральшчыцы без лішніх эмоцый змывалі са сцен крывавыя разводы. Тэлефона ж, каб выклікаць міліцыю, у інтэрнаце не было, зрэшты, як і ў суседніх. Аўтамат быў чорт ведае як далёка. Словам, вясёлае жыццё.

А яшчэ многія дзяўчаты едуць на будоўлю дзеля таго, каб выйсці замуж. Прычым, выходзяць амаль усе. Я пішу гэта не дзеля таго, каб паўплываць на дэмаграфічную сітуацыю ў краіне. Бачыла я і імгненныя вяселлі і такія ж разводы. Вядома, сёй-той знайшоў там свой лёс. У маім атрадзе былі такія вяселлі. Таня і Саша Губко жывуць у Барысаве, Іра і Алег Кадзаевы вярнуліся ў Салігорск, а Люда і Саша Любімавы засталіся на Далёкім Усходзе. Усе яны цяпер самі бацькі. Няхай у іх і далей усё будзе добра.

Але бывалі і трагічныя гісторыі, гаварыць пра якія вельмі не хочацца. Цяпер ужо, прайшоўшы праз усе кругі вялікай будоўлі, скажу адназначна: жанчынам на любой будоўлі рабіць няма чаго. Не для іх гэтая работа: у тынкоўшчыка-муляра яна абсалютна не механізаваная, усё ўручную. Цягаюць такія дзяўчынкі цяжкія вёдры з растворам, перацягваюць рыштаванні, працуюць зазвычай на скразняках і ўзімку і ўлетку, часта з ядавітымі фарбамі, а ім жа яшчэ раджаць. Я ўжо не кажу пра маральны бок справы. Дзяўчаты грубеюць вельмі хутка ў атмасферы несусветных мацюкоў. На жаль, прэстыж будаўнічых спецыяльнасцей у краіне даўно ўпаў, таму на будоўлі працуе хто прыйдзецца.

Хлопцы, якія едуць на будоўлі, кіруюцца іншымі прычынамі. Па-першае, заробкі. Нехта прыдумаў, што на Далёкім Усходзе грошы з неба падаюць. Смею вас запэўніць — не падаюць, што ім, без будаўнічых спецыяльнасцей, не будуць плаціць шалёныя сумы толькі за тое, што яны сюды прыехалі. Такая думка склалася не без дапамогі арганізацый-вярбоўшчыц, якія вельмі часта ўступаюць у змову з абкомамі, якія тым самым проста выконваюць план па наборы. Да гонару Мінскага абкома, магу сказаць, што нас байкамі не кармілі, а вось іншыя прыклады магу прывесці.

Луцкі абком ЛКСМ Украіны абяцаў добраахвотнікам заробкі ў Камсамольску па пяцьсот рублёў і кватэру ледзь не праз пару месяцаў. У Чачэна-Інгушэціі абяцалі каэфіцыент адзін і восем. (Публікуючы гэтыя звесткі з заклікам ехаць на будоўлю, газета «Грозненский рабочий», безумоўна, не ўказвала, што гэты каэфіцыент атрымаўся ад складання рэальнага — адзін і тры — і пяці паўночных надбавак, якія атрымліваюць на працягу пяці гадоў — па адной штогод.) У Маскоўскім абкоме, фарміруючы атрад імя 40-годдзя Перамогі, абяцалі першыя паўгода штомесяц плаціць па 300—400 рублёў, а потым разы ў паўтара болей. І гэта цырульнікам і афіцыянтам, якія ні разу ў жыцці не трымалі кельмы ў руках. Вось і ўявіце, якія за гэтыя сумы можна пабудаваць паветраныя замкі і чым абставіць іх, і як бывае блага, калі яны пачынаюць разбурацца на вачах.

Памятаю, за два тыдні напружанай і досыць складанай работы на Перадзельным нам закрылі нарады на 32 рублі, хоць у трэсце сказалі, што ў першы месяц мы заробім па 180. Я тады забараніла ўсім атрымліваць грошы і мо тыдзень абівала парогі ў начальніка трэста. Урэшце нам заплацілі ўдвая болей. Дагэтуль для мяне загадка, якім чынам робяцца разлікі. Ужо пазней я сутыкнулася ў Ніжняй Тамбоўцы з акладамі ў пяць, сем, дванаццаць рублёў, прычым у мантажнікаў з чацвёртымі разрадамі. Але пра Ніжнюю Тамбоўку другім разам.



У кіргізскім атрадзе ўвогуле справа дайшла да абсурду. Некаторыя байцы дапусцілі да 15 нявыхадаў на працу. На пытанне начальніка штаба ЦК ВЛКСМ Валеры Палтаўцава «чаму?» — пачуўся адказ: «Нам, калі сюды праводзілі, сказалі: будзеце добра працаваць — «Волги» купіце». «Волгой», натуральна, не пахла, а ўкалваць трэба было. Затое рэальнымі сталі 300 рублёў пад'ёмных, можна было гуляць. Каля двух тыдняў з атрада ў 120 чалавек 30—40 штодня не выходзілі на працу. Яшчэ і ліст у ЦК ВЛКСМ паслалі. Ліст з ЦК пераслалі ў Кіргізію. Адтуль прыехаў прадстаўнік, каб разабрацца на месцы. Зрэшты, разбірацца надта не стаў.

— Кіргіз такі чалавек, якому трэба ўсё тлумачыць і паказваць некалькі разоў.

— Навошта ж вы нам такіх прысылаеце? — здзівіўся Палтаўцаў.

— Добрыя спецыялісты нам у рэспубліцы патрэбныя. Так што майце тое, што маеце.

Хоць ёсць людзі, якіх такое становішча задавальняе. Гэта кіраўнікі некаторых будаўнічых трэстаў. Мяркуйце самі: кожны баец абыходзіцца трэсту ў 500—700 рублёў. З пералётам і пад'ёмнымі. Баец атрада акупае гэтыя грошы за 8—10 месяцаў, выконваючы некваліфікаваную цяжкую працу. Прыехаўшы, кожры атрымлівае ложак у інтэрнаце, і на яго забываюцца, інакш кажучы, выкарыстоўваюць толькі як рабочую сілу. Але на працягу года многія жэняцца, нараджаюцца дзеці. Сям'і ўжо патрэбны асобны пакой як мінімум і месца ў садочку ў перспектыве. Таму перад гаспадарнікамі паўстае дылема: альбо будаваць дзіцячы садочак, маласямейку, альбо ствараць такія ўмовы, што чалавек вымушаны будзе з'ехаць, а на яго месца прывезці новых. Некаторыя трэсты так і робяць, набіраючы штогод новыя атрады.

Цяпер камсамол спрабуе процістаяць разгулу гаспадарнікаў. У сувязі з пераходам на гасразлік уступіць новая сістэма аргнабору. Цяпер прадстаўнік будтрэста, прыехаўшы вербаваць атрад у пэўную вобласць або раён, узгадняе з мясцовымі камсамольскімі органамі пэўную суму за кожнага байца. Заключаецца кантракт. Абком атрымлівае грошы, а гаспадарнік — атрад. Шчыра кажучы, мне новая сістэма не падабаецца. Папахвае ад яе купецтвам, дарэчы, у народзе такіх дзеячаў ужо называюць «купцамі». Нядаўна прыязджаў такі «купец» з украінскага ЦК і пытаўся ў Камсамольску, колькі тут дадуць за аднаго байца. А потым супастаўляў, колькі давалі ў іншых рэгіёнах. Больш атрымалася ў Цюмені. Дык вось, ці не здасца беднаму ў фінансавых адносінах камсамолу такая здзелка маннай нябеснаю, лёгкай нажываю, і ці не будуць яны фарміраваць атрады, абяцаючы ім залатыя горы нават там, дзе прыняць іх абсалютна негатовыя...

Становішча ў будатрадаўскім руху трэба мяняць не тут, а наверсе. Менавіта там павінны змяніць адносіны да моладзі. І, плануючы будаўніцтва буйных прамысловых прадпрыемстваў, нельга забывацца на інфраструктуру — безнадзейна адсталую, гаварыць пра гэта ўжо стаміліся. Тады малады чалавек будзе на зямлі не дачаснікам, які гатовы жыць у любых умовах, абы зарабіць і паехаць, а гаспадаром. Галоўная ўмова аргнабору — не павінна быць падману. Тады маладых не будзе чакаць расчараванне.

Мне было прыемна пачуць, што Беларусь не пасылае больш у Камсамольск атрадаў, адмовілася з-за дрэннага прыёму. Калі гэта не чуткі, а праўда, дык справа зрушылася, і многія хлопцы і дзяўчаты змогуць пазнаёміцца з «краінай дурняў» толькі прачытаўшы гэты матэрыял. Магу іх запэўніць, што яны нічога не страцяць, прынамсі не страцяць веры ў камсамольскую пуцёўку, а гэта ўжо само па сабе добра.

**Роальд ДАЛ**

апавяданне

# ягня на бойні

Пакой быў цёплы і чысты, акно — завешана шторай; гарэлі дзве настольныя лямпы: адна каля яе, другая — ля пустога фатэля насупраць. У буфеце стаялі дзве высокія шклянкі, віскі і содавая. У тэрмасе захоўваліся свежыя кубікі лёду.

Мэры Малоні чакала мужа з работы.

Раз-пораз яна кідала позірк на гадзіннік, але без аніякага хвалявання, толькі дзеля таго, каб пацешыць сябе думкаю аб тым, што кожная хвіліна набліжае час, калі ён вернецца дахаты. Ёю валодаў прыўзняты настрой, і, увогуле, гэтым настроем было прасякнута ўсё, што б яна ні рабіла. Постаць Мэры, схіленая над шытвом, нібы прамянілася ціхім спакоем. Яе скура — бо ўжо шосты месяц яна насіла дзіця — набыла цудоўную празрыстасць, вусны зрабіліся мяккімі, вочы з іх новым, ціхамірным позіркам здаваліся цямнейшымі і большымі, чым раней.

Калі гадзіннік паказаў без дзесяці хвілін пяць, Мэры пачала прыслухоўвацца, і праз некалькі секунд, як і заўсёды, яна пачула шоргат шын аўтамабіля па гравію ў двары, стук дзверак, крокі пад акном і шчоўканне замка. Яна адклала шытво і ўзнялася, каб пацалаваць мужа, які ўваходзіў у пакой.

— Прывітанне, мілы,— сказала яна.

— Прывітанне,— адказаў ён.

Яна дапамагла яму зняць паліто і павесіла яго ў шафу. Потым прыгатавала дзве шклянкі віскі з содавай: мацнейшую для яго і вельмі слабую для сябе. Неўзабаве яна зноў сядзела ў фатэлі, схіліўшыся над сваім шытвом, а ён сядзеў насупраць, трымаючы высокую шклянку абедзвюма рукамі і нахіляючы яе ўбок так, што чутно было бразганне ледзяных кубікаў аб шкло.

Для Мэры гэта была самая шчаслівая частка дня. Яна ведала, што муж звычайна не жадае шмат гаварыць, пакуль не вып'е першую шклянку, і са свайго боку яна была задаволена ўжо толькі тым, што можа ціхенька сядзець поруч з ім і цешыцца яго прысутнасцю пасля доўгіх гадзін адзіноты ў доме. Яна атрымлівала асалоду ад яго прысутнасці побач і адчувала — амаль так, як на пляжы адчуваеш промні сонца — тую мужчынскую гарачыню, якая ішла ад яго, калі яны былі разам. Ёй падабалася яго расслабленая поза ў фатэлі. Ёй падабалася, як ён хадзіў сюды-туды вялікімі крокамі па пакоі. Ёй падабаўся ўважлівы позірк яго вялікіх вачэй, калі яны спыняліся на ёй, усмешлівы абрыс ягонага рота. Ёй падабалася і тое, як ён моўчкі і нерухома сядзеў у фатэлі, пакуль віскі здымала частку яго стомы.

— Стаміўся, мілы?

— Але,— сказаў ён,— я стаміўся.

Сказаўшы гэта, ён зрабіў незвычайную рэч. Ён узняў сваю шклянку і асушыў яе адным глытком, хоць там заставалася амаль палавіна. Яна не глядзела на яго, але здагадалася аб гэтым таму, што пачула, як бразнулі аб дно пустой шклянкі кубікі лёду, калі ён апусціў руку. Ён пачакаў хвіліну, нахіліўшыся ўперад у фатэлі, а потым устаў і пайшоў, каб прыгатаваць яшчэ адну шклянку пітва.

— Я зраблю гэта! — усклікнула яна і падхапілася.

— Сядай,— сказаў ён.

Калі ён вярнуўся, яна заўважыла, што пітво мела цёмна-бурштынавы колер ад вялікай колькасці віскі.

— Любы, прынесці табе твае тапачкі?

— Не.

Яна назірала, як ён піў маленькімі глыткамі цёмна-жоўтую вадкасць са шклянкі і бачыла ў ёй цёмныя разводы віскі — такое моцнае было пітво.

— Я думаю, гэта сорам,— сказала яна,— што калі паліцэйскі становіцца такім вялікім начальнікам, як ты, яго ўсё роўна прымушаюць быць на нагах увесь дзень.

Ён нічога не адказаў, і яна зноў схіліла сваю галаву, працягваючы шыць, але кожны раз, як ён паднасіў шклянку да вуснаў, яна чула бразганне лёду аб шкло.

— Любы,— спыталася яна,— прынесці табе крыху сыру? Я не гатавала вячэру: сёння чацвер.

— Не,— адказаў ён.

— Калі ты вельмі стаміўся, каб павячэраць у кавярні,— працягвала яна,— яшчэ не позна. У маразільніку многа ежы і мяса, і ты можаш паесці прама тут, нават не ўстаючы з месца.

Яе вочы чакалі ад яго нейкага адказу, усмешкі, маленькага кіўка, але ён не зрабіў аніякага знаку.

— Усё ж,— працягвала яна,— я прынясу табе крыху сыру і пячэння...

— Я нічога не хачу,— сказаў ён.

Мэры няёмка варухнулася ў фатэлі, пагладаючы сваімі вялікімі вачыма ў ягоны твар.

— Але ж ты павінен павячэраць. Я магу хутка ўсё прыгатаваць тут. Мы маглі б з'есці катлет альбо свініны. Усё, што ты пажадаеш, ёсць у маразільніку.

— Пакінь пра гэта,— сказаў ён.

— Але як, любы, ты павінен павячэраць. Я зараз прыгатую што-небудзь, а потым ты павячэраеш або не, як ты пажадаеш.

Яна ўстала і паклала шытво на стол побач з лямпай.

— Сядай,— сказаў ён.— На хвіліну.

Толькі цяпер яе пачаў апаноўваць жах.

— Давай, давай,— казаў ён,— сядай на месца.

Яна павольна апусцілася ў фатэль, увесь час пазіраючы на яго вялікімі, здзіўленымі вачыма. Хмурачыся, ён дапіў шклянку і глянуў ёй у твар.

— Слухай,— прамовіў ён,— мне трэба табе нешта сказаць.

Ён сядзеў зусім нерухома, трымаючы галаву схіленай, і лямпа побач з ім асвятляла толькі верхнюю частку ягонага твару, пакідаючы вусны і падбародак у цемры. Яна заўважыла, як маленькі мускул перасмыкваецца ў кутку яго левага вока.

— Я баюся, гэта крыху шакіруе цябе,— вымавіў ён.— Але я многа думаў аб гэтым. І я вырашыў, што лепей усё расказаць табе зараз. Спадзяюся, што ты не будзеш мяне занадта абвінавачваць.

І ён расказаў усё. Гэта не забрала багата часу, і яна сядзела нерухома ўвесь гэты час, у нейкай ашаломленай жудасці, гледзячы на яго, а ён аддаляўся і аддаляўся, з кожным вымаўленым словам.

— Вось так. Я ведаю, дрэнна казаць табе ўсё гэта, але мне не засталося нічога іншага. Я дам табе грошай і паклапачуся, каб цябе дагледзелі ў будучым. Але не трэба рабіць вялікага шуму з усяго гэтага. Я думаю, гэта магло б пашкодзіць маёй кар'еры.

Яе першае імкненне было — адкінуць усё пачутае, не верыць яму. Ёй здалося, што ён, пэўна, нічога і не казаў, што яна сама ўявіла ўсё гэта. Можа, калі яна зоймецца сваімі справамі і будзе рабіць усё так, як быццам нічога не здарылася, дык гэты кашмар знікне, і ўсё застанецца як раней.

— Я прыгатую вячэру,— выціснула яна, і на гэты раз ён не спыніў яе.

Ідучы па пакоі, Мэры не адчувала, як яе ногі кранаюцца падлогі. Яна не адчувала нічога, акрамя лёгкай млоснасці і жадання ванітаваць. Яна дзейнічала нібы аўтамат: спусцілася ў сутарэнне, запаліла святло, адчыніла маразільнік і ўзяла першую рэч, якая трапіла ёй у руку. Выцягнуўшы гэтую рэч з маразільніка, Мэры разгарнула паперу і кінула позірк на яе.

Сцягно ягняці.

Добра, сягоння на вячэру будзе бараніна. Яна панесла сцягно наверх, трымаючы яго за тонкі канец абедзвюма рукамі. Праходзячы праз пакой, яна ўбачыла, што ён стаіць каля акна, спінаю да яе. Яна спынілася.

— Не турбуйся,— сказаў ён, пачуўшы крокі, але не паварочваючыся да яе.— Мне нічога не трэба. Я зараз паеду ў кавярню.

У гэты момант Мэры Малоні падышла да яго ззаду, узняла вялікае замарожанае сцягно ў паветра і з усяе сілы апусціла яго на мужаву патыліцу.

З тым жа поспехам яна магла б ужыць сталёвую дубінку.

Мэры зрабіла крок назад, чакаючы, і самым смешным было тое, што ён стаяў на нагах яшчэ прынамсі секунд пяць ці шэсць і крыху пагойдваўся. Потым ён паваліўся на дыван. Моц удару, гук абернутага століка вывелі Мэры з шокавага стану. Яна ў здзіўленні крыху адышла ўбок, адчуваючы дрыжыкі на скуры, трошкі пастаяла, гледзячы на ягонае цела і ўсё яшчэ шчыльна сціскаючы нядарэчны кавалак мяса ў абедзвюх руках.

— Так,— сказала яна сабе.— Я забіла яго.

Яе розум раптам набыў незвычайную яснасць. Яна пачала вельмі хутка думаць. Як жонка дэтэктыва, яна добра разумела, якое пакаранне чакае яе. Цудоўна. Ёй няма ніякай розніцы. У рэшце рэшт гэта будзе палёгкай. З другога боку, а як жа дзіця? Што кажа закон аб забойцах, цяжарных у момант забойства? Караюць і маці і ненароджанае дзіця ці чакаюць, пакуль яно народзіцца? Што яны робяць?

Мэры Малоні не ведала і, безумоўна, не жадала паспрабаваць даведацца.

Яна занесла мяса ў кухню, паклала яго ў каструлю, уключыла на ўсю моц духоўку і паставіла каструлю туды. Потым яна памыла рукі і пабегла наверх у спальню. Яна села перад люстэркам, прывяла ў парадак твар і паспрабавала ўсміхнуцца. Усмешка атрымалася занадта ненатуральнай. Мэры паспрабавала яшчэ раз.

— Прывітанне, Сэм,— весела сказала яна ўголас.

Голас таксама гучаў даволі ненатуральна.

— Мне трэба крыху бульбы, Сэм, і, мусіць, бляшанку гароху.

Гэта было лепей. І ўсмешка, і голас здаваліся больш прымальнымі. Яна прарэпеціравала тое ж самае некалькі разоў. Потым пабегла ўніз, апранула паліто і выйшла праз сад на вуліцу.

Не было і шасці гадзін вечара, і вокны харчовай крамы яшчэ свяціліся.

— Прывітанне, Сэм,— весела сказала Мэры, усміхаючыся прадаўцу, які стаяў за прылаўкам.

— Добры вечар, місіс Малоні. Як вы сябе адчуваеце?

— Мне трэба крыху бульбы, Сэм, і, калі ласка, бляшанку гароху.

Прадавец павярнуўся да паліцы з бляшанкамі.

— Патрык вельмі стаміўся і не хоча сёння вячэраць у кавярні,— сказала Мэры.— Вы ведаеце, мы звычайна не вячэраем дома ў чацвер, а едзем куды-небудзь у кавярню. І зараз Патрык заспеў мяне без аніякай гародніны ў доме.

— А як наконт мяса, місіс Малоні?

— Не, дзякуй, у нас ёсць мяса. Я дастала цудоўнае сцягно ягняці з маразільніка.

— О!

— Я не вельмі люблю гатаваць марожанае мяса, Сэм, але гэтым разам я паспрабавала... Як вы думаеце, яно атрымаецца?

— Што датычыцца мяне, я не бачу ў гэтым ніякай розніцы,— сказаў прадавец.— Ці не жадалі б вы вось гэтых бульбін? Кожная з іх важыць не менш як паўкіло.

— Гэта было б цудоўна. Дзве, калі ласка.

— Штосьці-небудзь яшчэ? — прадавец схіліў галаву набок, пазіраючы на яе з замілаваннем.— А што вы прыгатуеце яму на дэсерт?

— Э-э... А што вы параіце, Сэм?

Сэм агледзеў сваю краму.

— А як наконт гэтага пудынгу?

— Выдатна,— сказала яна.— Патрык вельмі любіць яго.

Калі ўсё было загорнута і за ўсё заплочана, Мэры зрабіла найшчаслівейшую ўсмешку і сказала:

— Вялікі дзякуй, Сэм. Дабранач.

— Дабранач, місіс Малоні. І вам дзякуй.

А зараз, казала яна сабе, спяшаючы дамоў, яна проста вяртаецца да свайго любага мужа. Ён чакае вячэры, і таму ёй трэба пастарацца, каб добра згатаваць яе. Трэба зрабіць яе як мага смачнейшай, бо бедны Патрык вельмі стаміўся... А калі ёй давядзецца ўбачыць дома нешта незвычайнае або жудаснае, тады, вядома, у яе будзе шок, і яна страціць розум ад гора. А пакуль што яна не чакае дома чагосьці незвычайнага. Яна проста ідзе дамоў з крамы і нясе гародніну. Жонка Патрыка Малоні нясе дамоў гародніну з крамы, каб прыгатаваць вячэру свайму каханаму мужу.

— Вось так,— казала яна сабе.— Рабі ўсё натуральна. Няхай усё ідзе так, нібы нічога не здарылася, і тады не будзе патрэбы ў няшчырасці і прытворстве.

Разважаючы, яна нават пачала напяваць сабе пад нос нейкую песеньку і ўсміхацца.

— Патрык! — паклікала яна, увайшоўшы ў кухню праз заднія дзверы.— Як ты там?

Яна паклала пакунак з пакупкамі на стол і прайшла ў гасцёўню. І калі яна ўбачыла, што Патрык ляжыць з падкручанымі нагамі і рукой, няёмка прыціснутай тулавам да падлогі, то гэта быў сапраўдны шок. Усё яе старое каханне і цяга да Патрыка ўскалыхнуліся ў душы. Яна кінулася да яго і, схіліўшыся над ім, мёртвым, пачала рыдаць.

Усё ішло вельмі лёгка. У ніякім прытворстве зусім не было патрэбы.

Праз некалькі хвілін яна ўзнялася і падышла да тэлефона. Яна хутка набрала нумар паліцэйскага ўчастка і, пачуўшы мужчынскі голас у адказ, закрычала:

— Хутчэй! Прыязджайце хутчэй! Патрык забіты.

— Хто размаўляе?

— Місіс Малоні. Жонка Патрыка Малоні.

— Вы кажаце, што Патрык Малоні забіты?

— Але,— усхліпнула яна.— Ён ляжыць на падлозе, і я думаю, што ён мёртвы.

— Зараз будзем,— адказаў паліцыянт.

Машына прыехала вельмі хутка, і калі Мэры адчыніла дзверы, у пакой адразу ўвайшлі два паліцыянты. Яна ведала іх абодвух, яна ведала амаль усіх паліцыянтаў у гэтай акрузе. Істэрычна рыдаючы, яна ўпала ў абдымкі Джэка Нумана. Ён мякка апусціў яе ў фатэль і далучыўся да свайго калегі О'Мэлі, які ўжо стаяў на каленях над трупам.

— Ён забіты?! — крыкнула Мэры.

— Баюся, што так. Што здарылася?

Мэры сціпла расказала аб тым, як яна пайшла ў краму і, вярнуўшыся, знайшла Патрыка на падлозе. Пакуль яна апавядала, плакала і апавядала, Нуман знайшоў маленькую плямачку згусlай крыві на галаве ў забітага. Ён паказаў яе О'Мэлі, які адразу ж падняўся і заспяшаўся да тэлефона.

Неўзабаве ў дом сталі ўваходзіць іншыя паліцыянты. Спачатку доктар, потым два дэтэктывы. Аднаго з іх Мэры ведала па імені. Потым прыйшоў паліцэйскі фатограф і пачаў здымаць забітага. Прыйшоў спецыяліст па адбітках пальцаў. Вакол трупа было шмат мармытання і шаптання, і дэтэктывы зноў і зноў задавалі Мэры пытанні. Але яны ўвесь час ставіліся да яе ўважліва і беражліва. Мэры расказала ўсё з самага пачатку яшчэ раз: як Патрык прыехаў дамоў, а яна шыла, і ён быў вельмі стомлены, такі стомлены, што не пажадаў ехаць у кавярню вячэраць. Мэры расказала, як яна паставіла мяса ў духоўку — «Яно і зараз там варыцца» — і як яна выскачыла з дому ў краму, потым вярнулася і знайшла яго ўжо мёртвага на падлозе.

— Якую краму вы маеце на ўвазе? — спытаўся адзін з дэтэктываў.

Яна сказала якую, і той павярнуўся і нешта прашаптаў другому дэтэктыву, які зараз жа выйшаў кудысьці.

Праз чвэртку гадзіны ён вярнуўся з аркушам паперы, усыпаным нейкімі запісамі, і зашаптаў штосьці таму, хто яго пасылаў у краму. Праз усхліпванні Мэры чула: «...паводзіла сябе нармальна... была вясёлая... хацела прыгатаваць яму добрую вячэру... ... гарох... ...немагчыма, каб яна...»

Праз некаторы час фатограф і доктар пайшлі зусім, а ў пакой увайшлі яшчэ людзі і панеслі труп на насілках. Потым пайшоў чалавек, які займаўся адбіткамі пальцаў. Заставаліся два дэтэктывы і два паліцыянты. Кожны з іх быў надзвычай тактоўны ў дачыненні да яе, і Джэк Нуман спытаўся, ці не пайсці ёй лепей кудынебудзь, скажам, да сястры або да ягонай жонкі, якая паклапоціцца пра яе і пакладзе яе спаць.

— Не,— сказала Мэры. Яна адчувае сябе так, што наўрад ці змагла б ссунуцца з месца і на ярд. Яны ж не будуць пярэчыць, калі яна застанецца там, дзе ёсць, пакуль не адчуе сябе лепей. Яна дрэнна адчувае сябе, вельмі дрэнна.

Тады ці не ляжа яна лепш на ложак, спытаў Джэк Нуман.



— Не,— адказала яна. Яна хацела б застацца ў гэтым фатэлі. А крыху пазней, калі, можа, яна адчуе сябе лепей, яна пойдзе.

Нарэшце яны пакінулі яе ў спакоі і заняліся сваімі справамі, абшукваючы дом. Час ад часу адзін з дэтэктываў задаваў ёй пытанне. Часам Джэк Нуман мякка гаварыў з ёю, праходзячы міма.

Яе муж, казаў ён, быў забіты ўдарам па патыліцы, нанесеным цяжкай тупой рэччу, мусіць, вялікім кавалкам металу. Яны шукалі гэтую рэч. Забойца мог забраць яе з сабой, але, з другога боку, ён мог і выкінуць яе або схаваць у памяшканні.

— Гэта старая гісторыя,— сказаў Джэк Нуман.— Знайдзі зброю — і ты амаль знайшоў забойцу.

Пазней адзін з дэтэктываў падышоў да яе і сеў побач.

Ці не ведала яна, спытаў дэтэктыў, чаго-небудзь у доме, што магло б быць ужыта ў якасці зброі. Ці не паглядзіць яна навокал, каб пабачыць, што можа адсутнічаць — вельмі вялікі гаечны ключ, напрыклад, або цяжкая металічная ваза.

У іх не было ніякіх металічных ваз, сказала яна.

— А вялікіх ключоў?

Яна не думае, каб яны мелі вялікі ключ. Але ў гаражы, можа, і будуць такія рэчы.

Пошук працягваўся. Мэры ведала, што паліцыянты былі ў садзе, усюды навокал дома. Яна чула, як на двары храбусцеў гравій пад іх нагамі, і часам бачыла ўспышку запальнічкі праз шчыліну ў фіранках. Вечарэе, хутка дзевяць, заўважыла яна па гадзінніку, што стаяў на каміне. Чатыры мужчыны, якія абшукалі дом, выглядалі ўсё больш стомленымі, крыху раздражнёнымі.

— Джэк,— папрасіла яна, калі сяржант Нуман праходзіў побач.— Прынясіце мне, калі ласка, што-небудзь выпіць.

— Калі ласка. Вы маеце на ўвазе гэты віскі?

— Але. Толькі кропельку. Можа, гэта палепшыць маё самаадчуванне.

Джэк Нуман падаў ёй шклянку.

— Чаму б вам таксама не выпіць? — сказала яна.— Вы, мусіць, страшэнна стомлены. Калі ласка, выпіце. Вы былі такі ўважлівы да мяне.

— Добра,— згадзіўся Джэк.— Гэта не зусім дазваляецца, але я мог бы выпіць кроплю дзеля падтрымкі.

Адзін за адным падыходзілі іншыя, і таксама ўпрошваліся выпіць маленькі глыточак віскі. Неўзабаве ўсе яны стаялі вакол Мэры са шклянкамі ў руках, няёмка пераступаючы з нагі на нагу і стараючыся казаць ёй што-небудзь суцяшальнае. Сяржант Нуман зайшоў у кухню, хутка вярнуўся назад і сказаў:

— Місіс Малоні, вы ведаеце, што духоўка ўключана і мяса ўсё яшчэ там?

— Божа мой! — усклікнула яна.— Вось дык справы!

— Мне трэ было б выключыць яе?

— Але, але, Джэк. Дзякуй вам.

Калі сяржант ізноў увайшоў у пакой, яна паглядзела на яго сваімі вялікімі цёмнымі вачыма, поўнымі слёз.

— Джэк Нуман,— сказала яна.

— Слухаю вас.

— Зрабіце мне маленькую ласку, вы і ўсе астатнія.

— Пастараемся, місіс Малоні.

— Добра,— сказала яна.— Вы тут усе добрыя сябры Патрыка, дапамагаеце спаймаць яго забойцу. Вы да гэтага часу, напэўна, вельмі прагаладаліся. Ужо вельмі позна, і прайшло шмат часу пасля таго, як вы павінны былі павячэраць. І я ведаю, што Патрык, божа блаславі яго душу, ніколі б не дараваў мне, калі б я не аказала вам добрае гасціннасці ў гэтым доме. Чаму б вам не з'есці таго мяса ў духоўцы? Зараз яно павінна быць якраз гатовае.

— Не можам і марыць аб гэтым,— адказаў Джэк Нуман.

— Калі ласка,— упрошвала яна,— з'ешце яго. Што датычыць мяне, дык я не магу дакрануцца да аніякай рэчы ў гэтым доме, дзе жыў Патрык. Мне было б так прыемна, калі б вы з'елі мяса. А потым вы маглі б працягваць вашу працу.

Сярод чатырох паліцыянтаў было шмат ваганняў, але ж было відаць, што ўсе яны галодныя, і, у рэшце рэшт, яны паддаліся на ўгаворы і пайшлі на кухню. Мэры засталася ў фатэлі, прыслухоўваючыся да іх гутаркі праз адчыненыя дзверы. Ёй добра было чуваць, як яны размаўлялі паміж сабой хрыплымі і нядбайнымі галасамі, таму што раты ў іх былі поўныя мяса.

— Пакласці табе яшчэ, Чарлі?

— Не. Лепей не есці ўсё да канца.

— Яна **жадае**, каб мы з'елі ўсё. Яна так сказала. Давай зробім ёй прыемнае.

— Тады няхай. Пакладзі мне яшчэ.

— Якую ж вялізную дубінку мусіў ужыць забойца, каб зваліць беднага Патрыка,— гаварыў адзін з іх.— Доктар кажа, увесь чэрап быў раструшчаны ўшчэнт, быццам пад кувалдай.

— Вось чаму яе лёгка знайсці.

— Тое ж самае кажу і я.

— Хто б ні зрабіў гэта, яны не павінны былі цягнуць гэткую рэч далей, чым трэба.

Адзін з іх адрыгнуў.

— Асабіста я думаю, яна недзе тут, у памяшканні.

— Мабыць, проста ў нас пад насамі. Як ты думаеш, Джэк?

У суседнім пакоі Мэры Малоні ціхенька захіхікала.

**З англійскай пераклаў Уладзімір СЕРПІКАЎ**

## музычны тэлетайп



**21 мая ў Навагрудку на свяце горада адбыўся выдатны рок-канцэрт «Стары замак». Здаецца, упершыню ў нашай краіне рок-канцэрт праходзіў у зруйнаванай крэпасці — Міндоўгавым замку. А гурт выканаўцаў быў такі, што яму маглі б пазайздросціць любыя стадыёны ці Палацы культуры. Акрамя нашых беларускіх груп «Мроя», «Уліс», «Тэатр», удзельнічалі лідэры прыбалтыйскай рок-музыкі: хэві-металёвы каўнаскі «Гараскопас» і вядомы спявак Іва Фомінс, група падтрымкі з Ліепаі.**

**У інтэрв'ю музыканты выказалі спадзяванне, што гэтая акцыя прыцягне ўвагу да драматычнага стану архітэктурных помнікаў на Беларусі.**

**У. КРАМУШЧАНКА**

**Сяргей БУЛЫГА**

# фельдмаршал

**апавяданне**

Я яго адразу занелюбіў. Не прыглянуўся ён мне. Фельдмаршал які мусіць быць? Сівы, як мышалоў, мажны, грудзі ў крыжах і голас, як у трубы. А гэты непаглядны, у акулярчыках, маўклівы. Ходзіць па кабінеце нахмурыўшыся, думае. Пасля загадае:

— Ягор!

Гэта я. Сяду, значыцца, пяро вастру. Ён дыктуе, пішу. Мяне з-за почырку ўзялі, я ведаю. Почырк быў у мяне, як мазурка, прыгожы. Я ў палку ўсім любоўныя лісты пісаў. Але не да лістоў салдату. Усё часцей, бывала, ідзём рыссю, шашка ў руцэ, і карцеч так і свішча, трубачы заліваюцца. Казка!



Але аднялі казку. Штандар зачахлілі, палкоўніка ў адстаўку, а іншых у аратаі.

— Коні,— сказалі,— ёсць, вось і арыце. Ганьба! Баявую адзінку развалілі. Хто сварыўся, хто страляўся. Ну а мне, як тады здалося, выпаў шчаслівы білет. У штаб дывізіі выклікалі і кажуць:

— Обер-пад'есаул, рэпрэзэнтуйцеся!

Я ім і сказаў: так, маўляў, і так, фарсіраваў Гарынычавы балоты, прадстаўлены да Патрафія трэцяй ступені, паланіў генерала — св. Кіпятон без брыльянтаў, за ўдзел у справе пры Шварцшнапсшпіцы — Марфа на шыю, за леташнюю кампанію — імянная зброя, батыставы крыж і два бласлаўленні ад імя Айчыны.

— Ухвальна,— кажуць,— а почырк?

— А почырк,— адказваю,— як мазурка.

— Вось і выдатна,— смяюцца.— Вы нам падыходзіце. Ідзіце ў канцылярыю, бярыце прагонныя і марш-марш на месца новай службы.

Я шпорамі бразнуў і выйшаў. А куды, не спытаўся. Не паложана. Служба ёсць служба.

У канцылярыі мне кажуць:

— Пашэнціла табе, браток. Будзеш ад'ютантам у фельдмаршала.

Я маўчу. У фельдмаршала — гэта, вядома, гонар. Але, па-першае, я з бравага рубакі трапіў у штабныя пацукі, а па-другое, калі штандары зачахляюць і таварышы страляюцца... Здрада ў арміі! Палкоўнік, эпалеты абрываючы, казаў:

— Мне што, я сваё адтрубіў. А вось як вам зараз быць, не ведаю. Шукайце крамолу, шукайце! Няхай нават сам гасудар...— і запнуўся.

Пасля пайшоў у кабінет, застрэліўся.

Вось я і падумаў: можа, фельдмаршал крамолу выкрые? Узяў прагонныя, паехаў. Два дні дабіраўся, не еў, і не піў, і не спаў, хваляваўся.

Прыбыў у стаўку, далажыў. І дзяжурны афіцэр, паўпалкоўнік Калашнікаў — вось каго ніколі не забуду! — з ухмылкаю спытаўся:

— Обер-пад'есаул, навошта вам шпоры?

— Як навошта? — дзіўлюся.

А ён мне:

— Зняць! Каб не бачыў! — і пабарвавеў ад натугі.

Зняў я шпоры, вядома. За пазуху схаваў. Увайшоў. І ўбачыў фельдмаршала. Ходзіць задумаўшыся. Кволы. Я яго на парадах не бачыў, з новых, няйначай. Я плюнуў у душы, ну а так — нічога, нават не міргнуў. Далажыў. Ён загадаў:

— Ягор!

Я сеў да стала. Ён дыктуе, пішу. Шпоры за пазухай бразгаюць. Горка, крыўдна. Але служба ёсць служба, маўчу. І кемлю, што пра нашага палкоўніка не час успамінаць, бо ад такіх фельдмаршалаў звычайна і ўсе крамолы.

І не памыліўся ж, угадаў!

Вось сяджу я, пішу. Спачатку ўсё было няясна, туманна. Рэляцыі, загады, артыкулы і проста развагі. Ну а потым заўважаю, што праз слова — «машына», «машына». Машыне трэба гэта, машыне трэба тое, машына мае, у машыне закладзена, ма... Што за звер? Незразумела. Раптам знаёмае слова — «фураж». Я замёр, а ён:

— У дзень на адну машыну прыходзіцца сена дванаццаць пудоў. Запісаў?

Я маўчу.

— Запісаў?!

— Н-не!

Ён на мяне паглядзеў, паглядзеў... усміхнуўся. Спытаўся:

— Дзе служыў?

Адказваю:

— Малапрастольскі Яго Вялікасці лейб-галоп...— і сумеўся.

А ён усміхаецца. Я тады падскочыў і — дальбог! — ажно голас дрыжыць:

— Штандар зачахлілі, палкоўнік Зверыновіч застрэліўся. Хто дазволіў палкі вырубаць?!

Усміхаецца.

— Сядай,— кажа,— я ўсё ведаю. Пішы.— І зноў: — У дзень на адну машыну прыходзіцца сена дванаццаць пудоў.

Я сяджу. Не пішу. Цяжка стала, уздыхнуў, шпоры за пазухай бразнулі. Ён пачуў, спытаўся:

— Што такое?

— Так, шпоры. Мой асабісты штандар.

Ён зноў усміхнуўся, сказаў:

— Кавал-лерыя. Гм...— а потым: — За што Патрафій трэцяй ступені?

— Героем фарсіраваў балоты, сябе не шкадаваў.

— Багата нашых палегла?

— Не лічылі. Вайна.

Тут ён нахмурыўся, уздыхнуў. А потым:

— Вось у тым уся і штука, Ягор. А была б машына, дык коні б не вязлі, карцеч не секла б. Не па-геройску ваююць — розумам!

Я ажно падскочыў ад крыўды, а ён:

— Ладна, я пажартаваў. Ну а шпоры надзень, не мучся. Дазваляю.

Я надзеў і астыў. Ён зноў:

— У дзень на адну машыну прыходзіцца сена дванаццаць пудоў. Запісаў?

— Запісаў.

Вось так і працаваў тыдзень. Усё пра машыну пісаў. Сена, парусіна, катвігі, гранаты, сухары, торбы з туманам... Удзень працую, уначы не сплю. Што за машына такая? Навошта? Каму гэта трэба — палкі вырубаць? А што як раптам непрыяцель аб'явіцца, то хіба ж машына ўратуе? Пахудзеў я, высах. Вырашыў: напішу гасудару. На службу раней прыйшоў, сеў за стол, узяў пяро...

І тут уваходзіць фельдмаршал. У парадным мундзіры, вясёлы.

— Ягор,— кажа,— збірайся. Паедзем машыну глядзець.

Ехалі на конях. Фельдмаршал у сядле — ну як сабака на плоце. Я на такое глядзець не магу, адвярнуўся.

Прыехалі. Поле. Вакол вартавыя. Мы спешыліся, чакаем. Падбягае флігель-ад'ютант, рапартуе. Фельдмаршал:

— Вядзі!

Павялі. Спускаемся ў лагчыну, а там...

Ніжніх чыноў сотні дзве ці болей. Мітусяцца, крычаць, сена, паходні цягнуць. А на высокіх жэрдках вісіць велізарная парусінавая торба.

Фельдмаршал акулярчыкі паправіў і мне падміргнуў. Я маўчу, чакаю.

А ніжнія чыны мітусяцца, віламі махаюць і сена стагуюць. Потым падпалілі. Сена сырое, дыміць... а торба надзімаецца. Памажы нам св. Кіпятон!

Фельдмаршал зноў падміргнуў і сказаў:

— Вось, машына!

А торба так надзьмулася, што стала вырывацца. Але яе вяроўкамі ўтаймавалі, карзіну да торбы падвязалі, а пасля ў тую карзіну восем бравых грэнадзёраў, як куранят, пакідалі. Грэнадзёры ківеры паздымалі, рукамі «бывай» замахалі.

Вяроўкі абсеклі, торба і ўзляцела. Вецер яе падхапіў і панёс. Ляцяць грэнадзёры ўсё вышэй і вышэй, маўчаць.

Ну а тут, на зямлі, закрычалі:

— Ур-ра! Ур-ра! Ур-ра!

Фельдмаршал усміхаецца.

І раптам грэнадзёры сталі зверху гранаты кідаць. Спрытныя, чэрці! Гранаты ўсё бліжэй і бліжэй. Я не стрымаўся, упаў... А фельдмаршал смяецца:

— Дарма спалохаўся, гранаты вучэбныя, устань.

Я ўзняўся, пясок абтрос, а фельдмаршал...

— Вось так, Ягор. Не па-геройску ваюем — розумам!

Я змаўчаў. З тым і паехалі ў штаб.

І зноў ён дыктуе, пішу. Пра машыну ды пра бравых грэнадзёраў і вучэбныя гранаты.

Мы потым яшчэ тры разы ў поле ездзілі, глядзелі. Грэнадзёры вучыліся разганяцца, супраць ветру паварочваць. Невучэбныя гранаты ў вучэбныя цэлі кідалі. Адмыслова! А ўжо сена папалілі — не паверыце колькі. Усёй гвардзейскай кавалерыі гэтага сена хапіла б на летнюю кампанію. Я, між іншым, так і сказаў. Усміхнуўся фельдмаршал, адказаў:

— Я ведаю. Але скажы мне, Ягор, хто дзяржаве больш карысны?

Маўчу. А фельдмаршал:

— Адна машына замяняе дзве брыгады лёгкай кавалерыі. Так што, сам разумееш...— і раптам змоўк, загадаў вяртацца.

Вяртаемся ў штаб. Мне палкоўнік Зверыновіч згадваецца. Ён тады, перад смерцю, сказаў:

— Шукайце крамолу, шукайце. Няхай нават сам гасудар...

Не, гасудар не здрадзіў, фельдмаршал ва ўсім вінаваты. Нарабіў парусінавых торбаў, грэнадзёраў у карзіны закінуў, ну, а зялёны фураж... Чым зараз коні накарміць? Як цяпер рыссю, шашка ў руцэ, трубачы заліваюцца, як?! Дзе высакароднасць, дзе гонар? Раней ішоў на вайну як на свята, змагаўся, сек, верны конь пад табою гарцаваў, а зараз — на торбах?! Зганілі ваеннае саслоўе, насмяяліся з памяці дзядоў. Напісаць гасудару? А што гасудар! Ён не ваенны, ён цывільны, ці ж зразумее...

Зразумее! Калі правільна думку данесці.

І данёс. Так, маўляў, і так, гасудар, задумваюць крамолу. Разганяюць тваё верныя гвардзейскія палкі, набіраюць мужыцкае войска. Кожнаму вілы далі, нашылі прасторных торбаў. Выхваляюцца: у гэтыя торбы самадзержцу, сенат, дэпартаменты... Запячатаў, на пошту занёс.

А ўранку — на службу. Фельдмаршал дыктуе, пішу. Увечары — во дзе служба дык служба! — стукаюць. Адчыняем. Уваходзіць палявая жандармерыя.

— Грамадзянін фельдмаршал! — кажуць і шпорамі бразгаюць.

Ён здзівіўся трохі. А яму:

— Калі ласка, шаблю.

Ён і аддаў.

Я пасля зірнуў у акно — павезлі на чорных дрожках.

А назаўтра яго расстралялі. Торбы пасеклі, грэнадзёраў на галеры, флігель-ад'ютанта ў жоўты дом, паўпалкоўніка Калашнікава шукалі — не знайшлі. Мне ж выйшаў заўчасны чын, племянное жарабя з гасударавай канюшні і алмазныя шпоры на ківер за пільнасць. Паслья ясным майскім днём наш геройскі штандар расчахлілі, увесь наш полк лейб-галоп з сялян вярнулі. Во дзе радасці было! Трубы звонка спяваюць, барабаны грымяць, мы па чацвёра ў рад маршыруем, гвардзейскую песню спяваем. Загадам Яго Вялікасці даставілі нам жоўтыя падковы з вензелямі, ну а новаму палкоўніку — Ягору, гэта значыць мне — батыставую хустку, царскім духам надушаную. Я перад строем яе цалаваў, сёй-той праслязіўся ад шчасця.

Праз тры гады здарылася вайна. Непрыяцель, як груган, на нас наляцеў, на торбавых машынах. Думаў, не выстаім. Ды не! Мы на народ багатыя — не злічыць, народ наш адважны, кемлівы. Кулям ды гранатам мы не кланяліся, навучыліся машыны шапкамі закідваць, збіваць. Крывёю ўмыліся, вядома, але перамаглі. Ура!

А цяпер я ў адстаўцы, у фаворы. Пішу мемуары. Бывае, запрашаюць да навабранцаў, каб я выхаванню садзейнічаў. Ну і садзейнічаю як магу. Вопытам я не пакрыўджаны.



каб не прапасці ў адзіноце...

# блуканні па пакутах з мыліцамі ў руках

Іосіф ЕСАКОЎ

## 1. Прыватны выпадак

Жана Краўцова называе сябе аптымісткаю. Паўгода назад ёй нарэшце ўдалося знайсці працу па душы. І яна шчаслівая. Усміхаецца.

Жана — інвалід 1-й групы, спінальнай катэгорыі, так званая «спінальніца», «калясачніца». У даведцы запісана: непрацаздольная, пастаянна мае патрэбу ў старонняй дапамозе.

Ей 31 год, жыве ў Мінску з бацькамі ў трохпакаёвай кватэры. Адукацыя вышэйшая. Працуе ў інстытуце экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў. Працаўладкавацца Жане дапамагло нядаўна створанае Беларускае таварыства інвалідаў, адным з арганізатараў якога з'яўляецца і яна.

Няшчасце здарылася з ёю ў юнацтве: аўтамабільная аварыя... Школу закончыла дома. Ей дапамагалі сябры, класная кіраўніца Валянціна Уладзіміраўна Краўчанка, бацькі, сястра і... кантактны, вясёлы характар.

А потым быў Белдзяржуніверсітэт, філфак. Педагогі пайшлі ёй насустрач — прымалі экзамены дома. Займалася Жана старанна, як кажуць, з душою. У выніку — дыплом з адзнакаю і прапанова паступіць у аспірантуру.

Я сяджу ў гасцях у Жаны, у яе ўтульным пакоі, на другім паверсе 16-павярховага дома-вежы, што на рагу вуліцы Каліноўскага і Ленінскага праспекта. Слухаю яе расказ пра сябе і не перастаю здзіўляцца сіле духу не зломленага няшчасцем чалавека.

— Ад аспірантуры я адмовілася з-за... аўтамабіля. Калі я купіла машыну, перада мною адкрыўся свет. Бо раней ён быў абмежаваны шыбаю акна. А цяпер, як толькі настае лета, я сядаю за руль — і ў дарогу! Столькі ўсяго ўбачыла — немагчыма расказаць... Рух, сустрэча з людзьмі для мяне — як жывая вада. Трэба ўмець радавацца жыццю. Мы, інваліды, гэта ўмеем як ніхто іншы!

Дыплом атрыманы, а як жа з працаю? Інвалідам працаўладкавацца пакуль што вельмі нялёгка. Жана доўга расказвае мне пра сваё блуканні. Расказвае сумленна, сціпла, падрабязна. Я ёй веру. Глыбей азнаёміўшыся з праблемаю, зразумеў, што праз чысцец такіх і нашмат большых пакут зазвычай праходзіць кожны інвалід з дыпломам ці без дыплома.

Яна займалася рэпетытарствам, друкавала, вязала... Потым захапілася грамадскай работаю. А пачалося ўсё з... бальніцы № 5. Чаму з яе? Ды таму, што там лечаць «спінальнікаў». Для здаровага чалавека бальніца — гэта заўсёды ізаляцыя, а для такіх, як Краўцова, магчымасць кантактаў. Так і зарадзілася ў Жаны і яе сяброў па няшчасці ідэя аб ратаванні ўласнымі рукамі — думка стварыць Таварыства інвалідаў. Гэтую праблему, як і ўсе праблемы ў жыцці інвалідаў, прыйшлося «браць» штурмам, нібыта варожую крэпасць. І ўсё-такі летам мінулага года яны святкавалі перамогу.

Затым Жана дамаглася, каб УПЭК перагледзеў сваё заключэнне. Ей напісалі: можа працаваць па спецыяльнасці філолага ў індывідуальна створаных умовах. Сёння яна працуе дома. Гэта была яшчэ адна перамога.

— Пад ляжачы камень вада не цячэ,— кажа Жана.— Спадзяюся, Таварыства інвалідаў многім дапаможа знайсці сваё месца ў жыцці. Трэба паказаць усім, што ў інвалідаў светлыя галовы, залатыя рукі, што яны любяць і ўмеюць працаваць. У іх іншае стаўленне да справы. Яны даражаць сваім месцам, больш сумленна ставяцца да працы, чым здаровыя людзі. Адным словам, інвалідам можна даверыць сур'ёзную справу.

Вядома, гісторыя пакут і барацьбы Жаны Краўцовай — гэта, так сказаць, прыватны выпадак. Але і ў ім, як у кроплі расы, адлюстроўваюцца агульныя заканамернасці. Перамагае той, хто змагаецца. А хто не змагаецца, ужо прайграў.

## 2. Час вяртаць даўгі

У Жаны Краўцовай добрыя бацькі, сястра, адданыя сябры, нарэшце, моцныя характар і воля. Да таго ж, яна жыве ў сталіцы. Ей ёсць на каго абаперціся. А як быць тым, хто адзінокі і безабаронны? Для іх павінны быць створаны Дамы інвалідаў. Раней такі дом у Мінску размяшчаўся па вуліцы Калініна, 7 (цяпер там цэнтральнае праўленне БелТІ), а перамешчаны ён у мікрараён Дражня на вуліцу Ваўпшасава, 33 і носіць назву — Мінскі гарадскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абслугі пенсіянераў. Тут пенсіянеры і інваліды жывуць разам. Гэта выдатны комплекс, дзе слабыя і старыя людзі атрымліваюць неабходную ім дапамогу і абслугу.

— Маладых інвалідаў у нас усяго 15 чалавек,— сказаў мне дырэктар цэнтра Міхаіл Іванавіч Навумчык.— Зрэшты, працаздольных сярод іх амаль няма. Усе яны «калясачнікі»...

— Так, але хоць нешта рабіць некаторыя з іх, напэўна, хацелі б? — пацікавіўся я.

— Вядома. Але пра гэта вам лепш раскажа наш інструктар па працы Таццяна Віктараўна Колерава...

— Інвалідам знайсці працу вельмі цяжка. Праўда, сёе-тое ў нас робіцца,— сказала Колерава і прапанавала паглядзець радыёмантажны цэх Мінскага камбіната надомнай працы, які знаходзіцца ў цэнтры.

Праца там нескладаная: пайка, луджэнне. Аднак вытворчасць шкодная, патрабуе дазволу медыцынскай камісіі. З 27 работнікаў — 24 інваліды.

— У нас ёсць яшчэ трыкатажны ўчастак, але працуюць там здаровыя людзі,— працягвала свой расказ Колерава.— Пастараемся абсталяваць рабочыя месцы і інвалідам. Ёсць яшчэ ўчастак для клейкі скрыначак, дзе працуюць пажылыя інваліды. Як вы разумееце, камбінат надомнай працы неахвотна бярэ нашых людзей. У іх жа план! А інвалід можа працаваць не больш як чатыры гадзіны. Праца яму — лячэбны сродак, так званая псіхатэрапія. Мы збіраемся адшукаць яшчэ адно памяшканне, дзе можна было б вязаць, шыць, клеіць канверты, пакеты... Абсталяванне ёсць.

У цэнтры я пазнаёміўся з 33-гадовым інвалідам 1-й групы Генадзем Запольскім. Па адукацыі ён юрыст, апроч таго, закончыў курсы замежных моваў. Тут працуе і ягоная жонка Тамара. Яна санітарка, даглядае маладых інвалідаў-«калясачнікаў».

Генадзю падабаецца ў Мінскім цэнтры. Ён сам са Стаўбцоўскага раёна і да гэтага жыў у вёсцы ў маці, а потым ў дамах-інтэрнатах у Нясвіжы і Мікалаеўшчыне (дзе і пазнаёміўся з будучай жонкаю). Пра жыццё там Запольскі згадвае са страхам і гідкасцю: адсутнасць побытавых выгод, бруд, амаральныя паводзіны стракатай публікі...

— Тут дом узорна-паказальны, адзіны такі ў рэспубліцы і адзін з лепшых у краіне,— кажа Генадзь.— Наш побыт добра наладжаны. Праўда, жыццё казённае, па званку. Спадзяюся, нам з Тамараю хутка дадуць пакой у інтэрнаце. Вось тады я і падумаю аб працаўладкаванні. Юрыстам мне працаваць цяжка, а перакладамі займацца змагу. Разлічваю на тое, што Беларуская гандлёвая палата забяспечыць мяне працаю.

Мы доўга гутарылі з Генадзем Запольскім пра становішча інвалідаў у нашай краіне, пра адносіны да іх здаровых людзей, пра міласэрнасць, якая доўгі час выцручвалася са свядомасці людзей як перажытак буржуазнай мінуўшчыны... Я слухаў яго і думаў пра тое, што прыйшла пара ўсім нам пакаяцца перад інвалідамі. Нашае грамадства вінаватае перад імі. А даўгі, як вядома, трэба вяртаць.

## 3. У пошуках выйсця

А зараз пра самае, бадай, галоўнае — працаўладкаванне інвалідаў. У тым ліку і маладых.

Вадзім Раманенкаў, цяпер супрацоўнік цэнтральнага праўлення БелТІ. Яму 25 гадоў. Перанёс дзіцячы цэрэбральны параліч. Інвалід 2-й групы з дзяцінства. Атрымлівае дапамогу ў суме 40 рублёў. Закончыў Асіповіцкую школу-інтэрнат, затым Харкаўскі ўлікова-эканамічны тэхнікум для інвалідаў (на Беларусі, дарэчы, такіх навучальных устаноў няма).

Здавалася б, усё ў парадку. Ёсць досыць працаздольны чалавек з дыпломам і накіраваннем на працу. Але проста ўсё толькі на словах. Вось першы круг «блукання па пакутах». Запыт аб працаўладкаванні Раманенкава з Украіны паступае ў Міністэрства сацыяльнага забеспячэння, адтуль у Ленінскі раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння Мінска, потым у раённае бюро па працаўладкаванні. Адказ: «Інвалідаў не працаўладкоўваем».

Потым зноў раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння, зноў міністэрства, гарадскі аддзел, раённы... Прапанавалі перайсці на 3-ю групу інваліднасці — маўляў, так лягчэй знайсці працу. Згадзіўся. Нарэшце звярнуўся ў ЦК КПБ: «Дапамажыце!» Адтуль пайшоў ліст у гарвыканком. Гарвыканком адфутболіў у гарадскі аддзел сацыяльнага забеспячэння, раённы і г. д. Адным словам, замкнёнае кола.

Прайшлі два гады безвыніковых пошукаў, пакуль, на яго шчасце, не стварылася БелТІ.

Прыяцель Раманенкава Валерый Арловіч (інвалід 2-й групы з дзяцінства, 26 гадоў) таксама перанёс цэрэбральны параліч. Атрымлівае пенсію 50 рублёў. Маці пенсіянерка. Пісаць яму цяжка, вучыцца ён не можа. Яго не бралі нават у камбінат надомнай працы, пакуль не пайшоў у гарвыканком. Цяпер яго прытуліла Таварыства інвалідаў, ён працуе дворнікам за 70 рублёў. А як з такім акладам будаваць сям'ю?

— Каму я такі патрэбны?! — з горыччу ўсклікае Валерый.— Хто за мяне пойдзе? Нікому ж не хочацца разводзіць жабрацтва...

Даўно існуе двухпрацэнтная браня на інвалідаў на прадпрыемствах, але ва ўмовах гасразліку ад іх стараюцца пазбавіцца любымі сродкамі. Прадпрыемству **нявыгадна** ствараць інвалідам умовы!

Так за бортам застаўся Міхаіл Буйневіч, які закончыў наргас. Цяпер працуе ў БелТІ вартаўніком. Выжылі з работы і спецыяліста з вышэйшай адукацыяй бібліятэкарку Ларысу Грынцэвіч, якая ў адчаі ледзь не рашылася на апошні крок. Яе ўладкавалі прыбіральшчыцай. Цяпер яна актыўна ўдзельнічае ў грамадскай рабоце, з'яўляецца ініцыятарам стварэння Маскоўскага раённага Таварыства інвалідаў. Усе гэтыя маладыя людзі перанеслі адно і тое ж захворванне — дзіцячы цэрэбральны параліч. Гэта нармальныя, сталыя, прафесійна падрыхтаваныя асобы. Але мы не прывучаныя гуманна ставіцца да сваіх блізкіх, якія трапілі ў бяду. Мы абыякава і жорстка адрынулі іх ад сябе. І нікому не стала сорамна. Гэта здарылася ў сталіцы, а як жа ім, інвалідам, у правінцыі, асабліва ў вёсцы?..

І ці ёсць выйсце з гэтага становішча? Ці можна дапамагчы інваліду, які хоча і вымушаны працаваць? Выяўляецца, можна. Вось што сказаў мне начальнік планава-вытворчага аддзела БелТІ Міхаіл Львовіч Гохман (інвалід 2-й групы, 36 гадоў, доўгі час працаваў канструктарам на гадзіннікавым заводзе):

— Я бачу два шляхі працаўладкавання інвалідаў. Трэба перадаць нам сецьк камбінатаў надомнай працы і перапрафіліраваць іх на навукаёмістую вытворчасць, напрыклад электронную ці гадзіннікавую. Бо былі ж у свой час арцелі інвалідаў, якія няблага працавалі. Вопыт ёсць. Другі шлях — стварэнне кааператываў. Ім патрэбныя прывілеі. Хочацца спадзявацца, што яны будуць. Ужо дзейнічае кааператыў «Рух» па рамонце аўтамабіляў з ручным кіраваннем (праўда, там пераважна заняты здаровыя людзі). Заканчваецца станаўленне швейнага кааператыва «Мара», дзе пашываем адзежы, у тым ліку і для інвалідаў, будуць займацца самі інваліды. У іншых гарадах Беларусі таксама арганізуюцца інвалідныя кааператывы, напрыклад у Віцебску, Бабруйску... На чарзе стварэнне асацыяцыі інвалідных кааператываў. Збіраемся арганізаваць і спецыяльнае праектна-канструктарскае тэхналагічнае бюро з доследнай вытворчасцю, дзе будуць выпускацца каляскі і іншыя сродкі рэабілітацыі інвалідаў. Хочам стварыць пры БелТІ кааператыў ці цэнтр па стварэнні сем'яў інвалідаў — яны таксама хочуць і павінны быць шчаслівыя ў асабістым жыцці, як і ўсе людзі. Планы вялікія. Але справа пакуль што рухаецца з цяжкасцю.

Начальнік вытворча-масавага аддзела БелТІ Вечаслаў Сяргеевіч Кузін (інвалід Савецкай Арміі 2-й групы, 29 гадоў) лічыць, што ў бліжэйшыя пяць гадоў праблема працаўладкавання інвалідаў у БССР не вырашыцца, пакуль эканоміка не павернецца тварам да іх. У прадпрыемстваў павінны быць эканамічныя стымулы для працаўладкавання інвалідаў. Ён кажа:

— Нашае Таварыства стварылася з-за адчаю! Інваліды аб'ядналіся, каб самім сабе дапамагчы, бо дзяржаве не да нас. Сёння ж камбінаты надомнай працы сваёй функцыі ў адносінах да інвалідаў не выконваюць. Але калі дзяржава дапаможа нам стварыць матэрыяльную базу, мы зможам прасунуцца наперад. Вельмі мала сацыяльных выгод для інваліда, ён апошні ў спісе на сацыяльнае забеспячэнне. У ГДР, напрыклад, наш брат карыстаецца ўсімі выгодамі. А ў нас, прабачце за чорны гумар, інвалід з адной нагою можа купіць... адзін чаравік! Арцелі інвалідаў разагналі, дамоў інвалідаў практычна няма. Мы ўдзячныя часопісу «Крыніца», які стварыў на сваіх старонках рубрыку «Каб не прапасці ў адзіноце...» — нам жа няма дзе публічна абмеркаваць свае праблемы.

Намеснік старшыні БелТІ Мікалай Ігнацьевіч Каўбаска (інвалід 1-й групы, 38 гадоў, эканаміст) быў са мною максімальна шчыры:

— Вы ведаеце, інваліды ўжо ні ў што не вераць. Яны ўсе слёзы выплакалі. Таварыства мала думае пра нас, мы прадастаўлены самі сабе. Грамадскасць уведзена ў зман, лічыць, нібыта інваліды добра забяспечаныя. 90 працэнтаў ільгот прыходзіцца на першыя чатыры катэгорыі: інваліды вайны, воіны-«афганцы», інваліды Савецкай Арміі і працы, а самыя масавыя катэгорыі — інваліды агульнага захворвання і інваліды з дзяцінства — атрымліваюць сімвалічную дапамогу, забяспечаныя вельмі дрэнна! Хіба можна жыць на 30—40 рублёў, калі няма дапамогі ад родных, такой неабходнай інвалідам працы?

У прынцыпе, адукацыю атрымаць можна, але ў рэспубліцы няма ніводнай спецыяльнай навучальнай установы для інвалідаў — ні СПТВ, ні тэхнікума, ні ВНУ.

Сорамна, што ў нас, у рэспубліцы з такой прамысловасцю, не выпускаюць ні інвалідных калясак, ні добрых пратэзаў.

І самая складаная праблема, над якой мы сёння б'ёмся,— гэта праблема працаўладкавання. Вы ведаеце, пра што марыць інвалід? Каб не звярталі ўвагі на ягоную інваліднасць, каб мець тое ж, што і ўсе людзі,— адукацыю, працу, сацыяльныя выгоды... Больш яму нічога не трэба!..

Інвалід — гэта нібыта візітоўка дзяржавы. Па тым, як жыве гэты самы абяздолены член грамадства, можна меркаваць пра эканамічны і маральны ўзровень грамадства. А не па касмічных і іншых цудах тэхнікі...

А ў нас жа на Беларусі інвалідаў (апроч глухіх і сляпых) больш за 300 тысяч, у СССР каля 10 мільёнаў! Гэта людзі, якія цэняць жыццё ў шмат разоў больш, чым здаровыя. І гэтую армію пісьменных, таленавітых, жадаючых працаваць людзей амаль не выкарыстоўваюць — і гэта пры нашым недахопе рабочай сілы! Гэта папрок кожнаму з нас, усяму нашаму грамадству.

## Змітрок ПРЫШЧЭПАЎ



Два здымкі. Першы зроблены да ссылкі, другі — у 1932 годзе. На першым З. Прышчэпаў злева. Параўнайце гэтыя фатаграфіі.

Эмануіл ІОФЕ,
кандыдат гістарычных навук

# «адзіны выхад— кааперацыя»

Паводле маіх падлікаў, гэтага чалавека абвінавачвалі ў адзінаццаці злачынствах. У чым толькі яго не абвінавачвалі! У тым, што ён быў правым апартуністам, што сабатаваў мерапрыемствы партыі па ўзмацненні наступлення на кулака і насаджаў кулацкую агентуру ў сельскагаспадарчых установах. Яго абвінавачвалі ў скрыўленні класавай лініі ў падатковай палітыцы і ў пытаннях крэдытавання, у тармажэнні калгаснага і саўгаснага будаўніцтва. Гэтаму чалавеку паставілі ў віну тое, што разам са сваімі аднадумцамі ён стараўся не толькі захаваць на Беларусі старыя хутары, але ствараў новыя, імкнуўся перасяліць на хутары ўсё сельскае насельніцтва рэспублікі. Гэта былі абвінавачванні 1928—1929 гадоў. Праз два гады яго абвінавачваюць у контррэвалюцыйным беларускім нацыяналдэмакратызме. Нарэшце, у 1939 годзе было прад'яўлена абвінавачванне ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і шпіянажы.

Амаль шэсць дзесяцігоддзяў імя Змітрака Філімонавіча Прышчэпава ўспаміналася толькі ў негатыўным плане. Многія прадстаўнікі старэйшага пакалення яшчэ і цяпер памятаюць гэты злавесны тэрмін — «прышчэпаўшчына». А тым, хто ўступае сёння ў жыццё, гэтае імя нічога не гаворыць. Яно ім папросту невядомае.

...Маленькі Міця з вёскі Калодніца (цяпер Крупскі раён Мінскай вобласці) марыў стаць настаўнікам. Калі ён падрос, экстэрнам здаў экзамен на званне народнага настаўніка і пачаў працаваць у школе. Захапляючую работу з сялянскімі дзецьмі перарваў прызыў на службу ў армію. Вялікія страты рускай арміі ў афіцэрскіх кадрах выклікалі вострую неабходнасць у паскоранай падрыхтоўцы іх папаўнення. Віленскае ваеннае вучылішча называлі ў той час школай прапаршчыкаў. Адным з яго выпускнікоў быў Змітрок Прышчэпаў. Гэта адбылося ў 1916 годзе. Праз год ён ужо камандуе ротай у званні падпаручніка. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі салдаты 698-га палка выбіраюць Змітрака Філімонавіча сваім камандзірам. А яму было толькі дваццаць.

У дваццаць адзін Прышчэпаў стаў камуністам. Партыя паслала яго, сялянскага сына, працаваць кіраўніком зямельнага аддзела ў Сянно, а затым старшынёй Сенненскага павятовага выканкома. У 1919-м ён у Веліжы, які ўваходзіў тады ў склад Віцебскай губерні. Узначальвае рэўком і камісію па барацьбе з бандытызмам. Але Прышчэпаў ірвецца на фронт — змагацца з белапалякамі.

Дырэктывай Галоўкома ад 7 чэрвеня 1919 г. шляхам пераўтварэння Арміі Савецкай Латвіі была створана 15-я армія. У канцы ліпеня Армію ўзначаліў легендарны герой грамадзянскай вайны, відны савецкі военачальнік Аўгуст Іванавіч Корк. А лектарам у адным з палкоў гэтай арміі быў Змітрок Прышчэпаў. Палымяным бальшавіцкім словам 22-гадовы палітработнік натхняў чырвонаармейцаў на барацьбу з белапалякамі.

...Пачатак дваццатых гадоў. Партыя накіроўвае Змітрака Філімонавіча старшынёй рэўкома ў Веліж, старшынёй павятовага выканкома ў Оршу, загадчыкам губернскага зямельнага аддзела ў Віцебск.

Нямала сельскагаспадарчых камун, арцеляў і розных кааператываў у той час было створана па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле Прышчэпава. Толькі ў 1922 і першай палове 1923 года ў Віцебскай губерні было арганізавана 36 камун, 68 сельскагаспадарчых, 14 масларобных арцеляў, 19 крэдытных таварыстваў, 189 таварыстваў па забяспячэнні машынамі. На з'ездзе зямельных работнікаў Віцебскай губерні, які адбыўся ў снежні 1923 года, настойліва падкрэслівалася, што кааперыраванне сялянскіх гаспадарак павінна быць асноўнай задачай кожнага работніка зямельных органаў.

Ініцыятыва і рэвалюцыйны энтузіязм Змітрака Філімонавіча стварылі яму вялікі аўтарытэт сярод камуністаў і працоўных Віцебскай губерні. Калі Віцебшчына зноў была далучана да БССР, яго як вопытнага работніка ў сакавіку 1924 года назначылі намеснікам наркома земляробства Беларусі. Дзевяць месяцаў працы Прышчэпава на пасадзе намнаркома паказалі, што кіраўнікі рэспублікі не памыліліся з яго прызначэннем. 12 снежня 1924 года З. Прышчэпаў становіцца народным камісарам земляробства Беларускай ССР. Новаму наркому было толькі 28.

Змітрок Філімонавіч не мог уседзець у кабінеце, не мог кіраваць з яго. Не было колькі-небудзь значнага населенага пункта на Беларусі, дзе б ён не пабываў. У сваіх выступленнях перад работнікамі зямельных аддзелаў і мясцовым актывам Прышчэпаў падкрэсліваў, што распрацаваны Леніным кааператыўны план прадстаўляе сабой шырокі комплекс мер па развіцці цэлага спектра форм кааперацыі. Гэта і збытавыя, і забеспячэнскія, і крэдытныя, і вытворчыя сельскагаспадарчыя аб'яднанні.

Велізарная работа Наркамата земляробства БССР і непасрэдна самога Змітрака Філімонавіча па развіцці кааперацыі ў рэспубліцы прынесла свае вынікі. У 1925 годзе сяляне купілі сельгасмашын і мінеральных угнаенняў амаль у 10 разоў больш, чым у 1922-м. Павялічыліся закупкі мануфактуры, цукру, мыла, газы. Больш селянін стаў спажываць мяса, сала, мукі, круп. Вёска станавілася заможнаю, культурнаю.

Аднак з 1928 года далейшае развіццё кааперацыі было перарвана, ленінскія ідэі аб кааперацыі былі скажоны і, па сутнасці, адкінуты. Сталін навязаў партыі і народу валюнтарысцкія, глыбока памылковыя ідэі гвалтоўнага, фарсіраванага абагульнення сельскагаспадарчай вытворчасці. Пачатак іх увасабленню быў пакладзены ў 1927 годзе, калі ў краіне ў выніку неразумнай эканамічнай палітыкі склаўся хлебны крызіс. Былі прыняты надзвычайныя меры. І гэтае надзвычайнае становішча не адмянялася практычна да самай вайны.

Першы ўдар быў нанесены па гандлі. Сялянам Беларусі забараняўся вываз хлеба на рынак. У тых, хто не выконваў гэтых указанняў, хлеб канфіскаваўся. Толькі ў студзені — лютым 1928 года было забрана каля 70 тысяч пудоў хлеба. У 1927 годзе сяляне Беларусі, аднесеныя да кулакоў, плацілі падаткаў на 50 працэнтаў больш, чым у 1926 годзе.

М. Бухарын, А. Рыкаў і М. Томскі выступілі супраць валюнтарысцкіх, сілавых метадаў у эканоміцы. Тады Сталін заклаўміў іх як правых ухілістаў. У Беларусі ў праваўхілісцкіх тэндэнцыях былі абвінавачаны народны камісар земляробства З. Прышчэпаў, яго намеснік Я. Лабаноўскі, адказны работнік Наркамата земляробства С. Ждановіч, прафесар Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі І. Кіслякоў, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя І. У. Леніна, акадэмік Беларускай Акадэміі навук Г. Гарэцкі, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта акадэмік А. Смоліч, іншыя адказныя работнікі Наркамзема і буйныя вучоныя. Праз сорак пяць гадоў БелСЭ пісала: «На Беларусі найбольш яркай праявай правага ўхілу ў тэорыі і практыцы была так званая прышчэпаўшчына. Група кіруючых работнікаў у зямельных і фінансавых органах (Прышчэпаў, Лабаноўскі і інш.) зрывала наступленне на кулака, надзяляла кулацкія гаспадаркі вялікімі зямельнымі ўчасткамі, давала ім пад выглядам культурна-паказальных гаспадарак ільготы па сельскагаспадарчых падатках, узмоцнена рассяляла сялян на хутары»[1].

У чым жа была сутнасць так званай «прышчэпаўшчыны»? Галоўнае абвінавачанне, якое прад'яўлялася З. Прышчэпаву і яго прыхільнікам, складалася ў тым, што яны, маўляў, насаджалі хутары ў Беларусі.

Хутары не былі чымсьці новым у землеўпарадкаванні беларускай вёскі. Яшчэ ў адпаведнасці са сталыпінскай аграрнай рэформай тут было створана 55—60 тысяч хутароў. Красавіцкі (1925 г.) Пленум ЦК ВКП(б) патрабаваў не ставіць адміністрацыйных перашкод для выдзялення сялян на адрубы і хутары, строга захоўваючы права свабоды выбару формаў землекарыстання паводле Зямельнага кодэкса. З улікам гэтай пастановы Наркамзем БССР на чале з Прышчэпавым распрацаваў «Перспектыўны план развіцця сельскай і лясной гаспадаркі БССР на 1925/26—1929/30 гг.», у якім прадугледжвалася далейшае стварэнне хутароў і дробных пасёлкаў тыпу адрубаў. У 1925 годзе прадстаўлены Наркаматам земляробства рэспублікі план быў прыняты Цэнтральным Камітэтам Кампартыі Беларусі і Саўнаркомам БССР. У снежні таго ж года яго адобрыў IX з'езд КП(б)Б. Такім чынам, Прышчэпаў і апарат Наркамзема рэспублікі з'яўляліся выканаўцамі дырэктыўных установак партыі.

У адпаведнасці з намечаным планам за перыяд з 1924 па 1929 год у Беларусі было перасялена на хутары і ў дробныя пасёлкі 129 692 сялянскіх гаспадаркі. Аб тым, што гэта была не асабістая ініцыятыва Прышчэпава, сведчыць той факт, што на патрэбы хутарызацыі было выдзелена і зрасходавана 4,8 мільёна рублёў, а таксама адпушчана каля 6 мільёнаў рублёў крэдыту.

Змітрок Філімонавіч ставіўся да хутарызацыі як да вымушанай неабходнасці. Так, у рабоце «Сельская гаспадарка і сялянка» Прышчэпаў адзначаў: «...Такім чынам, хутар з боку палітычнага і гаспадарчага з'яўляецца той формай землякарыстаньня, на якую апіралася царская ўлада ў змаганьні з рабочымі і сялянамі. Пры хутарскай сістэме сяляне не аб'яднаюцца ў гаспадарчым і культурным развіцьці, а наадварот. Апрача таго, пры нашым малазямельлі і частых зямельных разьдзелах адводзіць маленькія хутары нявыгадна і з боку гаспадарчага. З гэтае прычыны мы, пры сучасных задачах нашага сельскагаспадарчага будаўніцтва, дазваляем хутарскую сістэму толькі там, дзе па прыродных умовах нельга арганізаваць другой формы (напрыклад, на ўчастку, які акружаны балотам, пры вельмі стракатым выглядзе ўжыткаў, у бугрыстай мясцовасьці)...» Заўважым, што ў выніку калектывізацыі і ссялення хутароў мноства зямельных участкаў выпала са звароту, зарасло лесам. І не толькі на Бела-

русі. Але вось наступілі новыя часы, і ў Эстоніі, напрыклад, запушчаныя землі зноў становяцца ворнымі, аднаўляецца хутарская гаспадарка. Думаецца, што і на Беларусі ёй не трэба чыніць перашкод.

Доўгія гады Прышчэпава крытыкавалі за выказаную ў 1925 годзе думку пра тое, што «калектыўная форма землекарыстання (арцелі, камуны) вельмі слаба прывіваецца сярод сялян Беларусі». Сёння нават школьнікам ясна, што скачок у камуны не толькі не атрымаўся, але і ў многім скампраметаваў сябе. Камуны не толькі не сталі вытворцамі тавараў, але не змаглі пракарміць сябе, за што і былі падвергнуты суровай крытыцы з боку Уладзіміра Ільіча.

Прышчэпаву ставіцца ў віну ўстанаўленне ў 20-х гадах у Беларусі мінімальных і максімальных форм землекарыстання. Гэтае абвінавачанне таксама пазбаўлена ўсякай падставы, таму што гэтыя формы былі вызначаны ў 1925 годзе новым Зямельным кодэксам БССР. Таму іх нельга лічыць вынаходніцтвам Наркамата земляробства рэспублікі і самога наркома.

Змітрок Філімонавіч ніколі не быў супраць калектывізацыі. Ён быў актыўны праціўнік гвалтоўных метадаў калектывізацыі, метадаў, якія пярэчылі ленінскаму прынцыпу добраахвотнасці ўступлення ў калгасы. Свае погляды ён не баяўся выказаць ні першаму сакратару ЦК Кампартыі Беларусі, ні Старшыні СНК БССР, якія імкнуліся выканаць рэкамендацыі Сталіна аб бурных тэмпах калектывізацыі. Кіраўнікі рэспублікі ясна бачылі, што нарком земляробства Прышчэпаў не зможа паспяхова выканаць гэтую задачу. Яго вырашылі не толькі замяніць новым, іншым чалавекам, але і зрабіць «казлом адпушчэння» за наяўныя недахопы ў кіраўніцтве развіццём сельскай гаспадаркі.

23 сакавіка 1929 г. З. Прышчэпаў прызначаецца першым намеснікам Старшыні Дзяржаўнай Планавай Камісіі пры СНК БССР, а 6 красавіка таго ж года ён вызваляецца ад абавязкаў народнага камісара земляробства. Яго, а таксама 29 іншых «правых апартуністаў» выключылі з партыі. 14 верасня 1929 года Змітрок Філімонавіч быў вызвалены ад абавязкаў першага намесніка Старшыні Дзяржплана БССР без прадастаўлення іншай работы. Праз некаторы час з вялікімі цяжкасцямі Прышчэпаў уладкоўваецца працаваць за межамі сталіцы рэспублікі — загадчыкам Палескай доследнай станцыі.

Атака на Прышчэпава працягвалася. Яму прыпісвалі варожыя дзеянні супраць саўгасаў. Так, выступаючы са справаздачным дакладам на XIII з'ездзе Кампартыі Беларусі ў чэрвені 1930 года, першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей сказаў: «Прышчэпаў праводзіў у адносінах саўгасаў недапушчальную палітыку абрэзкаў, ігнараваньня. І калі саўгасы знаходзяцца ў вельмі дрэнным ахапе, дык мы маем права бачыць у гэтым адну са спадчын прышчэпаўшчыны, вынік ігнараваньня сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі»[2]. І гэта няпраўда. У асабістай гаспадарцы, у кааператыве сяляне працавалі на сябе, былі гаспадарамі, а ў саўгасах — падзёншчыкамі. Адсутнічалі матэрыяльныя стымулы, зацікаўленасць, бо дзяржава ўвяла ў саўгасах (а потым і ў калгасах), па сутнасці, новую развёрстку.

Змітрака Філімонавіча арыштавалі ў 1930 годзе. Ёсць падставы меркаваць, што да арышту Прышчэпава меў дачыненне першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей, які прыклаў сваю руку да развязвання беззаконня ў рэспубліцы.

Вось што піша аўтару гэтых радкоў дачка наркома Ала Змітраўна Гарнакова (Прышчэпава), якая жыве цяпер у г. Хабараўску: «Было мне ўсяго 10 год, а брату 7 год, калі арыштоўвалі нашага бацьку. Было гэта ў мястэчку Скрыгалава Мазырскага раёна. Я добра памятаю той дзень, была, напэўна, восень, бо ліў моцны дождж. Гэта быў амаль апошні дзень, калі я яго бачыла. Быў яшчэ адзін дзень, калі бацьку і іншых зняволеных вялі пад канвоем праз увесь Менск на вакзал. А мы стаялі побач з вакзалам з мамай. Бацька памахаў нам рукой. Ён ішоў у першым радзе. Я кінулася да яго цераз плошчу, але канваір ускінуў вінтоўку і закрычаў «Страляю!» Маці мяне падхапіла і прытуліла да сябе. А бацька яшчэ раз памахаў нам рукой, і павялі іх да вагона з кратамі на вокнах. Усё гэта я вельмі добра памятаю. Брата Нэліка з намі не было, ён быў у бабулі ў г. Сянно. А потым нічога добрага ў жыцці не было — шмат зняваг і прыніжэнняў...»

З. Прышчэпаў, былы нарком асветы Беларусі А. Баліцкі, былы намеснік наркома земляробства БССР А. Адамовіч, былы намеснік старшыні «Белпайгандлю» П. Ільючонак былі арыштаваны ў лютым — верасні 1930 года паўнамоцным прадстаўніцтвам АДПУ па Беларусі. Усе яны праходзілі па справе, па якой было прыцягнута да крымінальнай адказнасці больш як 80 чалавек, галоўным чынам работнікаў навукі, культуры, мастацтва і кіруючых кадраў шэрагу наркаматаў Беларусі. Абвінавачваліся яны ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў. У снежні 1930 года з невядомых прычын матэрыялы ў адносінах З. Прышчэпава, А. Баліцкага, А. Адамовіча, П. Ільючонка былі выдзелены ў асобную следчую справу. У гэты час у сваім артыкуле ў часопісе «Полымя» загадчык аддзела ЦК КП(б)Б А. Сянкевіч, характарызуючы праграму і дзейнасць контррэвалюцыйнай групы беларускіх нацыянал-дэмакратаў, пісаў: «Выкрытая органамі ДПУ контррэвалюцыйная група на чале з былымі міністрамі і дзеячамі Беларускай Рады — Ластоўскім, Цьвікевічам, Лёсікам, Некрашэвічам[3] і іншымі, акапаўшыся ў Беларускай Акадэміі навук, прасунула адтуль свае шчупальцы на рад участкаў эканамічнага і культурнага фронту, Наркамзем, Наркамасьветы, Белдзяржвыдавецтва і інш... Як-жа яны ажыцьцяўлялі сваю тактыку? Праз сваіх людзей у органах Наркамзему (Прышчэпаў, Смоліч[1] і інш.) праводзілася работа па ўзмацненьню капіталістычных элемэнтаў вёскі, па ўзмацненьню кулака. Адгэтуль палітыка хутарызацыі Беларусі, адгэтуль стаўка на так званыя «культурныя», а ў сапраўднасьці кулацкія гаспадаркі...»[2].

Каля года З. Прышчэпаў, А. Баліцкі, А. Адамовіч, П. Ільючонак знаходзіліся ў зняволенні без прад'яўлення абвінавачання. Пастановай калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 г. іх прызналі вінаватымі ў тым, што яны на працягу шэрагу год належалі да контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якая называлася «Саюзам адраджэння Беларусі» (САБ), а потым была перайменавана ў «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ). Гэтая арганізацыя ставіла сваёй канчатковаю мэтай звяржэнне Савецкай улады шляхам узброенага паўстання і інтэрвенцыі і ўстанаўленне буржуазнай Беларускай Рэспублікі. Прышчэпаў і яго саўдзельнікі дапамагалі кіраўніцтву гэтай арганізацыі збіраць і канцэнтраваць контррэвалюцыйныя нацыянальна-дэмакратычныя сілы ў кіруемых ім установах. Яны праводзілі нацыянальна-дэмакратычныя ідэі ў навучальных установах, літаратуры і друку, адрывалі навуковыя ўстановы Беларусі ад усесаюзных навуковых цэнтраў, распаўсюджвалі контррэвалюцыйныя літаратурныя творы, напісаныя нацыянальна-дэмакратычнымі паэтамі і пісьменнікамі па заказу цэнтра «Саюза вызвалення Беларусі».

На падставе артыкулаў $58^4$ і $58^5$ КК РСФСР усе абвінавачаныя былі кінуты ў канцлагер на 10 год кожны.

Аналіз матэрыялаў справы і дадатковая праверка сведчаць аб тым, што факт існавання на Беларусі арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» не даказаны. Таму 14 чэрвеня 1988 г. Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР вызначала: «Пастанову калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 г. у адносінах Прышчэпава З. Ф., Баліцкага А. В., Адамовіча А. Ф. і Ільючонка П. В. адмяніць і справу вытворчасцю спыніць за адсутнасцю ў іх дзеяннях саставу злачынства».

Прышчэпаў быў паўторна асуджаны ў 1939 годзе за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і шпіянаж да 1931 года. Па гэтай справе ён быў рэабілітаваны ў другой палове 50-х гадоў.

Справядлівасць перамагла. Але не цалкам. Яна перамагла ў тым сэнсе, што са Змітрака Філімонавіча праз 57 год зняты неабгрунтаваныя абвінавачанні. Але не перамагла ў тым сэнсе, што з Прышчэпава пакуль яшчэ афіцыйна не зняты розныя ярлыкі, якія на яго начапілі ў 20—30-я гады. Тут сваё слова павінны сказаць гісторыкі.

У чытача ўзнікае пытанне: які ж ён быў, Змітрок Філімонавіч Прышчэпаў?

Акадэмік АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч навукі БССР Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, брат рэпрэсіраванага класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага і сам рэпрэсіраваны[6], у 1927—1930 гадах быў дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР. У размове з аўтарам гэтых радкоў ён успамінаў: «Я добра ведаў і неаднаразова сустракаўся з наркомам земляробства рэспублікі, а затым першым намеснікам Старшыні Дзяржплана Беларусі Змітраком Філімонавічам Прышчэпавым. Гэта быў эрудыраваны, вельмі кампетэнтны дзяржаўны дзеяч. Па шэрагу пытанняў ён вельмі часта раіўся са мной і вучонымі нашага інстытута, умеў не толькі выслухаць, але і ўлічыць чужую думку. Наколькі я ведаю, ён ніколі не павышаў голасу на сваіх падначаленых, іншых работнікаў. Гэта быў малады, энергічны, заўсёды поўны розных ідэй нарком. Ён добра ведаў беларускую мову, шмат прыказак і прымавак, часта выступаў перад сялянамі па-беларуску. Па натуры Прышчэпаў быў просты, даступны, сціплы, мала звяртаў увагу на сваё адзенне. Памятаю, яму трэба было ехаць у Данію, а ў яго не было прыстойнага касцюма. І тады па распараджэнні кіраўнікоў рэспублікі за кошт Саўнаркома Змітраку Філімонавічу тэрмінова пашылі такі касцюм».

Усе свае веды, кіпучы энтузіязм і рэвалюцыйную энергію аддаваў Змітрок Філімонавіч справе развіцця сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі, павышэнню дабрабыту сялянства, ключавым праблемам сацыялістычнага будаўніцтва ў рэспубліцы. З імем Прышчэпава звязаны скліканне І Усебеларускага з'езда сялянак-актывістак у снежні 1924 г., Усебеларускага з'езда работнікаў сельскай гаспадаркі ў студзені 1925 г., І Усебеларускага з'езда работнікаў даследчых сельскагаспадарчых устаноў у красавіку 1925 г., адкрыццё ў Мінску ў студзені 1927 г. Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна, а ў маі 1927 г.— першага ў СССР Сялянскага універсітэта з 2-гадовым тэрмінам навучання пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Па ініцыятыве Змітрака Філімонавіча ў Мінску з 1925 г. пачаў выдавацца часопіс «Плуг» — орган Наркамата земляробства БССР, а з 1927 г.— часопіс «Сельская і лясная гаспадарка» (выданне Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскае і лясное гаспадаркі імя У. І. Леніна і Народнага камісарыята земляробства рэспублікі). Адказным рэдактарам першага з гэтых часопісаў стаў сам Прышчэпаў.

Папулярызуючы ленінскія ідэі, З. Прышчэпаў у брашуры «Сялянка ў сельскай гаспадарцы» пісаў: «...Адным словам, кааперацыя адкрывае шырокія і неабдымныя магчымасьці ў будаўніцтве вёскі, і толькі пры дапамозе яе можна аднавіць гаспадарку, развіваць культурнасьць вёскі... Адзіны выхад, каб справіцца з беднасьцю вёскі, з'яўляецца каапэрацыя».

---

[1] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1975, т. 8, с. 529.

[2] У кн.: XIII зьезд КП(б)Б. Стэнаграфічная справаздача. Мн., 1931, с. 204.

[3] Акадэмікі Беларускай Акадэміі навук Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Сцяпан Некрашэвіч і гісторык Аляксандр Цвікевіч рэабілітаваныя ў 1988 годзе.

[4] Акадэмік Беларускай Акадэміі навук Аркадзь Смоліч рэабілітаваны ў 1988 годзе.

[5] Сянкевіч А. За ленінскую лінію ў нацпалітыцы.— «Полымя», 1930, № 11—12, с. 170, 172.

[6] Г. Гарэцкі памёр у 1988 годзе.

## музычны тэлетайп.

Пайшла пагалоска, што Мортан пасля вяселля збіраецца развітацца з «А-ха». Музыкант заявіў, што ў яго і ў думках такога не было. Цяпер трыо заканчвае працу над новым двайным альбомам — «Пачатак, сярэдзіна і канец». Пасля заканчэння працы ў групы пачынаюцца гастролі ў Паўднёвай Амерыцы.

Новым гітарыстам групы «Мегадэт» стаў Лі Алтус, былы ўдзельнік «Хітэн».

Уда Дзіркшнайдэр у якасці госця прыняў удзел у запісе новага альбома «Эксэпт». У сувязі з гэтым сталі гаварыць, што Уда вяртаецца ў групу. На што прэс-агент групы аб'явіў, што ў канцэртнае турнэ група накіроўваецца ў звычайным на сённяшні дзень складзе — без Уда.

Стыў Стывенс, гітарыст групы Білі Айдала, арганізаваў уласную групу «Атамік Плэйбойз». Склад: Параморэ Макарці (вакал), Філ Эшлі (клавішныя), Томі Прайс (ударныя).

Пасля доўгага перапынку, выкліканага хваробаю галасавых звязак, зноў дае канцэрты Элтан Джон. Вялікае міжнароднае турнэ ён пачынае двума канцэртамі ў ФРГ.

Дэвід Боўі вырашыў арганізаваць групу акампанементу — «Тын мэшын». Дагэтуль пастаянная група акампанавала Боўі толькі на пачатку 70-х гадоў — «Зэ Спайдэр фром Марс».

Малькальм Янг, які быў вымушаны пакінуць з-за алкагалізму «Ай-Сі-Дзі-Сі», вылечыўся і аб'явіў аб сваім вяртанні ў гурт.

Джоан Джэт запрасілі выканаць амерыканскі гімн пры адкрыцці бейсбольнага матча паміж дзвюма найпапулярнейшымі камандамі. З заданнем спявачка справілася бліскуча.

Ёрг Фішэр, гітарыст групы «Эксэпт», арганізаваў уласны гурт — «Роял Флэш».

У гарадку Бэл Эар у Каліфорніі прайшла сціплая цырымонія — уступілі у шлюб саліст «Уайтснэйк» Дэвід Ковэрдэйл і актрыса Таўні Кітаэн.

Піяніст Джонатан Кэйн і гітарыст Нэйл Шон, абодва з групы «Джорнэй», стварылі групу «Бэд Інгліш» і запрасілі супрацоўнічаць Джона Уайта, вядомага па рабоце з групаю «Зэ Бэвіз».

Тэйлар Хэкфард, аўтар папулярнага фільма «Ла Бамба» пра жыццё мексіканскага спевака Рытчы Валенса, збіраецца экранізаваць аўтабіяграфію Рэя Чарлза.

Пасля некалькіх гадоў маўчання вяртаюцца на сцэну музыканты групы «Ес». Назва будзе іншая: «Андэрсан, Брэфард, Уэйкман, Хоў». Гэтаксама ж будзе называцца і пласцінка. Адначасна ў Лондане адбудзецца серыя канцэртаў, у якіх возьме ўдзел і бас-гітарыст Тоні Левін. Напэўна, ён зойме ў групе месца Крыса Скуае.

Вялікі камерцыйны поспех альбома «Тым» Кінга Дайманда пераканаў музыканта ў тым, што трэба хутчэй рабіць наступны. І вось ужо ён гатовы: называецца «Кэнспірэсі».

Другі сольны альбом вакаліста групы «Форынер» Лу Грэма павінен быў выйсці яшчэ на пачатку года, але каторы ўжо раз выхад пласцінкі затрымліваецца. Незадаволены якасцю запісу, Грэм вырашыў перапісаць увесь альбом нанова.

«Шкада, што «Ролінг Стоўнз» распаліся так ціха, без усякіх скандалаў і сенсацый»,— так пракаменціраваў Біл Уаймэн увесну 1987 года спрэчку паміж Кэйтам Рычардсам і Мікам Джагерам, якая перамяніла лёс супергрупы. Аднак гісторыя «Камянёў» працягваецца. Сёлета ў студзені ўсе члены групы, апроч Уаймэна, сустрэліся ў Нью-Йорку з нагоды штогодняе сустрэчы членаў «Рок-н-рольнага Салона Славы». За вячэраю было вырашана, што ўлетку пачнецца запіс чарговае пласцінкі, а ў верасні «Ролінг Стоўнз» адправяцца ў турнэ па ЗША, дзе яны не выступалі ўжо 8 гадоў. Прыхільнікі непакояцца, аднак, ці будзе ўдзельнічаць у запісе і канцэртах Біл Уаймэн. Шматлікія амерыканскія музычныя часопісы сцвярджаюць, што Уаймэн, які нядаўна стаў мужам маладзенькай спявачкі Мэндзі Сміт, не збіраецца сустракацца з калегамі. Сцвярджаецца таксама, што бас-гітару узяў у рукі Рон Вуд, а ў якасці гітарыста выступіць Мік Тэйлар, які раней ужо супрацоўнічаў са «Стоўнзамі».

Падрыхтаваў
Ю. БУДЗЬКО



# CINEMA

Няшчасце зоркі — шчасце кінаманаў. Амар Шарыф меў толькі дзве слабасці — жанчын і карты. «Засталіся толькі карты»,— паскардзіўся журналістам сам Амар Шарыф, знакамітая кіназорка Галівуда. І сапраўды, 57-гадоваму акцёру ўсё цяжэй даецца роля Дон Жуана. А што датычыцца другой слабасці, дык, дзякуючы нешчасліваму лёсу, мы ізноў убачым Амара на кінаэкранах. Справа ў тым, што, як гаворыць сам Шарыф, ён чалавек гультаяваты і здымаецца толькі тады, калі яго вымушаюць абставіны. А калі люкс-жыццё кіназоркі не канфліктуе з банкаўскім рахункам, кінапрадзюсеры амаль не маюць шанцаў на кантракт з Шарыфам. Але ў гэтым годзе менеджэр Шарыфа атрымаў тэлеграму: «Прайграўся да апошняе ніткі. Знайдзі мне кінакантракт». Гэта былі карты. За тры гады брыджу Амар Шарыф выклаў на зялёны столік чатыры мільёны долараў і страціў усё, што меў. У выніку зорка ізноў рыхтуецца з'явіцца перад кінакамерай.

Сафі Ларэн блага валодала англійскай моваю, і калі праз перакладчыка 35-ты прэзідэнт ЗША Джон Фіцджэральд Кенэдзі прапанаваў зорцы сусветнага кіно руку і сэрца, Сафі выскачыла з лімузіна, у якім яны разам ехалі, разбіла калена... Ахоўніку прэзідэнта давялося атрымаць... вымову за пагрозу здароўю прэзідэнта.

А самай вядомай каханкай Джона Кенэдзі была Мэрылін Манро. Раман актрысы і прэзідэнта не разарваў шлюбу Кенэдзі з Жаклін Радзівіл. Дарэчы, Жаклін пагадзілася развесціся з Джонам, але пры адной умове: калі Мэрылін зойме яе месца і стане першай дамай Амерыкі.

Эратычны сімвал кінабізнесу — Арнела Муці — ператварылася ў сімвал мацярынства. На першы план у кіназоркі выйшлі дом, дзеці і муж. У сям'і Арнелы трое дзяцей і муж Федэрыка Фачынэці, знакаміты прадзюсер і рэжысёр. Зараз Арнела збіраецца нарадзіць чацвёртае дзіця. Кіназорка сказала: «Я хачу мець яшчэ пару сыноў».

«Камісар Катаны ў шлюбных кайданах»,— такая навіна дайшла да нас з Лос-Анжэлеса, дзе знакаміты Мікеле Плачыда ажаніўся з Сімонай Стэфанэлі (шыкоўная 34-гадовая брунетка). Між іншым, на міжнародным Лос-анжэлескім кінафестывалі Мікеле атрымаў адну з галоўных узнагарод за свой новы фільм.

Пасля перамогі над мафіяй у серыялах «Спрут», Мікеле Плачыда вырашыў пазмагацца за месца ў Еўрапейскім Парламенце. Але тут яго не выратавалі ні папулярнасць, ні знешнасць. Мікеле прайграў на выбарах і не надта перажываў, а заўважыў: «У мяне такая колькасць кінакантрактаў, што не ведаю, дзе я знайшоў бы столькі часу на грамадскую дзейнасць».

Вядомая італьянская папзорка Сабрына дэбютавала ў першым фільме Міло Манара, аўтара эратычных коміксаў. Сцэнарый фільма быў напісаны на матэрыялах гісторыі ў малюнках «Нябачныя пахі». Фантастычныя прыгоды настаўніка фізікі, які зрабіўся нябачным і закахаўся ў прыгожую бландзінку.

Брыджыт Бардо, першая сексзорка, ужо колькі гадоў актыўна выступае за ахову прыроды. Кожны тыдзень французкае тэлебачанне паказвае праграмы Брыджыт, прысвечаныя тэме экалогіі.

Кінематаграфісты Францыі і Канады паставілі фільм «Каханка», прысвечаны інтымнаму жыццю пісьменніка-сюррэаліста Франца Кафкі. Кінааповесць рэжысёра Веры Белмант паказвае складаныя ўзаемаадносіны пісьменніка з журналісткай Міленай Ясеньскай, чыё жыццё трагічна абрываецца ў канцэнтрацыйным лагеры «Равенсбрук».

Унучка Эрнеста Хэмінгуэя, знакамітая манекеншчыца і артыстка Марго Хэмінгуэй, здымаецца ў новым фільме французскага рэжысёра Жана-Луі Жылермо. «Збіраюся застацца жыць у Парыжы, працаваць у тэатры, дэманстраваць спартыўнае адзенне і ў будучым мець шмат дзяцей»,— гаворыць Марго.

Аматары кінаплётак з цікаўнасцю чакаюць вынікаў чарговай судовай справы. Услед за разводамі Джэйн Фонды і Томі Хайдэна, Сцівена Спілберга і Эмі Ірвінг, лос-анжэлескі суд зоймецца разводам Клінта Эствуда з Сандрай Лок. Справа ўскладняецца тым, што Сандра патрабуе падзяліць маёмасць і грошы кіназоркі: пяць дамоў і 140 мільёнаў долараў.

Славуты польскі кінарэжысёр Анджэй Вайда працуе над новай мастацка-публіцыстычнай стужкай, прысвечанай трагічным падзеям, якія адбыліся ў мястэчку Катынь на Смаленшчыне ў 1941 годзе.

**Падрыхтавала Н. ВАЎЧОК**



## УВАГА! УВАГА! УВАГА!

## хіт-парад «Крыніцы-89»

У кожным нумары часопіса, на цэнтральным развароце, змяшчаецца плакат.

Каго змяшчаць на плакатах! У 1989 годзе нам дапамаглі вынікі мінулагодняга хіт-парада «Крыніцы». Таму адкрываем хіт-парад «Крыніцы-89».

А цяпер умовы, якія дазволяць пачуць твой голас, дарагі чытач:

1. У адным лісце можна назваць трох кандыдатаў, якія прымуць удзел у конкурсе:

Самыя лепшыя, на тваю думку...

а) савецкі выканаўца;

б) беларускі выканаўца;

в) замежны выканаўца.

2. Назву любімага гурта, прозвішча любімага саліста пішы акуратна і дакладна.

Вынікі хіт-парада мы абавязкова надрукуем. Пераможцы будуць на плакатах «Крыніцы».

адкрыты ўрок

# патрабуецца... будучыня

з нататак самадзейнага педагога

Чаму мне цяжка глядзець на дзіцячыя малюнкі?

Бо страшна падумаць, што пройдзе год, тры, пяць, і дзеці вырастуць, і стануць як мы, і будуць маніць, спрытнічаць, стануць двудушнымі, авалодаюць майстэрствам абыякавасці, пустаслоўя, неабавязковасці, так і не будуць ведаць сваёй гісторыі, песні, слова, стануць надаваць ненармальна вялікае значэнне занесеным невядома адкуль анучам, гукам і розным штучкам... І ўсё. Чарговае пакаленне канкрэтных па дакументах, самавітых па ашчаднай кніжцы людзей, але «ўсяго толькі» без роду і племені, без душы, без праўды і свайго голасу стане начальнікамі і загадчыкамі, першымі і старшымі, забудзе пра дзіцячыя «свавольствы» і... пачнецца чарговы круг.

Потым мы зноў даведаемся, што «ўсё лепшае — дзецям». Чыноўнік жадае тварыць Дабро. Нявыхаваны выхавацель жадае ўдзельнічаць у вялікай Справе... І ўдвая больш страшна, калі несумленны і карыслівы чалавек спрабуе зрабіць гэта. Ягоны энтузіязм — фальш і шум. Добра, калі ён сам зразумее ўсё гэта і ціха пойдзе, растворыцца. Ну, а калі адчуе падтрымку!? Тады — сцеражыся, Дабро, ён табе адпомсціць сваёй фанабэрыстасцю і непісьменнасцю.

Дык каму ж гэта трэба, каб дзеці нашы былі касмапалітамі, каб прывучаліся не шанаваць святасці паняццяў самабытнасці і непаўторнасці, каб забываліся на нашы помнікі і іншыя творы розуму чалавечага, каб былі малаадукаванымі, пошлымі, прымітыўнымі?

Як цяжка чалавеку, што не прайшоў у дзяцінстве граматыку, чытаць і пісаць, гэтаксама ж цяжка чалавеку, што не прайшоў граматыку фантазіі, цяжка ўспрымаць у далейшым любы эстэтычны пачатак, пісаў Джані Радары. Як зрабіць пакаленне, што ідзе за намі, не інертным і індыферэнтным, а творчым і актыўным, з добрымі і разумнымі сэрцамі і душамі?.. Гэта пытанне да ўсіх нас.

Мастак заўсёды антычыноўнік.

Ён ніколі не прыстасоўваецца да свету, ён свет прыстасоўвае да сябе, да свайго мастацка-маральнага ідэалу, да таго, што ён сабою ўяўляе, заўсёды ставячы вышэй за ўсё Дабро. Ідэя вечнага рухавіка, выведзеная А. Разанавым,— гэта Слова, якое становіцца Справаю. Сёння або ніколі наш вечны рухавік павінен спрацаваць татальна і на поўную сілу. Тут неабходныя канкрэтныя, неадкладныя справы. Слоў хапае.

Сёння мы прызнаём, канстатуем, што пакаленні тры, а то і чатыры, з розных прычын і акалічнасцей, засталіся адрынутыя ад элементарных «азоў» велізарнага шматфарбнага свету Цудоўнага. Гэта і бяда, і віна мільёнаў людзей...

Дык давайце не сароміцца наведваць лікбез — вы будзеце ўражаныя гэтым светам, як уражваюцца ім, адкрываючы кожнага разу новае, дзеці. Адыдзем ад формулы, што дзіця — разведчык прыроды, а дарослы толькі слуга свайго вопыту. Ніхто не ведае сваіх магчымасцей... Тады і тых людзей-фанатыкаў, якія «хвараюць» і валодаюць майстэрствам прыдумванняў і адкрыццяў, не будзем заціскаць. Будзем не адмахвацца ад іх, як ад тыпаў, нязвыклых у «дарослым асяроддзі», а як толькі можна падтрымліваць і берагчы — як сваё нацыянальнае багацце.

Нашыя ж абыякавасць і пустаслоўе могуць усё загубіць.

Рэспубліка дакацілася да парадаксальнае сітуацыі: мы так мала ведаем сябе, пра сябе, пра сваю мінуўшчыну, што і ў будучыню, можа так здарыцца, нам не будзе з чым ісці.

Цікавае слова — прыцярпеласць.

Да якой пары мы будзем выхваляцца сваёй неадукаванасцю і прывучаць дзяцей сваіх да псеўдапрэстыжных каштоўнасцей, купецкіх замашак, проста да элементарных праяў злога пачатку?

Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання — гэта эксперыментальная лабараторыя нашых агульных пошукаў у вывучэнні беларускае культуры, у яе захаванні, у традыцыйнай пераемнасці, гэта навукова-метадычны цэнтр уплыву на эстэтызацыю ўсяго дзіцячага і юнацкага насельніцтва рэспублікі. І галоўнае,— гэта сама падача нашага заўсёды сённяшняга багацця — дзіцячае творчасці. Музей дзіцячае творчасці, музей гісторыі мастацтваў, музей народнае творчасці, дзіцячая філармонія, дзіцячае кінааб'яднанне, дзіцячы тэатральны блок, дзіцячае тэлебачанне, дзіцяча-юнацкае літаратурнае і гістарычнае аб'яднанне, фізкультурна-масавы комплекс. Плошчы для масавых святаў, фестываляў мастацтваў, спартыўных гульняў з дзіцячымі кафэ, пунктамі гандлю сувенірамі, дзіцячае літаратуры і многае іншае.

А будзе ўсё гэта знаходзіцца прама ў цэнтры Мінска ў суседстве з цыркам, паміж Ленінскім праспектам і Свіслаччу. Месцазнаходжанне — лепш не прыдумаеш: праз рэчку — дзіцячы парк імя М. Горкага, з другога боку — парк імя Я. Купалы, праз мост — плошча Перамогі, непадалёк Дом літаратара, Палац мастацтваў, Тэатр юнага гледача, гістарычныя месцы Верхняга горада...

Чаму цэнтр эстэтычнага выхавання? Не, гэта можа быць і Інстытут дзіцячае творчасці, Акадэмія фантазіі... Прапануйце!

Але галоўнае, каб уся гэтая вялікая задума не ператварылася ў чарговую казку. Хутка казку расказваюць, ды няхутка справу робяць. А дзеці ўсё вырастаюць. А дарослыя ўсё «перабудоўваюцца». І што насцярожвае: у нас з'явілася ўжо досыць шмат ворагаў. Самых сапраўдных, яны з дыпломамі, яны ўсміхаюцца — некага не задавальняе кансалідацыя такога кшталту сіл, нехта зайздросціць і баіцца, што можа апынуцца заўтра адхіленым ад спраў, нехта чакае чарговых інструкцый, нехта... Ёсць ужо і канкрэтныя «героі» — будаўніча-мантажнае ўпраўленне № 2 «Мінскметрабуда», якое не жадае пакуль высяляцца з будынка, згодна з пастановаю Савета Міністраў БССР ад 02.06.1988 г., у другое, прадастаўленае яму памяшканне... Праўда, няхутка справа робіцца. Але надзеі мы не страчваем. Усё, пра што я расказаў, мажліва і будзе. Верыце?

Аляксандр КВЯТКОЎСКІ









Аляксандр КВЯТКОЎСКІ:

«Чалавек, што пайшоў»

«Дабрыдзень»



# нальшчаны

Цяпер ужо мала хто ведае, што гэтак называецца зямля з замкамі Крэва і Гальшаны, з горадам Ашмяны.

Нальшчанскія князі выказвалі непакору Наваградку, які збіраў вакол сябе беларускія і літоўскія землі. Вы, пэўна, чыталі пра Даўмонта («Крыніца», 1989, № 8), які ўзвысіў Пскоў, зрабіў яго магутнай крэпасцю. Сын Даўмонта — гарадзенскі староста Давыд — не пацярпеў ніводнага паражэння ад крыжакоў.

Пасля таго як Нальшчанская зямля ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага, Крэўскі замак стаў адной з рэзідэнцый гаспадара гэтае дзяржавы. Магутны замак пабудавалі і князі Гальшанскія. З гэтага роду паходзіць Ульяна — другая жонка Вітаўта Вялікага. З гэтага роду паходзіць і Соф'я — жонка былога вялікага князя літоўскага, польскага караля Ягайлы. Яна была не толькі маці, бабкай, прабабкай вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх Казіміра Ягайлавіча, Аляксандра, Яна Альбрэхта, Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста і Жыгімонта Вазы, не толькі маці, бабкай і прабабкай караля польскага і венгерскага Уладзіслава III, каралёў чэшскіх і венгерскіх Уладзіслава II і Людовіка, імператрыцы Свяшчэннай Рымскай імперыі Ганны, каралевы венгерскай Ізабелы, каралевы шведскай Кацярыны. Яна была таксама і мецэнаткай.

Тут, у замку, спела змова беларускіх магнатаў — князёў Івана Гальшанскага, Сямёна Слуцкага ды Фёдара Бельскага — супраць вялікага князя і караля Казіміра Ягайлавіча, змова, згадка пра якую легла ў аснову рамана Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі».

А цяпер зірніце: што засталося ад былое веліччы і славы! Старанием мясцовых уладаў на замчышчы выштукавалі ферму, выкапалі ямы для гноевых сцёкаў.

Зірніце, як нашы гаспадарнікі выкарыстоўваюць, як нашы маладыя сучаснікі «распісваюць» яшчэ адзін помнік нашае гісторыі і культуры — францысканскі касцёл Яна Хрысціцеля. Грошы на будаўніцтва гэтага храма даў канцлер вялікі літоўскі князь Леў Сапега, рэдактар і выдавец адной з першых у Еўропе канстытуцый — Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года.

Нядаўна выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» выдала Статут і тым самым вярнула нам помнік нашае дзяржаўнасці і культуры.

Хто верне прыгажосць францысканскага касцёла і замка Гальшанскага!

















Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА.



## ШТО МОЖА БЫЦЬ ЛЕПШАЕ ЗА ДРЭННАЕ НАДВОР'Е?

**Бо толькі дзякуючы яму вы надзенеце такі модны, лёгкі і зручны плашч БАБРУЙСКАЙ ШВЕЙНАЙ ФАБРЫКІ імя ДЗЯРЖЫНСКАГА.**

Па заказу Беларускага Цэнтра моды. Беларускае РВП «Саюзрэклама»




**І, вядома, купальнікі усіх расфарбовак, — з бліскучых, эластычных тканін — выпускае ГОМЕЛЬСКАЯ ПАНЧОШНА-ТРЫКАТАЖНАЯ ФАБРЫКА ІМЯ 8 САКАВІКА.**

Па заказу Беларускага Цэнтра моды. Беларускае РВП «Саюзрэклама».



## ДУЭТ... З ГАДЗІННІКАМ

**Ён якраз для Вас — гэты элегантны, модны гадзіннік папулярнай маркі «ЛУЧ».**

Па заказу ВА «Мінскі гадзіннікавы завод». Беларускае РВП «Саюзрэклама».


«Крыніца» 1989, № 10, 1—44
Індэкс 74824
Цана 25 кап.